Ігар Кузьмініч, Вітаўт Руднік



# АДСТОЙВАННЕ І ПАШЫРЭННЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА ПРАЗ ГРАМАДСКІ ЎДЗЕЛ

**Метадычны дапаможнік**

Ігар Кузьмініч, Вітаўт Руднік

# АДСТОЙВАННЕ І ПАШЫРЭННЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА ПРАЗ ГРАМАДСКІ ЎДЗЕЛ

Метадычны дапаможнік

Рэдактар: Н. Карнялюк

Дызайн: Silverbee designers, А.Ульяшына

Кузьмініч, І. Р., Руднік, В. Л.
Адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз грамадскі ўдзел:
Метадычны дапаможнік / І. Р. Кузьмініч, В. Л. Руднік. –
Варшава: Выд. «Агенцыя Каро», 2010. – 81 с.

ISBN 978-92-9234-789-5

---

Метадычны дапаможнік «Адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз грамадскі ўдзел» змяшчае метадычныя парады для адукатараў грамадскіх аб’яднанняў, настаўнікаў сярэдніх школ, выкладчыкаў малодшых курсаў ВНУ і іншых асоб, якія зацікаўленыя ў выхаванні сацыяльна актыўных грамадзян Рэспублікі Беларусь, а таксама ў абароне і пашырэнні правоў чалавека. Асаблівасцю дапаможніка з’яўляецца навучанне выкарыстанню сучасных форм і спосабаў грамадскага ўдзелу для пашырэння і абароны правоў чалавека. Гэты дапаможнік цесна звязаны з іншым адукацыйным рэсурсам, падрыхтаваным І. Кузьмінічам, – дапаможнікам «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй», які змяшчае метадычныя парады па падрыхтоўцы і правядзенні заняткаў па правах чалавека для моладзі.

Дапаможнік распрацаваны ў межах сумеснага праекту Бюро АБСЕ па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (АБСЕ БДІПЧ) і Еўрапейскай камісіі. Погляды, выкладзеныя ў дапаможніку, належаць аўтарам і неабавязкова адлюстроўваюць палітыку АБСЕ БДІПЧ і Еўрапейскага Саюзу.

# ЗМЕСТ

**УВОДЗІНЫ** 4

**ЯК КАРЫСТАЦЦА ДАПАМОЖНІКАМ** 7

**ЧАСТКА I. ГРАМАДСКІ ЎДЗЕЛ І ЯГО РОЛЯ Ў ПАШЫРЭННІ І АДСТОЙВАННІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА** 8

1. Грамадскі ўдзел і яго важнасць для пашырэння і абароны правоў чалавека 8
2. Спосабы вызначэння і аналізу праблем, звязаных з правамі чалавека 15
3. Вызначэнне мэтаў, задач і мэтавых груп грамадскіх кампаній 19
4. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз дзяржаўныя механізмы 23
5. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз грамадскія аб’яднанні 33
6. Формы грамадскага ўдзелу: кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці ў галіне правоў чалавека 37
7. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз удзел у розных этапах выбараў 41
8. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека на ўзроўні мясцовай супольнасці 45
9. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз працу са сродкамі масавай інфармацыі 49
10. Вызначэнне магчымых стратэгій дзейнасці ў межах грамадскіх кампаній 55
11. Стварэнне і арганізацыя дзейнасці працоўнай групы па рэалізацыі грамадскай кампаніі 60
12. Стварэнне працоўнага плану і каштарысу грамадскай кампаніі 65
13. Вызначэнне крытэрыяў і спосабаў ацэнкі грамадскай кампаніі 69
14. Правядзенне ацэнкі вынікаў грамадскіх кампаній 72

**ЧАСТКА II. ПРЫКЛАДЫ ГРАМАДСКІХ КАМПАНІЙ** 74

1. Грамадская кампанія «Ратуйце нашы вушы» 74
2. Грамадская кампанія «Захаваем жыццё дрэвам» 75
3. Грамадская кампанія «Мамаграфічнае абследаванне малочнай залозы — гарантыя жаночага здароўя» 76
4. Грамадская кампанія «Здаць кроў без бар’ераў!» 77
5. Грамадская кампанія «Зберажэнне лесу ў раёне мемарыяльнага комплексу «Гостра Могила» 78
6. Грамадская кампанія «Нараджаць па-людску» 79
7. Усеўкраінская кампанія па лабіраванні, падпісанні і ратыфікацыі Украінай Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў 80
8. Грамадская кампанія па забеспячэнні даступнасці нацыянальных стандартаў якасці і бяспекі прадукцыі і паслуг 81

# УВОДЗІНЫ

## 1. Мэта дапаможніка

Навучанне грамадзян формам і спосабам актыўнага ўдзелу ў жыцці грамадства з'яўляецца надзвычай важнай задачай. Сумесныя намаганні грамадзян могуць спрыяць вырашэнню многіх праблем, звязаных з правамі чалавека (асабліва на мясцовым узроўні), да якіх у дзяржавы часта «не даходзяць рукі» (не хапае грошай, праблема не адпавядае вызначаным прыярытэтам і г. д.). Рэальны ўдзел грамадзян у прыняцці важных для жыцця грамадства рашэнняў, у кантролі за іх выкананнем можа быць забяспечаны з дапамогай грамадскіх арганізацый і ініцыятыў, праз правядзенне грамадскіх кампаній і акцый. Дзякуючы гэтаму дзяржава атрымлівае магчымасць выкарыстання вялізнага стваральнага патэнцыялу сваіх грамадзян для развіцця ўсіх сфер жыцця грамадства, а грамадзяне могуць рэальна ўплываць на паляпшэнне якасці жыцця, адстойванне правоў чалавека і сваіх законных інтарэсаў.

Мэтай дапаможніка з'яўляецца метадычнае і зместавае забеспячэнне навучання актыўным спосабам адстойвання і пашырэння правоў чалавека. Правы чалавека патрабуюць абароны і пашырэння не толькі на міжнародным і нацыянальным узроўнях, але таксама і ў штодзённым жыцці кожнага чалавека на мясцовым узроўні. Актыўны ўдзел у стварэнні умоваў, якія б папярэджвалі парушэнні правоў чалавека і пашыралі б правы чалавека, павінны браць не толькі спецыяльна створаныя дзяржавай інстытуты (парламент, суды і г. д.), але і самі грамадзяне.

Адукатарам з грамадскіх арганізацый, настаўнікам, выкладчыкам універсітэтаў і проста грамадска-актыўным асобам прапануецца апісанне методыкі правядзення заняткаў, пабудаваных на аснове інтэрактыўных спосабаў арганізацыі навучання. Заняткі ў дапаможніку скіраваныя на фарміраванне ва ўдзельнікаў пачуцця грамадзянскай адказнасці, авалоданне практычнымі ведамі і уменнямі па актыўным пашырэнні і адстойванні правоў чалавека, развіццё грамадзянскіх кампетэнцый, такіх як уменне весці дыялог, вырашаць канфлікты, прымаць адказныя рашэнні, крытычна мысліць, распрацоўваць і выконваць грамадска-значныя праекты. Удзельнікі заняткаў навучацца сумесна вызначаць і аналізаваць праблемы, звязаныя з правамі чалавека, ствараць і рэалізоўваць грамадскія кампаніі, скіраваныя на вырашэнне гэтых праблем, ацэньваць свае дзеянні.

Дапаможнік можна выкарыстоўваць ў нефармальнай адукацыі (для навучання як моладзі, так і дарослых), у межах праграмы выхавання ў школах (напрыклад, у пазашкольнай працы, правядзенні класных і выхаваўчых гадзін, у клубах шостага дня, у час летнікаў і г. д.), а таксама ва ўніверсітэтах. У фармальнай адукацыі гэта можа быць цыкл заняткаў на працягу некалькіх месяцаў, падчас якога ўдзельнікі паступова распрацоўваюць, а затым рэалізуюць свае грамадскія кампаніі альбо акцыі. У другім выпадку гэта можа быць 4—6-дзённы трэнінг, на працягу якога ўдзельнікі распрацуюць свае кампаніі альбо акцыі. Пасля таго, як яны будуць рэалізаваныя, спатрэбіцца яшчэ адна сустрэча для падсумавання вынікаў праведзеных дзеянняў.

Праграмы навучання розным формам актыўнага ўдзелу моладзі і дарослых у жыцці грамадства існуюць і ў іншых дзяржавах. Узгадаем толькі некалькі такіх праграм — праект «Грамадзянін» (Расійская федэрацыя), «Моладзь — дзейнічай» і «Навучанне грамадскай працы на карысць супольнасці» (ЗША), «Грамадская дзейнасць моладзі» (Польшча), Маладзёжныя рады па пытаннях дэмакратыі ў мясцовых супольнасцях (Украіна).[1]

Прапанаваная ў дапаможніку праграма навучання таксама спрыяе выкананню Дзяржаўнай праграмы «Моладзь Беларусі» на 2006—2010 гады (п. 5.2, 5.3 і 5.4[2]) і Закону «Аб асновах дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі», прынятага 7 снежня 2009 г.

---

1 Гэтыя праграмы (апроч праекта «Грамадзянін», які зрэшты заснаваны на такім самым падыходзе, што і польская праграма «Грамадская дзейнасць моладзі») былі абраныя ў зборнік паспяховых практык у галіне адукацыі па правах чалавека, складзены сумесна АБСЕ БДІПЧ, Радай Еўропы, ЮНЭСКА і Упраўленнем Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека (http://tandis.odihr.pl/documents/hre-compendium/)

2 «...В рамках реализации республиканской программы предполагается решение следующих задач: <...>

5.2. патриотическое воспитание молодых граждан, формирование у них правовой и политической культуры, мотивации к осознанному, ответственному и активному участию в общественной жизни страны;

5.3. улучшение условий для активного и эффективного участия молодежи в социально-экономической жизни общества;

5.4. совершенствование позитивных молодежных инициатив, соответствующих идеологии и направлениям социально-экономического развития белорусского государства...» (гл.: http://www.president.gov.by/press28323.html).

## 2. Як ствараўся гэты дапаможнік і як ён звязаны з дапаможнікам «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй»

Падрыхтоўка дапаможніка адбывалася на працягу 2008—2010 гг. Яго канцэпцыя і заняткі распрацоўваліся і ўдакладняліся падчас адукацыйнай праграмы, а таксама на падставе практычнага досведу правядзення мясцовых грамадскіх кампаній. Удзел у праграме бралі настаўнікі школаў, выкладчыкі юрыдычных клінік «Права на кожны дзень/Street Law», адукатары грамадскіх аб'яднанняў і грамадскія актывісты з розных рэгіёнаў Беларусі. На пачатку 2010 г. большасць заняткаў, якія ўвайшлі ў дапаможнік, была апрабаваная на базе сярэдніх школ, ВНУ і грамадскіх аб'яднанняў з Мінска, Гродна, Магілёва, Смаргоні і Оршы, што дазволіла адкарэкціраваць канцэпцыю дапаможніка, тэматыку і структуру асобных заняткаў.

У дапаможнік таксама ўключаныя апісанні беларускіх і замежных грамадскіх кампаній, скіраваных на павышэнне ўдзелу грамадскасці ў адстойванні і пашырэнні правоў чалавека.
Канчатковы варыянт дапаможніка з'явіўся пасля рэцэнзавання метадычных матэрыялаў экспертамі ў галіне педагогікі, грамадскага ўдзелу і права.

Выданне падрыхтавана з улікам досведу распрацоўкі папярэдняга метадычнага дапаможніка «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй», які можна знайсці ў Інтэрнэце (на старонцы http://hramadzianin.org/library.php?mild=26&lang=by), і мае структурнае, зместавае і філасофскае падабенства да яго. І адзін, і другі дапаможнікі прысвечаны абароне і пашырэнню правоў чалавека ды грунтуюцца на разуменні правоў чалавека як катэгорыі, якая ўлічвае як нарматывісцкі, так і каштоўнасны падыхода, якія разам складаюць механізм развіцця правоў чалавека.[3] Тэмы абодвух публікацый звязаныя паміж сабой (заняткі па формах грамадскага ўдзелу з гэтага дапаможніка суадносяцца з заняткамі іншага рэсурсу: «Нацыянальныя механізмы абароны правоў чалавека», «Чалавек і дзяржава», «Правы чалавека ў сучасным свеце», «Актыўны грамадзянін», «Дэмакратыя», «Дэмакратыя ў школе. Школьнае самакіраванне»).

Разам з тым, дапаможнікі адрозніваюцца паміж сабой тым, што базіруюцца на двух розных спосабах дзейнасці ў сферы правоў чалавека. Калі ў першым выданні разглядаюцца збольшага пытанні рэагавання на здзейсненыя парушэнні, то ў дадзеным дапаможніку гаворка ідзе найперш пра арганізацыю дзейнасці на мясцовым узроўні з мэтай не дапусціць парушэння правоў чалавека, папярэдзіць іх.

## 3. Асаблівасць прапанаванага ў дапаможніку падыходу да навучання грамадскаму ўдзелу ў галіне правоў чалавека

Інавацыйнасць дапаможніка заключаецца ў тым, што сам працэс навучання моладзі, далучэння яе да каштоўнасцяў беларускай дэмакратычнай, прававой і сацыяльнай дзяржавы адбываецца праз практыку – распрацоўку і выкананне кампаній па вырашэнні праблем, звязаных з правамі чалавека. Пасля занятку 1, які знаёміць ўдзельнікаў з тым, што такое грамадскі ўдзел, правы чалавека і з іншымі важнымі паняццямі, на наступных двух занятках удзельнікі пачынаюць распрацоўваць канцэпцыі рэальных грамадскіх кампаній альбо іншых дзеянняў, скіраваных на адстойванне і прасоўванне правоў чалавека, вырашэнне важных мясцовых праблем: вучацца вызначаць і аналізаваць грамадскія праблемы, фармуляваць мэты і задачы дзейнасці, вызначаць мэтавыя групы.

З дапамогай заняткаў 4—9 удзельнікі могуць пазнаёміцца з асобнымі формамі і спосабамі, якія можна выкарыстоўваць, адстойваючы інтарэсы мясцовай супольнасці (праз выкарыстанне дзяржаўных механізмаў адстойвання і пашырэння правоў чалавека, працу з грамадскімі арганізацыямі альбо СМІ, удзел у выбарчых кампаніях, распрацоўку грамадскіх кампаній, іншыя дзеянні на ўзроўні мясцовай супольнасці).

З запамогай заняткаў 10—13 удзельнікі змогуць абраць стратэгію сваіх дзеянняў, скіраваных на вырашэнне грамадскіх праблем, стварыць працоўны план, пралічыць неабходныя для рэалізацыі запланаваных дзеянняў выдаткі, спланаваць працу па прыцягненні людзей да рэалізацыі сваіх кампаній альбо акцый, вызначыць крытэрыі ацэнкі эфектыўнасці запланаваных дзеянняў.

---

3 Нарматывісцкі падыход да правоў чалавека азначае, што правы чалавека забяспечваюцца праз заканадаўства і міжнароднае права з дапамогай адпаведных міжнародных і нацыянальных структур. Каштоўнасны падыход базіруецца на ўсведамленні правоў чалавека як базавых каштоўнасцяў, на падставе якіх людзі наладжваюць адносіны паміж сабой (больш падрабязна пра суадносіны нарматывісцкага і каштоўнаснага падыходаў можна паглядзець у занятку 1 дапаможніка «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй».).

Пасля гэтага распачынаецца практычны этап навучання – удзельнікі рэалізуюць спланаваныя імі грамадскія кампаніі альбо акцыі. На дадзеным этапе навучэнцы могуць, калі ёсць патрэба і магчымасць, збірацца на сумесныя сустрэчы, каб абмяркоўваць бягучыя моманты сваіх кампаній.

Пасля сканчэння гэтага этапу праводзіцца занятак 14, скіраваны на ацэнку дасягнутых вынікаў.

Перавагай прапанаванай у дапаможніку навучальнай праграмы з'яўляецца яшчэ і тое, што, як правіла, правядзенне грамадскіх кампаній не патрабуе значных людскіх ці матэрыяльных рэсурсаў, і, разам з тым, такія кампаніі могуць рэальна вырашаць праблемы грамадства на мясцовым узроўні, ствараючы ва ўдзельнікаў перакананасць у неабходнасці актыўна ўдзельнічаць у вырашэнні праблемаў грамадства.
Заняткі, прапанаваныя ў дапаможніку, базіруюцца на выкарыстанні інтэрактыўных формаў і метадаў навучання, што дазваляе больш плённа арганізаваць навучанне правам чалавека і грамадскаму ўдзелу.

Навучаць грамадскаму ўдзелу, шанаванню правоў чалавека, фарміраванню сацыяльна-актыўнага грамадзяніна можна толькі ў атмасферы павагі да навучэнца як асобы, ва ўмовах, дзе кожны ўдзельнік можа мець магчымасць выказвання свайго пункту гледжання, актыўнага ўдзелу ва ўсіх этапах навучання і практычнай дзейнасці. Інтэрактыўныя формы і метады таксама спрыяюць развіццю крытычнага мыслення, вучаць навучэнцаў весці аргументаваную дыскусію, адстойваць свой пункт гледжання, матывуюць асобу да актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці, што спрыяе развіццю актыўнай грамадзянскай пазіцыі. Акрамя гэтага, інтэрактыўныя формы і метады навучання з'яўляюцца больш эфектыўнымі ў засваенні навучальнага матэрыялу і найбольш пасуюць для абранай намі стратэгіі навучання праз практыку.

### 4. Асаблівасць падыходу дапаможніка да грамадскага ўдзелу

Першай адметнасцю дапаможніка з'яўляецца тое, што грамадскі ўдзел разглядаецца ў якасці механізма вырашэння праблем у галіне правоў чалавека. Асобы, якія будуць навучацца з дапамогай гэтых матэрыялаў, будуць самастойна і з прыцягненнем іншых прадстаўнікоў сваіх мясцовых супольнасцяў выяўляць і вырашаць праблемы, звязаныя з парушэннямі правоў чалавека, ці праблемы, якія могуць прыводзіць да ўзнікнення такіх сітуацый. Гэта будзе спрыяць рэалізацыі законных правоў і інтарэсаў грамадзян.

Другая адметнасць дапаможніка ў тым, што ён разглядае грамадскі ўдзел як асобнае права чалавека (права на ўдзел у грамадскім жыцці). Гэтае права зафіксаванае ў міжнародных нормах па правах чалавека (напрыклад, Канвенцыі аб правах дзіцяці, Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах, Орхускай канвенцыі) і тлумачэннях міжнародных органаў па правах чалавека (напрыклад, у Заўвазе агульнага парадку № 12 Камітэту па правах дзіцяці, якая вылучае «права дзіцяці быць пачутым» у якасці адной з фундаментальных асноў Канвенцыі аб правах дзіцяці, а значыць — і іншых адпаведных міжнародных актаў).

Гарантыі, якія даюцца міжнародным і нацыянальным заканадаўствам адносна права чалавека на грамадскі ўдзел, азначаюць таксама, што дзяржаўныя органы маюць абавязак забяспечыць кожнай асобе эфектыўную магчымасць карыстацца гэтым правам і ўсяляк спрыяць дзейснаму ўдзелу асоб у жыцці грамадства.

---

Над стварэннем гэтага выдання працавала вялікая колькасць людзей.
Выказваем шчырую падзяку польскім, расійскім і ўкраінскім экспертам, якія прадставілі для гэтага зборніка апісанне сваіх грамадскіх кампаній. У прыватнасці, дзякуй Івану Паўлаву з «Інстытута Развіцця Свабоды Інфармацыі» (Санкт-Пецярбург, Расія), Ларысе Байда з «Нацыянальнай Асамблеі інвалідаў Украіны» (Кіеў, Украіна), Уладзіміру Шчарбачэнку з «Усходнеўкраінскага Цэнтра грамадскіх ініцыятыў» (Луганск, Украіна) і Ганне Атфіноўскай і Уршулі Кубіцкай-Крашыньскай з Фонду «Нараджаць па-людску» (Варшава, Польшча).

Шчыра дзякуем беларускім удзельнікам адукацыйнай праграмы па адстойванні і пашырэнні правоў чалавека праз падрыхтоўку і правядзенне мясцовых грамадскіх кампаній — Марыне Бялевіч і Ірыне Фрэнкель са Смаргоні, Алегу Граблеўскаму і Віктару Андрэеву з Оршы, Таццяне Казлоўскай, Алене Куравай і Ігару Каваленку з Магілёва, Алене Вінчэўскай, Вользе Шульзе і Рэнаце Дземянчук з Гродна, Іне Сяргеенка, Вользе Санельнікавай, Інзе Калеко, Наталлі Бараўлі з Мінска. Усе яны бралі актыўны ўдзел у распрацоўцы і правядзенні мясцовых грамадскіх кампаній (апісанне некаторых з іх прадстаўлена ў дапаможніку), а таксама ў тэставанні матэрыялаў дапаможніка на базе школаў і грамадскіх арганізацый Беларусі. Асобная падзяка Лене Валачай, украінскаму эксперту ў галіне правоў чалавека і грамадскай актыўнасці, за яе змястоўныя прапановы па ўдасканаленні публікацыі, а таксама перакладчыку Джыму Дынглі.

# ЯК КАРЫСТАЦЦА ДАПАМОЖНІКАМ

Выданне складаецца з уводзінаў, парадаў па карыстанні дапаможнікам, асноўнай часткі, у якую ўваходзяць заняткі па формах грамадскага ўдзелу і арганізацыі грамадскіх кампаній, а таксама з прыкладаў грамадскіх кампаній, рэалізаваных у Беларусі і суседніх краінах: у Польшчы, Украіне і Расіі.
Заняткі выкладаюцца ў паслядоўнасці паэтапнага стварэння грамадскіх кампаній і ўяўляюць сабой адзінства, звязанае логікай выкладання матэрыялу для ўдзельнікаў. У сувязі з гэтым змяняць парадак правядзення заняткаў не рэкамендуецца (мяняць месцамі можна толькі заняткі з чацвёртага па дзявяты, дзе абмяркоўваюцца асноўныя формы грамадскага ўдзелу).

Кожны занятак утрымлівае кароткае апісанне магчымага сцэнару яго правядзення з прапанаванымі варыянтамі заданняў, тлумачальную інфармацыю, якая павінна дапамагчы лепш зразумець сутнасць тых альбо іншых навучальных дзеянняў настаўніка ці адукатара, дадатковую інфармацыю, пытанні для дыскусій, падсумавання вынікаў асобных практыкаванняў і занятку ў цэлым. У прапанаваных сцэнарах правядзення заняткаў апісваюцца метады, якія могуць быць выкарыстаныя ў час асобных практыкаванняў.

Да кожнага з заняткаў прыкладаецца раздаткавы матэрыял для навучэнцаў.
Прапанаваныя ў дапаможніку заняткі разлічаны на 45 і 90 хвілін. Разам з тым, час правядзення заняткаў можа змяняцца ў залежнасці ад складу тых, хто бярэ ўдзел у навучанні, а таксама іншых рамкавых умоваў.

У прапанаваных занятках выкарыстоўваюцца метады, падобныя да тых, якія апісаныя ў дапаможніку «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй». Знайсці апісанне некаторых метадаў можна на старонцы ў Інтэрнэце: www.hramadzianin.org

Нарэшце, у дапаможніку прыведзены прыклады грамадскіх кампаній, распрацаваных і рэалізаваных у Беларусі і суседніх краінах. Гэтыя матэрыялы можна выкарыстоўваць як дадатковую базу для падрыхтоўкі да заняткаў, а таксама ў якасці дапаможнага матэрыялу ў час правядзення заняткаў (для дэманстрацыі прыкладаў фармулёўкі праблемных сітуацый, вызначэння мэтаў грамадскіх кампаній, формаў грамадскага ўдзелу, ацэнкі дасягнутых вынікаў і г. д.).

# ЧАСТКА І. ГРАМАДСКІ ЎДЗЕЛ І ЯГО РОЛЯ Ў ПАШЫРЭННІ І АДСТОЙВАННІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

## 1. Грамадскі ўдзел і яго важнасць для пашырэння і абароны правоў чалавека

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

### Чаканыя вынікі

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - што такое правы чалавека і іх класіфікацыю;
  - што такое грамадскі ўдзел;
  - мадэль грамадскага ўдзелу;
  - формы грамадскага ўдзелу;
  - чаму грамадскі ўдзел важны для адстойвання і пашырэння правоў чалавека.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - растлумачыць, што такое грамадскі ўдзел і чаму ён важны для адстойвання і пашырэння правоў чалавека;
  - растлумачыць сутнасць мадэлі грамадскага ўдзелу.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да грамадскага ўдзелу як да ключавога элемента, які забяспечвае стварэнне і падтрымку механізма пашырэння і абароны правоў чалавека, а таксама функцыянаванне дэмакратыі.

### План заняткаў

1. Факусаванне ўвагі: што такое грамадскі ўдзел — 10 хв.
2. Прадстаўленне тэмы і чаканых вынікаў занятку — 1 хв.
3. Што такое правы чалавека. Прыклады правоў чалавека — 15 хв.
4. Што такое грамадскі ўдзел — 20 хв.
5. Мадэль грамадскага ўдзелу — 15 хв.
6. Формы грамадскага ўдзелу — 20 хв.
7. Падсумаванне занятку — 9 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі (10 хв.).**
Прачытайце ўдзельнікам апісаны ніжэй выпадак. Папрасіце іх адказаць на пытанне, ці ёсць у гэтым выпадку факты парушэння правоў чалавека. Калі так, то якія?

Выпадак у горадзе Н.

У новым мікрараёне горада Н. у 20 метрах ад жылых дамоў пачалося будаўніцтва аўтазапраўкі. Жыхары былі абураныя гэтым фактам, паколькі лічылі, што выхлапныя газы аўтамабіляў і пары паліва будуць кепска ўплываць на іх здароўе, а таксама на навакольнае асяроддзе.

Спробы дамовіцца з кіраўніцтвам фірмы, якая вяла будоўлю, пра перанос запраўкі ў іншае месца не далі вынікаў. Тады жыхары звярнуліся да мясцовых уладаў з патрабаваннем правесці адкрытыя грамадскія слуханні, каб абмеркаваць на іх магчымае ўздзеянне навабудоўлі на здароўе людзей і навакольнае асяроддзе. Улады адмовіліся гэта зрабіць, спаслаўшыся на тое, што фірма атрымала права весці будаўніцтва запраўкі на законных падставах, і таму няма прычын абмяркоўваць гэтае рашэнне. Зварот у пракуратуру таксама не прынёс вынікаў — пракуратура адаслала зварот мясцовым уладам.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

У дадзеным выпадку парушаныя наступныя правы чалавека: права на доступ да інфармацыі, права на ўдзел у прыняцці рашэнняў, права кожнага жыць у навакольным асяроддзі, спрыяльным для яго здароўя і дабрабыту, а таксама права на доступ да правасуддзя (пракуратура абавязана праверыць законнасць рашэння аб будаўніцтве запраўкі).
У прыватнасці, Орхуская Канвенцыя аб доступе да інфармацыі, удзеле грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэнняў і доступе да правасуддзя па пытаннях, якія тычацца навакольнага асяроддзя, падпісаная ў 1998 г. і ухваленая Беларуссю, абавязвае «*для садзейнічання абароне права кожнага чалавека… жыць у навакольным асяроддзі, спрыяльным для яго здароўя і дабрабыту*» гарантаваць «*права на доступ да інфармацыі… па пытаннях, якія тычацца навакольнага асяроддзя*».

Патлумачце ўдзельнікам, што на гэтым занятку мы будзем гаварыць пра тое, якім чынам грамадзяне могуць браць удзел у вырашэнні пытанняў, звязаных з парушэннямі правоў чалавека альбо папярэджаннем такіх парушэнняў.

**2. Прадстаўце тэму і чаканыя вынікі занятку (1 хв.).**

**3. Што такое правы чалавека. Прыклады правоў чалавека (15 хв.).**
Запытайце ва ўдзельнікаў занятку, ці сутыкаліся яны калі-небудзь з парушэннямі іх правоў альбо правоў іншых людзей? Што яны ўкладаюць у сэнс тэрміна *правы чалавека*?

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Можна прапанаваць удзельнікам наступнае вызначэнне: «*Правы чалавека — гэта сістэма каштоўнасцей, нормаў і механізмаў, якія накіраваныя на абарону годнасці асобы ў яе адносінах з дзяржавай*». Для глыбейшага разумення сутнасці тэрміну *правы чалавека* раздайце ўдзельнікам матэрыял з раздатка 1.1. і абмяркуйце яго.

Для тлумачэння суадносінаў каштоўнаснага і нарматывісцкага падыходаў да правоў чалавека, «вертыкальных» і «гарызантальных» адносінаў выкарыстайце матэрыялы дапаможніка «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй» (заняткі 1 і 1.1).
Запытайце, якія правы чалавека ведаюць удзельнікі? Раздайце ім раздатак 1.2. і патлумачце прапанаваныя прыклады правоў чалавека.

**4. Што такое грамадскі ўдзел (20 хв.).**
Запытайце ва ўдзельнікаў, ці даводзілася ім у той альбо іншай форме ўдзельнічаць у жыцці грамадства (напрыклад, у школе, у мясцовасці, дзе яны жывуць, ці іншым чынам). Калі так, то для чаго яны гэта рабілі, што гэта ім дало? Калі не, то чаму не ўдзельнічалі?
Аб’яднайце ўдзельнікаў у 2 групы. Задачай першай групы будзе агучванне пераваг, якія дае грамадзянам іх актыўны ўдзел у жыцці грамадства і дзяржавы.
Задачай другой групы будзе агучванне пераваг, якія дае *грамадству і дзяржаве* актыўны ўдзел грамадзян.
Кожная група па чарзе называе перавагі, якія фіксуюцца адукатарам на асобных аркушах паперы.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

У час падсумавання вынікаў гэтага практыкавання можна абапірацца на дадатковую інфармацыю, прыведзеную ў канцы занятку. Патлумачце ўдзельнікам, што людзі больш актыўна ўключаюцца ў нейкую дзейнасць альбо дапамагаюць іншым людзям тады, калі разумеюць, якія выгоды і перавагі ім гэта дае. У сувязі з гэтым перад пачаткам любой дзейнасці, скіраванай на вырашэнне грамадскіх праблем, паляпшэнне якасці жыцця людзей, трэба ўяўляць і ўмець аргументавана прадстаўляць тыя эфекты, якія атрымаюць людзі (у тым ліку прадстаўнікі дзяржаўных структур) у выніку ўдзелу ў запланаваных вамі дзеяннях.

Прапануйце групе тэрмін *грамадскі ўдзел* і патлумачце яго.
*Грамадскі ўдзел — гэта дзейнасць, якая прадугледжвае ўключанасць грамадзян у кіраванне краінай, абмеркаванне і распрацоўку палітычных, сацыяльна-эканамічных, культурных праграм і праектаў, здзяйсненне ўплыву на прыняцце рашэнняў і кантроль за іх выкананнем на мясцовым, нацыянальным ці міжнародным узроўнях (альбо на некалькіх ці ўсіх узроўнях адразу).*

Патлумачце ўдзельнікам, што грамадскі ўдзел з’яўляецца асновай дэмакратыі, бо менавіта праз актыўны ўдзел у жыцці грамадства можна ўплываць на прыняцце найважнейшых рашэнняў, якія тычацца функцыянавання гэтага грамадства.

Акрамя таго, грамадскі ўдзел з'яўляецца ключавым элементам, які забяспечвае стварэнне і падтрымку механізма пашырэння і абароны правоў чалавека ў грамадстве.
Гарантыі ўдзелу грамадзян у жыцці грамадства і дзяржавы ўтрымліваюцца ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і многіх міжнародных прававых актах, якія падпісала наша краіна (гл. дадатковую інфармацыю ў канцы занятку).

**5. Мадэль грамадскага ўдзелу (15 хв.).**
Запытайце ўдзельнікаў: «З якіх этапаў маглі б складацца дзеянні па вырашэнні праблем, звязаных з парушэннем правоў чалавека?»
Раздайце (альбо прадстаўце ў выглядзе намаляванай на дошцы схемы) і патлумачце ўдзельнікам прапанаваную ў раздатку 1.3. схему «Мадэль грамадскага ўдзелу». Зрабіце гэта на прыкладзе гісторы з аўтазапраўкай, агучанай на пачатку занятку. Патлумачце, што першым крокам грамадзян, якія хочуць сумеснымі намаганнямі вырашыць тую альбо іншую праблему, павінна стаць яе «ідэнтыфікацыя» (што менавіта з'яўляецца праблемай?). У дадзеным выпадку праблемай з'яўляецца пагроза здароўю людзей.
Наступны крок — сумеснае выяўленне прычын (чаму так здарылася?) існавання праблемы. У дадзеным выпадку прычынай стала парушэнне права грамадзян на доступ да інфармацыі адносна навакольнага асяроддзя, што праявілася ў будаўніцтве небяспечнага для здароўя людзей аб'екта, якое распачалося без кансультацый з імі, і іх ніхто не праінфармаваў пра магчымыя наступствы будаўніцтва для здароўя людзей ды навакольнага асяроддзя.
Далейшы крок — сумеснае планаванне дзеянняў, накіраваных на вырашэнне праблем (як можна вырашыць гэтую праблему?). У дадзеным выпадку грамадзяне маглі б запланаваць, напрыклад, звярнуцца ў суд, каб абскардзіць рашэнне пра будаўніцтва запраўкі, правесці грамадскую акцыю, скіраваную на прыцягненне ўвагі да праблемы і г. д.
Далейшымі этапамі сталі б сумесныя дзеянні па вырашэнні гэтай праблемы і сумесная ацэнка дасягнутых вынікаў.
Патлумачце, што на аснове гэтай схемы могуць базіравацца калектыўныя дзеянні грамадзян, скіраваныя на абарону правоў чалавека, прасоўванне сваіх законных правоў і інтарэсаў. Менавіта на аснове гэтай мадэлі будуць пабудаваныя ўсе наступныя заняткі па матэрыялах гэтага дапаможніка. Па падобнай логіцы ствараюцца канцэпцыі грамадскіх кампаній, скіраваных на абарону і пашырэнне правоў чалавека.
Падкрэсліце, што надзвычай важна стымуляваць актыўны ўдзел у жыцці грамадства як мужчын, так і жанчын, максімальна ўлічваць іх інтарэсы ў час рэалізацыі грамадскіх кампаній і акцый.
Патлумачце ўдзельнікам, што на наступных занятках яны якраз і будуць вучыцца выяўляць і правільна фармуляваць праблемныя сітуацыі ў грамадстве, вызначаць мэты і задачы дзейнасці па вырашэнні гэтых праблем, мэтавыя групы, з якімі ім давядзецца працаваць, абіраць адпаведныя сітуацыям формы і метады дзейнасці, ствараць планы і каштарысы грамадскіх кампаній, скіраваных на вырашэнне праблем, планаваць арганізацыю працы груп, якія будуць займацца гэтымі кампаніямі і г. д.

**6. Формы грамадскага ўдзелу (20 хв.).**
Нагадайце ўдзельнікам, што грамадскі ўдзел можа ажыццяўляцца з дапамогай розных формаў. Задайце ўдзельнікам пытанне: «Якія актыўныя дзеянні можна распачаць у выпадку з запраўкай?»
З адказаў атрымаецца спіс магчымых формаў грамадскага ўдзелу.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Пералік формаў удзелу грамадзян у жыцці грамадства і дзяржавы можа быць вельмі вялікім. Звярніце ўвагу на найбольш распаўсюджаныя і вядомыя формы, такія, як напісанне калектыўных зваротаў, прапановаў, скаргаў у органы ўлады, удзел у дзейнасці грамадскіх аб'яднанняў, ініцыіраванне грамадскіх акцый і кампаній, прыцягненне ўвагі грамадскасці да важных пытанняў з дапамогай СМІ, удзел у выбарах і г. д. Для дадатковай інфармацыі па формах грамадскага удзелу гл. занятак 10 дадзенага дапаможніка («Вызначэнне магчымых стратэгій дзейнасці ў межах грамадскіх кампаній»). Патлумачце, што ў час правядзення іншых заняткаў па матэрыялах дапаможніка можна будзе пазнаёміцца з асаблівасцямі кожнай з гэтых формаў грамадскага ўдзелу.

**7. Падсумаванне вынікаў заняткаў (9 хв.).**
Падсумаванне вынікаў можна правесці з дапамогай наступных пытанняў (не абавязкова ўсіх альбо толькі гэтых):

- Якія правы чалавека вы ведаеце?
- Якім чынам людзі могуць адстойваць свае правы?
- Якія перавагі можа даць грамадзянам актыўны ўдзел у жыцці грамадства і дзяржавы?
- У чым сутнасць разгледжанай на занятках мадэлі грамадскага ўдзелу?
- Якія праблемы, звязаныя з правамі чалавека, вы бачыце ў сваёй мясцовасці?

## ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Апошняе пытанне дапаможа адукатару зразумець ступень ведання навучэнцамі мясцовых праблемаў, каб лепш падрыхтавацца да наступных заняткаў, якія будуць прысвечаны выяўленню і аналізу праблем, звязаных з правамі чалавека ў іх мясцовасці.

Падзякуйце за ўдзел у занятках!

## ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Прававыя гарантыі ўдзелу грамадзян у жыцці грамадства і дзяржавы**
Ідэя грамадскага ўдзелу ляжыць у аснове існавання любой дэмакратычнай дзяржавы. Удзел грамадзян у прыняцці рашэнняў, кантролі за іх выкананнем, у фарміраванні і дзейнасці структур самакіравання і арганізацый грамадзянскай супольнасці замацаваны ў Канстытуцыях і заканадаўчых актах, з'яўляецца агульнапрызнанай неад'емнай часткай працэсу фарміравання грамадзянскай супольнасці і развіцця дэмакратычнага грамадства.
Так, арт. 37 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь права ўдзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў як непасрэдна, так і праз свабодна выбраных прадстаўнікоў. Непасрэдны ўдзел грамадзян у кіраванні справамі грамадства і дзяржавы забяспечваецца правядзеннем рэферэндумаў, абмеркаваннем праектаў законаў і пытанняў рэспубліканскага і мясцовага значэння, іншымі вызначанымі законам спосабамі. У парадку, устаноўленым заканадаўствам, грамадзяне Рэспублікі Беларусь прымаюць удзел у абмеркаванні пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця на рэспубліканскіх і мясцовых сходах.
Артыкул 25 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП) прызнае і абараняе права кожнага грамадзяніна прымаць удзел у вядзенні дзяржаўных справаў праз свабодна абраных у час выбараў прадстаўнікоў. Варта паглядзець заўвагі агульнага парадку да арт. 25 МПГПП, прадстаўленыя Камітэтам ААН па правах чалавека, http://www1.umn.edu/humanrts/russian/gencomm/Rhrcom25.html, дзе падрабязна тлумачыцца сутнасць арт. 25 МПГПП.

Грамадзяне прымаюць удзел у вядзенні дзяржаўных справаў у межах агульнанародных дыскусій і дыялогу са сваімі прадстаўнікамі альбо шляхам ажыццяўлення свайго права на арганізацыю. Такому ўдзелу спрыяе свабода выражэння, свабода мірных сходаў і свабода асацыяцый (аб'яднанняў). Пры гэтым абараняецца права кожнага грамадзяніна. Не дапускаецца аніякая дыскрымінацыя грамадзян па прыкмеце расы, пола, мовы, рэлігіі, палітычных альбо іншых перакананняў, нацыянальнага альбо сацыяльнага паходжання, маёмаснага стану, нараджэння альбо іншых абставінаў.

Сам тэрмін *грамадзяне* выкарыстоўваецца ў гэтым дапаможніку не як азначэнне людзей, якія маюць грамадзянства Беларусі, а як прадстаўнікоў беларускага грамадства, і таксама ўключае людзей, якія не з'яўляюцца грамадзянамі нашай краіны, але знаходзяцца на яе тэрыторыі (напрыклад, студэнты, уцекачы і інш.). Гэтыя людзі маюць тыя самыя правы чалавека ў Беларусі за выключэннем некаторых палітычных правоў (напрыклад, права галасаваць і быць абраным на дзяржаўную пасаду).
Грамадскі ўдзел павышае адчуванне людзьмі сваёй далучанасці да вырашэння важных грамадскіх спраў, мабілізуе калектыўныя дзеянні для дасягнення зменаў, прыцягвае дадатковыя рэсурсы, стварае ўзаемны давер і гэтым самым «скарачае выдаткі на кантроль за выкананнем пагадненняў і кантрактаў як фармальнай асновы грамадскага ўзаемадзеяння»[4].
**Аргументы на карысць грамадскага ўдзелу:**

- ўздымае самаацэнку і адчуванне ўласнай годнасці;
- з'яўляецца крыніцай новага разумення праблем, інфармацыі, ведаў, досведу, што спрыяе павышэнню якасці рашэнняў і дзеянняў;
- часта спрашчае мясцовым уладам выкананне іх працы; без грамадскай падтрымкі мноства добрых ідэй і праектаў ніколі не былі б рэалізаваныя;[5]
- робіць дзейнасць улады больш зразумелай для шараговых грамадзян, больш адпаведнай іх патрэбам;
- дае шанец на знаходжанне інавацыйных спосабаў вырашэння грамадскіх праблем;
- робіць грамадства лепш інфармаваным пра дзейнасць і планы ўладаў;
- дапамагае лепш вызначыць прыярытэты і лепш размеркаваць рэсурсы;
- спрыяе хуткаму атрыманню інфармацыі пра новыя праблемы (яшчэ да таго моманту, пакуль іх маштаб не стаў крытычным);
- спрыяе лепшаму разуменню сутнасці грамадскіх праблем, якімі давядзецца займацца;
- робіць больш верагоднай падтрымку дзейнасці уладаў з боку насельніцтва.[6]

---

4 Степаненко, В. Социальный капитал в социологической перспективе: теоретико-методологические аспекты исследования //Социология: теория, методы, маркетинг, 2002, №2. С. 30.
5 Smith, Keith L. Citizen Participation in Community Development http://ohioline.osu.edu/cd-fact/l700.html
6 Dlugosz, D., Wygnanski J. J. Obywatele wspoldecyduja. Przewodnik po partycypacji spolecznej. Warszawa, 2005 – 12 с.

## РАЗДАТАК 1.1.

**Паняцце** *правы чалавека*

Правы чалавека — гэта сістэма каштоўнасцяў, нормаў і механізмаў, якія накіраваныя на абарону годнасці асобы ў яе дачыненнях з дзяржавай.

Правы чалавека ўзніклі для таго, каб абмежаваць уладу дзяржавы над чалавекам, для таго, каб *абавязаць* дзяржаву будаваць адносіны з чалавекам на прынцыпе павагі да чалавечай годнасці.
Правы чалавека даюцца кожнаму чалавеку ад нараджэння і вынікаюць з яго прыроды. Гэта значыць, што чалавек мае права на асабістую свабоду не праз тое, што нехта яму гэта дазваляе. Чалавек мае права быць свабодным, права навучацца, жыць і г. д. таму, што ён нарадзіўся чалавекам.

Паходжанне правоў чалавека, іх натуральная прырода, цесна звязаныя з паняццем годнасці. *Годнасць* — гэта адна з цэнтральных катэгорый ў паняцці *правы чалавека*. Годнасць базіруецца на прыродзе чалавека, вынікае з прыроды чалавека і належыць чалавеку ад нараджэння да смерці. Незалежна ад таго, добры чалавек ці дрэнны, зрабіў ён нешта карыснае, ці не — усе людзі маюць аднолькавую годнасць і таму мы павінны ставіцца да любога чалавека з павагай, паважаць яго *годнасць*.
Паходжанне правоў чалавека таксама звязана з прынцыпам чалавекалюбства, ці *гуманізму*, на падставе якога павінны будавацца адносіны паміж людзьмі, адносіны паміж асобай і дзяржавай. Прынцыпы гуманізму азначаюць, што мерай ўсяго ў дзейнасці дзяржавы з'яўляюцца інтарэсы і патрэбы чалавека.

Дзяржава мае *абавязак* ствараць годныя ўмовы для жыцця, развіцця і творчасці чалавека.
Катэгорыя правоў чалавека ў першую чаргу адлюстроўвае адносіны паміж чалавекам і дзяржаўнымі органамі. Фармальна грамадзяне і прадстаўнікі дзяржаўных органаў роўныя. Але дзяржава і яе органы надзелены асаблівай палітычнай уладай і маюць спецыяльныя паўнамоцтвы, дадзеныя заканадаўствам, якія дазваляюць часам абмяжоўваць некаторыя правы чалавека, а часам прыводзяць да парушэння правоў чалавека прадстаўнікамі дзяржавы. Менавіта правы чалавека абмяжоўваюць дзяржаўную ўладу і накладаюць на прадстаўнікоў дзяржавы абавязкі па гарантаванні і рэалізацыі правоў чалавека.

У той жа час адносіны паміж людзьмі, каштоўнасці, на падставе якіх людзі сябе паводзяць у штодзённым жыцці, — гэта таксама істотныя элементы правоў чалавека, паколькі з'яўляюцца ўнутраным асабістым стрыжнем захавання правоў чалавека кожнай асобай, як простым грамадзянінам, так і дзяржаўным служачым.

Атрыманне правоў чалавека ад нараджэння, гуманістычныя каштоўнасці, годнасць, характар правоў чалавека менавіта як адносіны паміж чалавекам і дзяржаўнымі органамі, асаблівае стаўленне і каштоўнасці кожнага асобнага чалавека, якія закладаюцца з дзяцінства, можна разглядаць як прыкметы правоў чалавека.

**РАЗДАТАК 1.2.**

**Пералік некаторых правоў чалавека (няпоўны спіс)**

- права на жыццё;
- забарона катаванняў, жорсткага, бесчалавечнага абыходжання, абыходжання і пакарання, якія прыніжаюць годнасць чалавека;
- забарона рабства і паднявольнага стану;
- пакаранне выключна на аснове закону;
- права на свабоду і асабістую бяспеку;
- права на свабоду перасоўвання;
- права на справядлівае судовае разбіральніцтва;
- права на павагу да прыватнага і сямейнага жыцця, жытла і карэспандэнцыі;
- права на ўступленне ў шлюб;
- свабода думкі, сумлення і веравызнання;
- свабода выказвання меркаванняў;
- свабода сходаў і аб’яднанняў;
- права на эфектыўныя сродкі прававой абароны;
- роўнасць перад законам;
- права на грамадзянства;
- права на працу;
- права на справядлівыя і спрыяльныя ўмовы працы;
- права на годны (дастатковы) узровень жыцця;
- права на здароўе і сацыяльную ахову;
- ахова сям’і, мацярынства і дзяцінства;
- права на адукацыю;
- права на ўласнасць;
- права на карыстанне дасягненнямі культуры;
- абарона найбольш неабароненых катэгорыяў насельніцтва;
- правы асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцяў;
- права на развіццё;
- права на спрыяльнае навакольнае асяроддзе.

(Паводле Д.Ружэ: Rouget D. Le guide de la protection internationale des droits de l’homme. P., 2000. Chapitre II. Les droits proteges. p.55-98. http://www.echr-base.ru/classification.jsp )

## РАЗДАТАК 1.3.

**Мадэль грамадскага ўдзелу**

Мадэль грамадскага ўдзелу складаецца з наступных кампанентаў:

Вызначэнне і ўдакладненне сутнасці праблем разам з людзьмі, зацікаўленымі ў яе вырашэнні ( ШТО?).

Аналіз праблем разам з людзьмі, зацікаўленымі ў яе вырашэнні (ЧАМУ?).

Сумеснае планаванне дзеянняў, накіраваных на вырашэнне праблем (ЯК?).

Ажыццяўленне дзеянняў з удзелам зацікаўленых у вырашэнні праблем людзей (ДЗЕЯННЕ).

Сумесная ацэнка эфектыўнасці дзеянняў, дасягнутых вынікаў (АЦЭНКА).



# 2. Спосабы вызначэння і аналізу праблем, звязаных з правамі чалавека

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

**Чаканыя вынікі**

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  — як фармулююцца праблемы, якія тычацца пытанняў абароны правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян;
  — чаму важна ўмець правільна сфармуляваць праблему;
  — як аналізуюцца праблемы, якія тычацца пытанняў абароны правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  — фармуляваць і апісваць праблемныя сітуацыі, якія тычацца пытанняў абароны правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  — да працэсу сумеснага вызначэння праблем як да найважнейшага этапу мабілізацыі грамадзян на сумесныя дзеянні, скіраваныя на абарону правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян.

**План заняткаў**

1. Факусаванне ўвагі — 15 хв.
2. Прадстаўленне тэмы і чаканых вынікаў заняткаў — 1 хв.
3. Вызначэнне, аналіз і апісанне праблемных сітуацый, якія тычацца парушэнняў правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян — 60 хв.
4. Падсумаванне вынікаў заняткаў — 14 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі (15 хв.).**
Прадэманструйце ўдзельнікам мапу гіпатэтычнага «праблемнага» мікрараёна. Намалюйце на ёй зламаныя маладыя дрэўцы ў парку, сцёкі з цаглянага завода ў раку, чалавека ў інвалідным вазку, які спрабуе заехаць у краму, неабсталяваную пандусам, чаргу бацькоў, якія спрабуюць запісаць сваіх дзяцей у дзіцячы садок, у якім не хапае на ўсіх месцаў і г. д. Папрасіце ўдзельнікаў назваць праблемы, якія яны бачаць на гэтым малюнку.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Іншым варыянтам факусавання ўвагі можа быць цытаванне дзённіка жыхара горада Н., які апісвае адзін дзень свайго жыцця ў гэтым горадзе (тое, як ён на інвалідным вазку выбіраецца з дома на вуліцу, як спрабуе заехаць на ім у неабсталяваную пандусам краму, як назірае за групай бацькоў, якія стаяць у чарзе, каб запісаць сваіх дзяцей у дзіцячы садок і г. д.), а затым, аб'яднаўшы ўдзельнікаў у 3—4 малыя групы, папрасіце іх намаляваць гэтую гісторыю, зафіксаваўшы на малюнку асноўныя праблемныя моманты, якія вынікаюць з дзённіка. Звярніце ўвагу, што такі варыянт пачатку занятку патрабуе дадатковага часу!
*Праблема — гэта негатыўная сітуацыя, якая ўплывае на пэўныя колы людзей і не вырашаецца сама па сабе.*
Звяртайце ўвагу на карэктнасць фармулёвак праблемы з боку ўдзельнікаў. Трэба абазначаць праблемы дакладна. Напрыклад, не «адукацыя», а «нізкі ўзровень адукацыі» альбо «няроўны доступ да адукацыі» і г. д.

**2. Прадстаўце тэму і чаканыя вынікі заняткаў (1 хв.).**
Патлумачце, што на гэтым занятку мы пачнём распрацоўваць рэальныя грамадскія кампаніі, скіраваныя на вырашэнне праблем, звязаных з правамі чалавека і інтарэсамі грамадзян, якія жывуць у нашай мясцовасці.

**3. Вызначэнне, аналіз і апісанне праблемных сітуацый, якія тычацца парушэнняў правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян (60 хв.).**
Нагадайце ўдзельнікам сутнасць мадэлі грамадскага ўдзелу (гл. занятак 1, раздатак 1.3). Падкрэсліце, што любая сумесная грамадская актыўнасць будзе мець больш шансаў на поспех, калі людзі будуць далучаныя да дзейнасці яшчэ на этапе вызначэння праблем, якія іх хвалююць. Патлумачце ролю этапу

вызначэння і аналізу праблем у працэсе распрацоўкі грамадскіх кампаній, скіраваных на абарону правоў чалавека, адстойванне і прасоўванне інтарэсаў грамадскасці (гл. дадатковую інфармацыю ў канцы занятку).
З дапамогай удзельнікаў запішыце на вялікім аркушы паперы прыклады праблемных сітуацый у мясцовасці, дзе жывуць удзельнікі, альбо ў грамадстве, якія звязаныя з правамі чалавека і маглі б легчы ў аснову грамадскіх кампаній.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Звярніце ўвагу на тое, каб удзельнікі называлі рэальныя праблемы, а не тыя, якія гучалі падчас абмеркавання малюнка (альбо дзённіка) у пачатку занятку. У якасці прыкладаў, калі ўдзельнікі слаба арыентуюцца ў жыцці грамадства і ў пытаннях, звязаных з правамі чалавека, можна распавесці пра праблемныя сітуацыі, якія ляглі ў аснову грамадскіх кампаній, прадстаўленых у раздзеле II.

Папрасіце ўдзельнікаў, у адпаведнасці з іх жаданнямі, аб’яднацца ў малыя групы, якія хацелі б займацца вырашэннем той альбо іншай з агучаных праблемаў. Пажадана, каб утварыліся не менш за 2—3 такія групы, якія будуць працаваць разам на працягу некалькіх месяцаў над вырашэннем канкрэтных праблемаў.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Для выбару прыярытэтных праблем (калі названая вялікая колькасць праблем) для працы ў групах можна скарыстацца рэйтынгавым галасаваннем, у час якога кожны з удзельнікаў будзе мець магчымасць прагаласаваць за дзве прапановы. Тыя праблемныя сітуацыі, якія набяруць найбольшую колькасць галасоў, і стануць прадметам далейшай працы па распрацоўцы грамадскіх кампаній.

Папрасіце кожную групу на працягу 25 хв. абмеркаваць і канкрэтызаваць гэтыя сітуацыі, абапіраючыся на пытанні з раздатка 2.1., які атрымаюць удзельнікі.
У час прэзентацыі вынікаў працы групаў звяртайце ўвагу на тое, ці ясна сфармуляваныя сутнасць праблемы, яе прычыны і наступствы, каго тычыцца гэтая праблема, якія правы чалавека і законныя інтарэсы грамадзян яна закранае.
Звярніце ўвагу ўдзельнікаў на тое, што этап вызначэння і аналізу праблемных сітуацый з’яўляецца ключавым пры прыняцці рашэння аб пачатку дзейнасці па вырашэнні гэтых праблем, па мабілізацыі людзей да ўдзелу ў гэтым працэсе. Калі ўдзельнікі збіраюцца распачынаць свае кампаніі, скіраваныя на абарону правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян, то ім давядзецца ўзяць пад увагу пытанні, выкладзеныя ў раздатку 2.2. да гэтага занятку. Раздайце гэты апытальнік удзельнікам і папрасіце ў групах абмеркаваць адказы на пастаўленыя ў ім пытанні, а затым прадставіць вынікі гэтага абмеркавання.
Папрасіце групы запісаць на паперы і агучыць канчатковы варыянт пастаўленай праблемы.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Увага! Захавайце апісанне сфармуляваных праблемных сітуацый (у выглядзе аркуша паперы, на якім зафіксаваныя фармулёўкі, альбо ў выглядзе набранага на кампутары тэксту з фармулёўкай праблемаў). Гэта спатрэбіцца для працы на наступных занятках! Распачалася пакрокавая праца над стварэннем рэальных грамадскіх кампаній. Цяпер на кожным занятку ўдзельнікі будуць дадаваць наступныя крокі (а пазней будуць праводзіць запланаваныя дзеянні). Вельмі важна, каб ужо з гэтага занятку пачалі фарміравацца групы, якія будуць планаваць і праводзіць кампаніі.

**4. Падсумуйце вынікі занятку (14 хв.).**
Абмеркаванне можна правесці з дапамогай наступных пытанняў:
- Што такое праблема?
- Чаму вызначэнне і пастаноўка праблемы лічыцца адным з найважнейшых этапаў у мадэлі грамадскага ўдзелу?
- Як аналізаваць праблемы, якія тычацца пытанняў абароны правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян?

Падзякуйце ўдзельнікам занятку за працу!

**Роля этапу вызначэння і аналізу праблемных сітуацый у працэсе пабудовы канцэпцыі грамадскай кампаніі**

Дакладнае вызначэнне і добры аналіз праблемных сітуацый з'яўляюцца асновай для планавання дзейнасці, скіраванай на вырашэнне праблем. Гэты этап працы дазваляе разабрацца, у чым сутнасць праблемы, вызначыць прычыны і наступствы існавання праблемы, людзей, на якіх гэтая праблема ўплывае, а таксама тых, ад каго можа залежаць вырашэнне праблемы.

Добра праведзены аналіз праблемы дазваляе вырашыць, на што будзе скіравана грамадская кампанія: на ліквідацыю прычын існавання праблемы, барацьбу з наступствамі праблемы ці ліквідацыю гэтай праблемы цалкам.

На гэтым этапе неабходна таксама адказаць сабе на пытанні, ці *рэальна* вырашыць гэтую праблему, у якое становішча можа паставіць вас дзейнасць па яе вырашэнні, каго можна прыцягнуць да дзейнасці па вырашэнні гэтай праблемы.

Калектыўная праца па вызначэнні і аналізе праблем дазваляе людзям лепш зразумець розныя аспекты праблемаў, акрэсліць узгодненае бачанне дзейнасці па яе вырашэнні, пазбегнуць многіх памылак пры фармуляванні і аналізе праблемы.

Часта пры вызначэнні праблем узнікае блытаніна ў вызначэнні іх сутнасці, прычын і наступстваў. Напрыклад, будаўніцтва запраўкі блізка да жылых дамоў з'яўляецца толькі *прычынай* праблемы, паколькі яе *сутнасць* заключаецца ў пагрозе здароўю людзей пры атручванні выхлапнымі газамі аўтамабіляў.

Для візуалізацыі сувязяў паміж прычынамі, сутнасцю і наступствамі праблемы часта выкарыстоўваецца г. зв. «дрэва праблемаў». Ствол гэтага дрэва — гэта сутнасць праблемы, карэнні — яе прычыны, галінкі — наступствы. Падобны малюнак дапамагае лепш зразумець маштаб праблемы, сувязь паміж прычынамі і наступствамі, што затым дазваляе эфектыўней спланаваць дзейнасць, скіраваную на вырашэнне гэтай праблемы.

## РАЗДАТАК 2.1.

**Апісанне праблемнай сітуацыі**

*Праблема* — гэта негатыўная сітуацыя, якая ўплывае на канкрэтныя групы людзей і не вырашаецца без знешняга ўздзеяння.

**Добрае апісанне праблемнай сітуацыі, звязанай з правамі чалавека:**

- сцісла характарызуе сітуацыю, якая патрабуе змяненняў;
- паказвае групы людзей, на якія ўплывае гэтая сітуацыя, а таксама патрэбы гэтых людзей;
- паказвае прычыны існавання праблемы;
- утрымлівае апісанне наступстваў існавання праблемы (эканамічных, сацыяльных, палітычных, дэмаграфічных, экалагічных, культурных і г. д.);
- утрымлівае колькасную інфармацыю (у тым ліку спасылкі на афіцыйную статыстыку, дадзеныя з аўтарытэтных крыніц);
- паказвае, што раней рабілася (калі рабілася) для вырашэння праблемы і якія гэта дало вынікі; апелюе да палажэнняў заканадаўства, стратэгічных дзяржаўных і міжнародных праграм і іншых важных дакументаў у галіне правоў чалавека;
- адпавядае рэальным інтарэсам і магчымасцям людзей, якіх тычыцца гэтая праблема і якія могуць быць далучаныя да яе вырашэння;
- улічвае пытанні недыскрымінацыі асобных груп грамадства, у прыватнасці важнасць роўнасці правоў мужчын і жанчын.

## РАЗДАТАК 2.2

**Перад тым, як распачаць грамадскую кампанію, скіраваную на адстойванне і пашырэнне правоў чалавека, адкажыце на наступныя пытанні:**

- Наколькі важныя для вас пытанні (праблемы), якія вы (ваша арганізацыя) імкняцеся вырашыць (з пункту гледжання вашых прынцыпаў, адпаведнасці місіі і мэтам вашай арганізацыі?)
- Ці адпавядае ваша пазіцыя па гэтым пытанні вашай папярэдняй дзейнасці?
- У якое становішча паставіць вас барацьба за вырашэнне гэтых пытанняў?
- Ці можна ўвогуле атрымаць перамогу па дадзеным пытанні і ці варта брацца за гэтую справу?
- Якую карысць прынясе вырашэнне гэтых пытанняў іншым грамадзянам?
- Хто мае найбольшую патрэбу ў пераменах, за якія вы выступаеце?
- Ці можна зрабіць вашы пытанні важнымі для тых, хто не асабліва зацікаўлены ў іх вырашэнні?
- Наколькі вы абмежаваныя ў часе і рэсурсах?
- Ці будуць іншыя людзі (у тым ліку з вашай арганізацыі) з энтузіязмам працаваць для вырашэння гэтых пытанняў? Калі не, то што трэба зрабіць, каб больш зацікавіць іх у такой працы?

# 3. Вызначэнне мэтаў, задач і мэтавых груп грамадскіх кампаній

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

**Чаканыя вынікі**

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - як фармулююцца мэты і задачы дзейнасці, якая тычацца пытанняў абароны правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян;
  - як вызначаюцца і аналізуюцца мэтавыя групы ў межах дзейнасці, скіраванай на абарону правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - фармуляваць і апісваць мэты і мэтавыя групы ў межах дзейнасці, скіраванай на абарону правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да працэсу сумеснага вызначэння мэтаў, задач і мэтавых груп як да важнага этапу мабілізацыі грамадзян на сумесныя дзеянні, скіраваныя на абарону правоў чалавека і законных інтарэсаў грамадзян.

**План заняткаў**

1. Факусаванне ўвагі — 5 хв.
2. Прадстаўленне тэмы і мэтаў заняткаў — 1 хв.
3. Вызначэнне мэтаў і задач грамадскіх кампаній і акцый — 45 хв.
4. Вызначэнне і аналіз мэтавых груп у межах грамадскіх кампаній і акцый — 25 хв.
5. Падсумаванне вынікаў заняткаў — 14 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі (5 хв.).**
Распавядзіце ўдзельнікам казку пра падарожніка, які аднойчы ўбачыў, як людзі ў полі цягаюць вялікія камяні. «*Што вы робіце?*» — запытаў іх падарожнік. «*Цягаю камяні*» — адказаў першы работнік. «*Кармлю сям'ю*» — адказаў другі. «*Будую храм!*» — сказаў трэці работнік. Запытайце ва ўдзельнікаў, як яны зразумелі гэту гісторыю. Акцэнтуйце ўвагу на тым, што вельмі важна разумець, што і для чаго ты робіш. Асабліва важна гэта тады, калі ты робіш нешта сумесна з іншымі людзьмі.

**2. Прадстаўце тэму і чаканыя вынікі заняткаў (1 хв.).**

**3. Вызначэнне мэтаў і задач грамадскіх кампаній і акцый (45 хв.).**
Нагадайце ўдзельнікам сутнасць мадэлі грамадскага ўдзелу (гл. занятак 1). Падкрэсліце, што ад таго, наколькі канкрэтна і рэалістычна будзе сфармуляваная мэта, будзе залежаць эфектыўнасць любых сумесных дзеянняў грамадзян, скіраваных на рэалізацыю іх законных інтарэсаў.

Аб'яднайце ўдзельнікаў у малыя групы, у якіх яны на папярэднім занятку займаліся аналізам праблемных сітуацый, звязаных з правамі чалавека. Патлумачце, што на гэтым занятку мы будзем вучыцца фармуляваць мэты грамадскіх кампаній, вызначаць і аналізаваць мэтавыя групы гэтых кампаній. Дайце кожнай групе апісанні праблемных сітуацый, падрыхтаваныя ўдзельнікамі ў час папярэдняга занятку.

Увага! У якасці дапаможнага матэрыялу можна выкарыстаць таксама матэрыялы розных грамадскіх кампаній (тыя іх часткі, дзе апісваюцца праблемы, на вырашэнне якіх былі скіраваныя гэтыя кампаніі), прыкладзеных да матэрыялаў дапаможніка.

Раздайце ўдзельнікам раздатак 3.1 і растлумачце з яго дапамогай, што такое мэты і задачы і як яны фармулююцца. Звярніце ўвагу ўдзельнікаў, што калі праблема — гэта негатыўная сітуацыя, то фармулёўка мэты павінна паказваць, якім будзе пазітыўны вынік вырашэння гэтай сітуацыі.
Папрасіце кожную групу на працягу 20 хв. сфармуляваць мэты і задачы магчымай грамадскай кампаніі для вырашэння гэтых праблемных сітуацый.
У час прэзентацыі вынікаў працы груп звяртайце ўвагу на тое, ці ясна і канкрэтна сфармуляваныя мэты і задачы, ці вынікаюць яны з праблемных сітуацый, апісанне якіх мелі групы, ці яны рэалістычныя, ці звязаныя лагічна паміж сабой.

**4. Вызначэнне і аналіз мэтавых груп у межах грамадскіх кампаній і акцый (25 хв.)**
Звярніце ўвагу ўдзельнікаў на тое, што для дасягнення мэты неабходна дакладна вызначыць мэтавыя групы — г. зн. людзей, на якіх будзе скіраваная ваша дзейнасць. Гэта могуць быць як людзі, ад якіх залежыць вырашэнне важных для вас пытанняў, так і тыя людзі, якіх вы збіраецеся прыцягнуць да дзейнасці ў межах сваёй кампаніі як важны рэсурс. Добрае веданне сваіх мэтавых групаў дапаможа лепш спланаваць дзейнасць, скіраваную на дасягненне вызначаных мэтаў і задач.

Для аналізу магчымых мэтавых групаў можна выкарыстаць узор у раздатку 3.2. Папрасіце кожную групу на працягу 25 хв. стварыць і запоўніць такую табліцу, зыходзячы з сфармуляваных мэтаў дзейнасці і вызначаных мэтавых груп. Арганізуйце прэзентацыю вынікаў працы ў групах. У час прэзентацыі звяртайце ўвагу на тое, ці ўсе важныя мэтавыя групы названыя ўдзельнікамі, ці ўдалося выявіць магчымыя інтарэсы гэтых груп у дачыненні да грамадскіх кампаній, якія распрацоўваюцца ўдзельнікамі.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Звярніце ўвагу ўдзельнікаў, што ў межах грамадскіх кампаній могуць быць два віды мэтавых групаў: групы, якія зацікаўленыя ў вырашэнні тых альбо іншых праблем (напрыклад, мясцовыя жыхары), і групы, у сферу адказнасці якіх уваходзіць вырашэнне гэтых праблем (напрыклад, мясцовыя ўлады). Мэты гэтых груп у дачыненні да праблемных сітуацый могуць як супадаць, так і цалкам разыходзіцца! Таксама трэба мець на ўвазе, што мэтавыя групы, зацікаўленыя ў вырашэнні таго альбо іншага пытання, могуць быць дастаткова пасіўнымі ў справе адстойвання сваіх інтарэсаў (напрыклад, праз страх, неразуменне сутнасці праблемы і г. д.).

Вынікі працы групы трэба захаваць для далейшай працы.

**5. Падсумуйце вынікі занятку (14 хв.).**
Выкарыстайце для гэтага наступныя пытанні:
- Што такое мэта грамадскай кампаніі?
- З дапамогай якіх крытэрыяў можна ацэньваць фармулёўку задач?
- Што такое мэтавая група?
- Для чаго неабходны аналіз мэтавых групаў?

Падзякуйце ўдзельнікам заняткаў за працу!

ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Важнасць вызначэння мэтаў і мэтавых групаў**

Вызначэнне мэтаў і мэтавых групаў – гэта этап, калі мы плануем рэальныя вынікі нашай кампаніі, а таксама вызначаем кола людзей, якія могуць паўплываць на дасягненне гэтых вынікаў. Чым лепш мы сфармулюем мэту і прааналізуем мэтавыя групы, тым больш шансаў на тое, што запланаваная ў межах кампаніі дзейнасць будзе эфектыўнай. Добрым прыкладам тут можа быць грамадская кампанія «Нараджаць па-людзку» (гл. яе апісанне ў частцы II), якая распачалася ў сярэдзіне 90-х гг. у Польшчы. Яе мэтай было забеспячэнне годных умоваў для догляду за жанчынамі і іх дзецьмі ў польскіх радзільных дамах. У якасці мэтавых групаў кампаніі былі абраныя жанчыны пасля родаў і іх сем'і, дактары і акушэры, структуры, ад якіх залежала прыняцце рашэнняў адносна забеспячэння якасці медыцынскага абслугоўвання парадзіх і немаўлят і якія ўплывалі на грамадскую думку. Мэтанакіраваная праца з кожнай з гэтых груп дазволіла істотна палепшыць якасць абслугоўвання жанчын і іх дзетак у радзільных дамах Польшчы.

**Вызначэнне мэты і задач грамадскай кампаніі**

*Мэта* — гэта канчатковы пазітыўны вынік, накіраваны на вырашэнне праблемнай сітуацыі або зніжэнне яе наступстваў.

**Фармулёўка мэты можа складацца з наступных элементаў:**

- Які пазітыўны вынік будзе дасягнуты?
- Для каго?
- Якім чынам (асноўная стратэгія дасягнення мэты)?

**Прыклад добрай фармулёўкі мэты:**
«Забеспячэнне права асоб з інваліднасцю на ўдзел у жыцці грамадства праз стварэнне для іх умоваў для безбар'ернага перасоўвання ў межах мікраараёна Н. і камунікацыі з дапамогай Інтэрнэту».

**Прыклад кепскай фармулёўкі мэты:**
«Палепшыць жыццё асоб з інваліднасцю».
*Задачы* — гэта канчатковыя змяненні, якія неабходна ажыццявіць у працэсе рэалізацыі запланаванай дзейнасці, каб дасягнуць яе мэты.

**Напрыклад:**

| Мэта: | Задачы: |
|---|---|
| 1. Спрыяць забеспячэнню права асоб з інваліднасцю на ўдзел у жыцці грамадства праз стварэнне для іх умоваў для безбар'ернага перасоўвання ў межах мікраараёна Н. і камунікацыі з дапамогай Інтэрнэту | 1. Дамагчыся ад мясцовых уладаў мікраараёна Н. абсталявання на працягу 2011 г. пандусамі і іншымі прыладамі ўсіх публічных месцаў, а таксама дамоў, дзе пражываюць асобы з інваліднасцю, што забяспечыць ім безбар'ернае перасоўванне ў межах мікраараёна |
| | 2. Забяспечыць з дапамогай цэнтра па працаўладкаванні навучанне 20 асоб з інваліднасцю асновам выкарыстання Інтэрнэту для пошуку працы і камунікацыі |
| | 3. Забяспечыць падключэнне кватэраў 20 асоб з інваліднасцю да Інтэрнэту на ўмовах ільготнай аплаты |
| | 4. .................... |

**Пры фармуляванні задач выкарыстоўвайце крытэрыі SMART:**

*Specific (канкрэтнасць)* — ці з'яўляецца задача канкрэтнай, ці паказвае яна што, калі, як і дзе трэба зрабіць?

*Measurable (вымяральнасць)* — ці паддаецца задача вымярэнню (колькасць людзей, якія атрымаюць прававыя паслугі, працэнт зніжэння злачыннасці і г. д.)?

*Area-bound (тэрытарыяльнасць)* — ці указваецца тэрыторыя, на якой будуць адбывацца запланаваныя дзеянні?

*Realistic (рэалістычнасць)* — ці рэальна выканаць гэту задачу? Ці насамрэч яе выкананне будзе спрыяць дасягненню мэты?

*Time-bound (вызначанасць у часе)* — ці вызначаны перыяд часу, на працягу якога задача павінна быць выканана?

РАЗДАТАК 3.2

**Аналіз мэтавых групаў**

Аналіз мэтавых групаў дапамагае высветліць, хто можа паўплываць на вынікі кампаніі, на каго можна разлічваць як на саюзніка, а хто можа «ўстаўляць палкі ў колы», што і на якіх умовах гэтыя людзі жадаюць атрымаць у выніку рэалізацыі вашай задумы. Для такога аналізу можна выкарыстаць некаторыя з прыведзеных ніжэй пытанняў:

| | Жыхары мікрараёну Н., асобы з інваліднасцю | Мясцовыя органы ўлады | Правайдэры інтэрнэт-паслуг | СМІ |
|---|---|---|---|---|
| Якую карысць атрымаюць ад рэалізацыі кампаніі? | | | | |
| Якія рэсурсы могуць укласці ў кампанію? | | | | |
| На якіх умовах пагодзяцца на прапанаваныя ў межах кампаніі дзеянні? | | | | |
| Якія асцярогі ў дачыненні да кампаніі могуць мець? | | | | |
| Што трэба зрабіць, каб паўплываць на іх? | | | | |

# 4. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз дзяржаўныя механізмы

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

### Чаканыя вынікі

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - паняцце, прыкметы і віды дзяржаўных механізмаў абароны правоў чалавека;
  - агульныя прынцыпы арганізацыі і функцыянавання дзяржаўных механізмаў абароны правоў чалавека;
  - чым адрозніваюцца асобныя дзяржаўныя механізмы па абароне правоў чалавека;
  - сутнасць зваротаў, хадайніцтваў і скаргаў на падставе Закону «Аб зваротах грамадзян» як інструментаў грамадскага ўдзелу.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - аргументаваць сваю пазіцыю аб моцных і слабых баках звароту ў дзяржаўныя механізмы абароны правоў чалавека на нацыянальным і мясцовым узроўні;
  - пісьмова звяртацца ў асобныя арганізацыі ў рамках механізмаў абароны правоў чалавека;
  - выбіраць спосабы звароту ў дзяржаўныя механізмы.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да звароту да дзяржаўных механізмаў абароны правоў чалавека як да адной з магчымасцяў абароны і пашырэння правоў чалавека.

### План заняткаў

1. Факусаванне ўвагі — 4 хв.
2. Знаёмства з тэмай і чаканымі вынікамі занятку — 1 хв.
3. Знаёмства з асобнымі дзяржаўнымі механізмамі абароны правоў чалавека — 20 хв.
4. Абмеркаванне магчымасці выкарыстання звароту ў дзяржаўныя органы як формы грамадскага ўдзелу ў межах сваёй грамадскай кампаніі — 16 хв.
5. Разгляд пісьмовага звароту праз заяву ці скаргу ў нацыянальныя структуры па абароне правоў чалавека — 10 хв.
6. Напісанне заявы, хадайніцтва, скаргі — 25 хв.
7. Абмеркаванне скаргі — 10 хв.
8. Падагульненне занятку — 4 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі (4 хв.).**
Запытайце ва ўдзельнікаў, ці звярталіся яны калі-небудзь у дзяржаўныя органы? Ці ведаюць выпадкі звароту ў дзяржаўныя органы?
У выпадку, калі ўдзельнікі не праяўляюць дастатковай актыўнасці, канкрэтызуйце пытанні:
- Ці звяртаўся хто-небудзь у дзяржаўныя органы, суд ці міліцыю? За якой прычыны?
- Ці пісалі калі-небудзь скаргу, заяву ці хадайніцтва? За якой прычыны?
- Які вынік звароту? Чаму?

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Пытанні асаблівасцяў дзейнасці дзяржаўных механізмаў падрабязна разгледжаны ў метадычным дапаможніку «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй» у занятку «Нацыянальныя механізмы абароны правоў чалавека». Таму ў дадзеным занятку прапануецца звярнуць асноўную ўвагу на практычныя аспекты прынцыпаў дзейнасці дзяржаўных механізмаў і спосабы звароту да іх.
Настаўніку важна засяродзіць увагу ўдзельнікаў на трох асноўных момантах: а) ці звярталіся яны ў дзяржаўныя органы; б) ці пісалі зварот або скаргу; в) які быў вынік звароту ў гэтыя органы.
З аднаго боку, гэтая інфармацыя можа выявіць стэрэатыпны падыход: у дзяржаўныя органы звяртаюцца толькі для вырашэння асабістых праблемаў. З іншага боку, пазней яна дапаможа дакладней разгледзець зварот ці хадайніцтва як форму грамадскага ўдзелу, пры дапамозе якой можна не толькі вырашаць праблемы, але і папярэджваць узнікненне іх у будучым.

Паколькі на факусаванне адводзіцца толькі 4 хвіліны, а асноўная задача гэтай часткі занятку — засяродзіць увагу ўдзельнікаў на тэме занятку, не варта шмат часу надаваць розным прыкладам, дастаткова аднаго-двух.

Важна падкрэсліць, што механізм звароту ў дзяржаўныя органы з'яўляецца адной з эфектыўных формаў вырашэння пытанняў у галіне правоў чалавека. Калі чалавек мае права на нешта, то гэта аўтаматычна азначае, што дзяржава мае абавязак стварыць механізм рэалізацыі гэтага права.

**2. Прадстаўце тэму і чаканыя вынікі заняткаў (1 хв.).**

**3. Знаёмства з асобнымі элементамі дзяржаўнага механізма абароны правоў чалавека (20 хв.).**
Аб'яднайце ўдзельнікаў у тры групы. Кожнай групе раздайце адзін з раздаткаў 4.1, 4.2, 4.3 і папрасіце ўдзельнікаў самастойна азнаёміцца з імі на працягу 8 хв. Кожная група знаёміцца толькі з адным раздаткам.

Абмеркаванне гэтага матэрыялу можна правесці наступным чынам: дошку расчэрчваем на тры роўныя часткі альбо вешаем на яе тры аркушы паперы.

Ад кожнай з трох груп папрасіце выйсці па адным добраахвотніку, якія азнаёміўся з раздаткамі 4.1, 4.2 і 4.3. Добраахвотнікі будуць працаваць у якасці экспертаў і будуць мець права дадаваць інфармацыю ці тлумачыць яе. Папрасіце прысутных назваць, якія структуры ўваходзяць у адміністратыўны і праваахоўны механізм абароны правоў чалавека, якія органы з'яўляюцца спецыяльнымі органамі па абароне правоў чалавека і што маецца на ўвазе пад судовым механізмам абароны правоў чалавека. Задачай добраахвотнікаў-экспертаў будзе фіксаваць на асобным аркушы тыя структуры, якія будуць называць па чарзе ўдзельнікі з іх груп. Пры гэтым кожны добраахвотнік будзе фіксаваць толькі матэрыял, які тычыцца таго механізма, з якім ён асабіста знаёміўся.

Пасля таго, як будуць коратка запісаны структуры трох асноўных механізмаў абароны правоў чалавека, папрасіце добраахвотнікаў заняць свае месца і падзякуйце ім за працу. У наступнай частцы занятку варта падагульніць знаёмства з прыкметамі пры дапамозе наступных пытанняў:

- Назавіце і патлумачце найбольш важныя, з вашага пункту гледжання, прыкметы разгледжаных дзяржаўных механізмаў абароны правоў чалавека.
- Як можна выкарыстаць механізм звароту ў дзяржаўныя органы для вырашэння праблемаў у галіне правоў чалавека, якія вы вызначылі на папярэдніх занятках?

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Гэты занятак складаецца з трох частак: а) самастойнае знаёмства з матэрыяламі раздаткаў; б) агучванне звестак з розных раздаткаў і запіс іх экспертамі; в) падагульненне знаёмства з раздаткамі пры дапамозе пытанняў.
Асаблівую ўвагу варта звярнуць на апошняе пытанне. Паколькі ў раздатках вядзецца гаворка толькі пра асаблівасці кожнага асобнага дзяржаўнага механізма, а пра грамадскі ўдзел зусім не ўспамінаецца, то адказ на дадзенае пытанне можа грунтавацца толькі на асабістым уяўленні ўдзельнікаў пра суадносіны грамадскага ўдзелу і звароту да дзяржаўных механізмаў ці органаў.
Адукатару варта памятаць, што пісьмовы ці вусны зварот у дзяржаўныя органы мы разглядаем на занятку як асобную форму грамадскага ўдзелу.
Яшчэ адной істотнай задачай падагульнення знаёмства з раздаткамі пры дапамозе пытанняў з'яўляецца факусаванне ўвагі ўдзельнікаў не на абстрактным механізме звароту да дзяржавы, а «прызямленне» дзяржаўнага механізма, прывязка яго да патрэбаў тых кампаній, распрацоўкай якіх займаюцца ўдзельнікі. Больш падрабязна пра магчымасці выкарыстання механізма звароту ў дзяржаўныя органы гаворыцца ў наступнай частцы занятку 4.

**4. Абмеркаванне магчымасці выкарыстання звароту ў дзяржаўныя органы як формы грамадскага ўдзелу ў сваёй канкрэтнай кампаніі (16 хв.).**

Аб'яднайце ўдзельнікаў у групы, у якіх яны, пачынаючы з занятку 2, працуюць над асобнымі кампаніямі.

Папрасіце ўдзельнікаў у групах запісаць і абмеркаваць адказы на наступныя пытанні:

- Ці патрэбны будзе зварот у дзяржаўныя органы ўлады для вырашэння вызначанай імі праблемы? Калі так, то для вырашэння якой канкрэтнай задачы ў межах сваёй кампаніі яны будуць звяртацца ў адзін з дзяржаўных механізмаў? Куды яны будуць звяртацца?
- Чаму варта звярнуцца менавіта ў вызначаныя дзяржаўныя органы? Прывядзіце хаця б два аргументы.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Адукатару варта памятаць, што кожны з трох прадстаўленых механізмаў мае свае асаблівасці. Асноўная мэта дадзенага задання — абмеркаваць, якім чынам разгледжаныя механізмы звароту могуць быць выкарыстаныя ў кампаніях, якія распрацоўваюцца, а таксама плюсы і мінусы кожнага з дадзеных механізмаў.

Пасля працы ў групах варта правесці агульнае падсумаванне.

Падсумаваць вынікі працы ў групах можна з дапамогай наступных пытанняў:
- Якi з трох механізмаў з'яўляецца найбольш эфектыўным для вашай кампаніі? Чаму?
- Якіх вынікаў, вырашэння якіх пытанняў можна чакаць праз зварот у дзяржаўныя органы ў межах кампаній?

**5. Разгляд пісьмовага звароту праз заяву, хадайніцтва, скаргу ў нацыянальныя структуры па абароне правоў чалавека (10 хв.).**

У якасці прыкладу, прапануем разгледзець наступны выпадак:

ВЫПАДАК

На вуліцы Каштанавай, без папярэдняга паведамлення жыхароў, якія тут жывуць, пачалі спілоўваць каштаны. Жыхары бліжэйшых дамоў выйшлі на вуліцу і перашкодзілі гэтаму.

Рабочыя, якія пілавалі дрэвы, выклікалі міліцыю. Паколькі ў рабочых не было ўсіх неабходных дакументаў, пілаванне дрэваў было адкладзена на тры дні да часу, пакуль не будуць высветлены ўсе абставіны дадзенага здарэння.

Пяць дрэваў, аднак, было спілавана. Абураныя жыхары вырашылі, што трэба нешта рабіць, каб папярэдзіць такія выпадкі ў будучым.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

У гэтым выпадку было парушана права доступу людзей да інфармацыі, якая непасрэдна тычыцца іх, права кожнага на жыццё ў навакольным асяроддзі, бяспечным для здароўя і дабрабыту, права людзей на ўдзел у вырашэнні пытанняў, якія непасрэдна тычацца іх інтарэсаў.
Памятайце, што асоба, якая лічыць, што адбылося парушэнне правоў чалавека, альбо ўпэўнена, што можа праз сваю дзейнасць прадухіліць парушэнне правоў чалавека, мае права самастойна вызначыць, у якія органы (з дапамогай якіх канкрэтна механізмаў абароны правоў чалавека) варта звярнуцца.

Перад тым, як звяртацца ў пэўныя органы ўлады, трэба прадумаць, што можна чакаць ад такога звароту, што можа зрабіць дзяржаўны орган, а што ён зрабіць не здольны (напрыклад, праз тое, што гэта не ўваходзіць у яго кампетэнцыю). Трэба ўзважыць плюсы і мінусы выкарыстання канкрэтнага механізма, звароту да канкрэтнай службовай асобы. Падрабязней пра магчымыя наступствы звароту ў асобныя механізмы і пра плюсы і мінусы расказана ў раздатках 4.1, 4.2, 4.3.
Зварот у канкрэтны орган азначае, што ў выпадку, калі рашэнне гэтага органа нас не задаволіць, мы маем права абскардзіць гэтае рашэнне ў вышэйшых інстанцыях па адміністратыўнай іерархіі альбо можам звярнуцца да любога іншага механізма абароны сваіх правоў на тэрыторыі дзяржавы.

Запытайце ва ўдзельнікаў, што б яны параілі жыхарам зрабіць у гэтай сітуацыі? Да якіх механізмаў варта было б ім звярнуцца? Што трэба зрабіць, каб звярнуцца ў гэтыя органы? Што можна патрабаваць ад дзяржаўных органаў, да якіх вырашылі звярнуцца?

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Тут важна сканцэнтравацца на апошніх двух пытаннях.
Спачатку патлумачце, што звычайным спосабам зваротаў грамадзян у розныя механізмы абароны правоў чалавека з'яўляецца скарга ці заява (хадайніцтва). Скарга складаецца па выніку парушэння правоў і свабодаў, а заява (хадайніцтва) складаецца звычайна для таго, каб пачаць нейкі працэс, і можа не быць звязана з парушэннямі. Напрыклад, заява ці хадайніцтва пішуцца, каб атрымаць кнігу ў бібліятэцы старадрукаў, або каб папрасіць ці запатрабаваць ад дзяржаўных органаў распрацоўкі нарматыўнага акта, які б не дазволіў у будучым бескантрольнай вырубкі дрэваў.

Іншымі словамі, заява пішацца для таго, каб рэалізаваць сваё права. Скарга пішацца, калі правы ўжо парушаны: калі нам павінны былі даць кнігу, але не далі, калі мы незадаволены тым, як нас абслужылі, альбо калі мы ўбачылі, як спілавалі дрэвы і мы скардзімся на тыя службы, якія зрабілі гэта.

Для таго, каб спрацiць заданне ўдзельнікам, варта прапанаваць усім пісаць толькі скаргу альбо толькі заяву (хадайніцтва). Гэта дазволіць зэканоміць час на дыскусію, што менавіта трэба пісаць — заяву ці скаргу. Тым больш, што ў нашым выпадку асноўнае адрозненне скаргі ад заявы будзе заключацца толькі ў назве дакумента. Усе астатнія часткі скаргі і заявы выглядаюць аднолькава.
Апошняе пытанне з'яўляецца вельмі істотным, паколькі можна не толькі патрабаваць пакараць тых, хто без узгаднення з мясцовымі жыхарамі пілаваў дрэвы, але і прадухіліць знішчэнне астатніх дрэваў. Згодна з Орхускай Канвенцыяй, пытанні, звязаныя з навакольным асяроддзем, павінны абмяркоўвацца з жыхарамі, якіх гэтыя праблемы тычацца непасрэдна. У выпадку з дрэвамі па вуліцы Каштанавай парушэнне заключаецца ў тым, што мясцовымі жыхарамі не было ўзгоднена рашэнне аб спілоўванні, як гэта патрабуецца згодна з заканадаўствам.

Раздайце кожнаму з удзельнікаў раздатак 4.4. Папрасіце ўдзельнікаў уважліва азнаёміцца з правіламі напісання скаргі. Пры неабходнасці патлумачце інфармацыю з раздатка 4.4.
Абмяркуйце з удзельнікамі занятка, з якіх элементаў павінен складацца змест скаргі. Пры патрэбе можна яшчэ раз звярнуцца да раздаткаў 4.1, 4.2, 4.3, каб патлумачыць асобныя шляхі абароны правоў чалавека і спосабы звароту да іх.

У час падрыхтоўкі звяртайцеся да дадатковай інфармацыі да гэтых заняткаў.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Асноўная мэта гэтай часткі — азнаёміць удзельнікаў з тым, *як* можна звярнуцца ў разгледжаныя вышэй нацыянальныя механізмы абароны правоў чалавека.
Варта памятаць, што інфармацыя лепш засвойваецца ўдзельнікамі, калі даецца невялікімі часткамі, простай для разумення мовай і ў якасці ілюстрацыі выкарыстоўваецца раздаткавы матэрыял.
Вытлумачэнне сэнсу і значэння скаргі ці заявы трэба рабіць на падставе Закону «Аб зваротах грамадзян». Асноўны акцэнт падчас тлумачэння гэтай інфармацыі зрабіце на правілах напісання скаргі. Тлумачце матэрыял, абапіраючыся на змест раздатка 4.4. Звярніце ўвагу ўдзельнікаў на тое, што спецыяльна зацверджанай формы скаргі, замацаванай заканадаўствам, не існуе, але склалася агульнапрызнаная практыка напісання скаргаў з пэўнымі часткамі, якія звычайна ўтрымліваюцца ў скаргах. Для таго, каб скарга была не толькі аргументаванай, што вельмі важна, але і выглядала пісьменна, трэба прытрымлівацца схемы, пададзенай у раздатку 4.4.

Што тычыцца абгрунтавання парушэння канкрэтнага права ў самой скарзе (п.5 раздатка 4.4), то добра было б указаць на нацыянальную ці міжнародную норму, якая была, на вашу думку, парушана. Але можна даручыць гэта кваліфікаванаму юрысту, паколькі ён можа правільна кваліфікаваць парушэнне. Для таго, каб правільна скласці скаргу можна таксама звярнуцца па дапамогу ў праваабарончую арганізацыю ці да юрыста ў юрыдычную кансультацыю.

Парады па напісанні скаргі гл. ў дадатковай інфармацыі да дадзенага занятку.

**6. Напісанне скаргі, звароту, хадайніцтва (25 хв.).**
Папрасіце ўдзельнікаў самастойна альбо ў малых групах на падставе атрыманай інфармацыі напісаць на аркушы ці ў сшытках варыянт скаргі па сваёй праблеме (альбо па разабраным выпадку аб дрэвах).

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Дадзеная частка занятку з'яўляецца даволі складанай для ўдзельнікаў, нягледзячы на папярэднюю падрыхтоўку да напісання і наяўны прыклад скаргі. Таму настаўніку варта пастаянна падыходзіць да ўдзельнікаў і сачыць за дынамікай працы ў групах. У выпадку, калі група па нейкіх прычынах мае цяжкасці з напісаннем, выкладчыку варта дапамагчы парадай.

**7. Абмеркаванне скаргі (10 хв.).**
Пасля таго, як скаргі будуць напісаныя, папрасіце групы прэзентаваць іх. Растлумачце парадак правядзення прэзентацый: па чарзе кожная група будзе зачытваць асобную частку скаргі. Астатнія групы дадаюць і вытлумачваюць толькі тыя аспекты, на якія яны звярнулі ўвагу ў сваёй скарзе (калі гэтых аспектаў не было ў прэзентацыі). Затым наступная група прэзентуе наступную частку скаргі і г. д.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Калі атрымаецца, што напісаных скаргаў некалькі, а часу засталося мала, можна прапанаваць толькі адной групе прачытаць сваю скаргу, а ў іншых груп спытаць, якія яшчэ элементы, што не прагучалі ў прэзентацыі, ёсць у іх скарзе.

Абмеркаванне скаргі можна правесці з дапамогай наступных пытанняў:
- З якімі цяжкасцямі вы сутыкнуліся падчас падрыхтоўкі скаргі ці заявы?
- На што неабходна звяртаць увагу падчас падрыхтоўкі скаргі ці заявы?
- З якіх частак складаецца скарга ці заява? Што трэба адлюстраваць у гэтых частках?

**8. Падагульніце вынікі заняткаў (4 хв.).**
Падагульненне вынікаў занятку можна правесці з дапамогай наступных пытанняў:
- Навошта існуюць дзяржаўныя механізмы?
- Як можна выкарыстоўваць дзяржаўныя механізмы для вырашэння праблемы, звязанай з правамі чалавека?
- Якая з формаў звароту, пісьмовая ці вусная, з'яўляецца найбольш эфектыўнай? Чаму?
- Што рабіць у выпадку, калі чаканай дапамогі ад звароту ў дзяржаўныя органы не дабіліся?
- Чаму звароты (хадайніцтвы) і скаргі мы называем формай грамадскага ўдзелу?

ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Зварот у дзяржаўныя механізмы як форма грамадскага ўдзелу**

Паколькі Рэспубліка Беларусь падпісала і ратыфікавала разнастайныя міжнародныя дакументы па правах чалавека, то яна ўзяла на сябе абавязкі па рэалізацыі палажэнняў, якія ўтрымліваюцца ў гэтых міжнародных дакументах. Гэта азначае, што нацыянальнае заканадаўства павінна адпавядаць міжнародным стандартам у галіне правоў чалавека. Гэта стварае гарантыі для выкарыстання нацыянальных органаў як механізмаў пашырэння і абароны правоў чалавека. Згодна з заканадаўствам, напрыклад, з Законам «Аб зваротах грамадзян», дазваляецца звяртацца ў дзяржаўныя органы не толькі па ўласных праблемах, але практычна па любых пытаннях, якія могуць непакоіць асобу ці грамадства. Гэта значыць, што звяртацца ў дзяржаўныя органы можна і з мэтай вырашэння мясцовых праблем грамадскасці і абароны правоў чалавека. Таму пісьмовы ці вусны зварот у дзяржаўныя органы можа разглядацца як форма грамадскага ўдзелу.

Дзяржаўныя механізмы абароны правоў чалавека — гэта спецыяльныя дзяржаўныя структуры, якія маюць уладныя паўнамоцтвы прымаць агульнаабавязковыя рашэнні, у тым ліку па пытаннях, звязаных з правамі чалавека. Дзяржаўныя механізмы ўключаюць толькі дзяржаўныя органы і структуры. У залежнасці ад сферы дзейнасці і кампетэнцыі іх можна падзяліць на:
а) адміністрацыйныя і праваахоўныя дзяржаўныя механізмы (уключаюць органы мясцовай і цэнтральнай улады, органы пракуратуры, міліцыі);
б) судовыя механізмы (судовыя органы);
в) спецыяльныя органы абароны правоў чалавека, якія займаюцца выключна пытаннямі правоў чалавека. У Беларусі гэта Камісія па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь; у шэрагу краінаў існуе асобны інстытут — прадстаўнік па правах чалавека (амбудсмен), але ў Беларусі інстытуту амбудсмена пакуль няма.

Да дзяржаўных механізмаў можна звяртацца, каб патрабаваць стварыць умовы, пры якіх не будзе адбывацца парушэнне правоў, аднавіць парушаныя правы і свабоды чалавека, пакараць вінаватых, прыняць змены ў заканадаўства, прыняць агульнаабавязковае рашэнне па нейкай сітуацыі ці адносна сацыяльнай групы. Можна таксама накіраваць просьбу даць інфармацыю ці тлумачэнні заканадаўства. У выпадку, калі асоба выкарыстае ўсе нацыянальныя механізмы абароны правоў чалавека і не дасягне пры гэтым жаданага выніку, заўсёды застаецца магчымасць звярнуцца ў міжнародныя структуры (напрыклад, у Камітэт па правах чалавека ААН), якія разглядаюць парушэнні ў галіне правоў чалавека.

Больш падрабязна пра дзяржаўныя механізмы абароны правоў чалавека гл. ў занятку «Нацыянальныя механізмы абароны правоў чалавека» з метадычнага дапаможніка «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй».

Зварот у любы з механізмаў абароны правоў чалавека можа адбывацца пры дапамозе вуснай ці пісьмовай скаргі, прапановы ці заявы. У дадзеным дапаможніку мы спыніліся на разглядзе скаргі, паколькі скарга з'яўляецца адным з асноўных інструментаў, які «запускае» працу дзяржаўных механізмаў абароны правоў чалавека.

Пры ўсіх плюсах і мінусах больш эфектыўнай з'яўляецца пісьмовая форма звароту ў органы, паколькі менавіта гэтая форма дазваляе не толькі «запусціць» прававы механізм праверкі вашага звароту, але і прадугледжвае пісьмовы адказ асобе, якая склала зварот (у адпаведнасці з Законам «Аб зваротах грамадзян» адказ павінен быць дадзены на працягу 30 дзён). Пісьмовы зварот канкрэтызуе патрабаванні і вымагае ад прадстаўнікоў улады канкрэтных адказаў на канкрэтныя пытанні, пазбаўляе іх магчымасці сысці ад адказу ці ад рашэння канкрэтнай праблемы. Тэкст Закону «Аб зваротах грамадзян» можна знайсці на сайце: http://www.pravo.by/webnpa/text.asp?RN=h10400340
Згодна з Законам «Аб зваротах грамадзян», недзеяздольныя грамадзяне (напрыклад, асобы, якія не дасягнулі 18 гадоў, хоць дзеяздольнасць можа быць прызнаная і раней) накіроўваюць звароты праз законных прадстаўнікоў, напрыклад, бацькоў (ч. 2 арт. 4 Закону «Аб зваротах грамадзян»).
Выключэнне складае зварот у праваахоўны механізм з заявай ці скаргай, ў якіх заяўляецца аб злачынстве, парушэнні правоў і свабодаў грамадзян. На падставе звароту будзе праведзена праверка (а асобе, якая не дасягнула 18 гадоў і не прызнаная дзеяздольнай, падчас далейшых этапаў разбіральніцтва, будзе прызначаны законны прадстаўнік).

Як мы адзначалі вышэй, у Беларусі сёння адсутнічаюць дзяржаўныя структуры, якія б спецыялізаваліся выключна на вырашэнні пытанняў правоў чалавека. Разам з тым, у беларускім парламенце (Нацыянальным сходзе) дэпутатамі створана Камісія па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі. Камісія не мае паўнамоцтваў непасрэдна вырашаць большасць праблемаў, звязаных з правамі чалавека, але можа, згодна з арт. 93 Закону «Аб Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь» (http://zakanadaustva.narod.ru/z_new/r08072008_370.html), рыхтаваць праекты законаў, якія тычацца правоў чалавека, да разгляду палатамі Нацыянальнага сходу; ажыццяўляць падрыхтоўку заключэнняў па праектах законаў і іншых нарматыўных прававых актаў, а таксама па іншых пытаннях (якія адносяцца да правоў чалавека); па даручэнні старшыняў палат Нацыянальнага сходу, а таксама па сваёй ініцыятыве распрацоўваць праекты законаў і іншых нарматыўных прававых актаў (якія тычацца правоў чалавека); разглядаць пісьмовыя звароты грамадзян і арганізацый, якія змяшчаюць прапановы па ўдасканаленні заканадаўства Рэспублікі Беларусь (у галіне правоў чалавека); арганізоўваць правядзенне парламенцкіх слуханняў; прыцягваць да сваёй працы экспертаў і спецыялістаў, прызначаць незалежную экспертызу праектаў законаў; запытваць у дзяржаўных органаў і іншых дзяржаўных арганізацый, службовых асоб афіцыйныя дакументы, інфармацыйныя і іншыя матэрыялы, неабходныя для іх дзейнасці ў галіне правоў чалавека і г. д.
Разам з тым, у склад камісіі ўваходзяць дэпутаты, якія павінны быць зацікаўленыя ў дапамозе сваім выбарцам. Дзяржструктуры абавязаны адказваць на запыт дэпутата, таму зварот да дэпутатаў таксама можа быць эфектыўным механізмам для ўзняцця і абмеркавання пытанняў, якія хвалююць грамадскасць.

На сайце Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (http://house.gov.by) ёсць адмысловы інфармацыйны блок, прысвечаны працы са зваротамі грамадзян:
Дадатковую інфармацыю па зваротах у Камісію парламенту ці да канкрэтных дэпутатаў можна даведацца па тэлефонах для даведкі: (017) 222-69-25; (017) 222-62-52; (017) 222-63-58. (Памятайце, што тэлефоны, пададзеныя на сайтах з часам могуць змяняцца. У выпадку, калі тэлефон не адказвае, варта патэлефанаваць у прыёмную, сакратарыят ці іншым службовым асобам для таго, каб даведацца як патэлефанаваць у Камісію).
У выпадку, калі мы незадаволеныя рашэннямі судовых органаў, можна іх абскардзіць у міжнародных інстанцыях па правах чалавека. Больш падрабязна пра Міжнародныя механізмы абароны правоў чалавека расказана ў занятку «Міжнародныя механізмы абароны правоў чалавека» ў дапаможніку «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй».

Тлумачэнне формы і зместу скаргі можна разгледзець на прыкладзе раздатка 4.4. Трэба не толькі ўмець пісьменна скласці скаргу, але і ведаць агульныя правілы яе падачы. Скарга павінна быць зарэгістравана ў адмысловым журнале для ўваходных дакументаў. Такая рэгістрацыя будзе гарантыяй, што вашу скаргу вымушаны будуць разгледзець, нават калі гэта будзе не даспадобы адміністрацыі.
Згодна з Законам «Аб зваротах грамадзян», вам будзе дадзены адказ у пісьмовай форме. У выпадку, калі вы не атрымаеце адказу, і будзе вызначана, што ён не быў падрыхтаваны, вы здолееце даказаць, што вы сапраўды падавалі скаргу, дзякуючы запісу ў журнале. Скаргу вы можаце аднесці асабіста і папрасіць зарэгістраваць яе альбо сакратара, альбо ў аддзеле дакументазвароту, канцылярыі ці іншай структуры, якая рэгіструе ўваходныя дакументы. Праўда, скарга мусіць быць зарэгістравана на працягу дня паступлення, і вы можаце не дачакацца рэгістрацыі, таму лепш дасылаць скаргу заказным лістом з паведамленнем аб уручэнні. Пасля гэтага ў вас на руках застанецца квіток, які будзе пацвярджаць факт падачы скаргі. Вы таксама маеце права папрасіць зарэгістраваць вашу копію скаргі і паставіць на яе пячатку арганізацыі ці подпіс асобы, якая зарэгістравала скаргу.

**Адміністрацыйны і праваахоўны механізмы абароны правоў чалавека**

У адміністрацыйны і праваахоўны механізмы абароны парушаных правоў і свабод уваходзяць выканаўчыя структуры дзяржаўных органаў і спецыялізаваныя структуры, надзеленыя асаблівай кампетэнцыяй — сачыць за дакладным і аднастайным выкананнем заканадаўства на тэрыторыі Беларусі. Гэта ўніверсальныя механізмы, якія, ў тым ліку, займаюцца абаронай правоў чалавека. Вышэйстаячы начальнік ці прадстаўнік праваахоўных органаў (напрыклад, пракуратуры) мае права адмяняць рашэнні сваіх падначаленых, а таксама накладаць на іх спагнанні (пакаранні), прыпыняць ці адмяняць рашэнні іншых дзяржаўных служачых ці дзяржаўных органаў. Дадзеная асаблівасць дазваляе звяртацца да начальніка таго прадстаўніка ўлады, які парушыў нейкія правы чалавека, і патрабаваць выправіць памылкі і пакараць вінаватых.

1. Звярнуцца да дзяржаўных служачых ці ў праваахоўныя органы можна ў форме вуснай ці пісьмовай скаргі. Лепш звярнуцца ў пісьмовай форме, тады органы дзяржаўнай улады гарантавана адкажуць вам пісьмова на працягу не болей як 30 дзён.

2. Адміністрацыйны і праваахоўны механізмы абароны правоў чалавека маюць свае асаблівыя працэдуры разгляду справы. Дзяржаўны служачы пасля паступлення скаргі павінен правесці спецыяльную праверку ўсіх фактаў, выкладзеных у скарзе. Прычым ніжэй стаячыя службовыя асобы, дзяржаўныя органы і арганізацыі абавязаны прадстаўляць усе неабходныя дакументы і даваць тлумачэнні па справе, якую разбірае службовая асоба ці супрацоўнік праваахоўных органаў.

3. Адміністрацыйны і праваахоўны механізмы маюць асаблівую сілу рашэнняў. Дзяржаўны служачы, які з'яўляецца начальнікам парушальніка, можа абавязаць апошняга выправіць сітуацыю. Акрамя гэтага, такі парушальнік можа быць прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці. А пракуратура можа абавязаць парушальнікаў выправіць сітуацыю і прыцягнуць асобаў, якія парушылі заканадаўства, да адказнасці, нават крымінальнай. Разам з тым варта памятаць, што пакаранне вінаватага не азначае аднаўлення вашых правоў.

4. Дзяржаўныя і праваахоўныя органы маюць складаную іерархічную структуру.
   Напрыклад, калі мова ідзе пра пытанні, звязаныя з адукацыяй, то ў адміністрацыйны механізм абароны правоў чалавека ўваходзяць: дырэктар навучальнай установы, аддзел адукацыі выканаўчага камітэта населенага пункта, аддзел адукацыі абласнога выканаўчага камітэта, міністэрства адукацыі. Таму, калі мы будзем незадаволеныя рашэннем, якое прыняў дырэктар школы, мы можам яго аспрэчыць у гарадскім аддзеле адукацыі, а рашэнне гарадскога аддзела — у аддзеле адукацыі абласнога выканаўчага камітэта. І так, па ланцужку, можна дайсці да міністра адукацыі. У механізм пракуратуры ўваходзяць раённы ці гарадскі пракурор, абласны пракурор і генеральны пракурор.

   У выпадку, калі мы незадаволеныя рашэннем міністра адукацыі ці пракуратуры па справе аб правах чалавека, мы можам звярнуцца да іншых механізмаў абароны правоў чалавека, напрыклад, у суд.

5. Знайсці органы дзяржаўнай улады ці пракуратуру ў вашым населеным пункце можна па тэлефонным даведніку, запытаўшы ў бацькоў ці настаўнікаў, альбо па Інтэрнэтце праз пошукавыя сайты.

**Спецыяльныя органы абароны правоў чалавека (Камісія па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, інстытут амбудсмена)**

Спецыяльныя органы абароны правоў чалавека адрозніваюцца ад іншых дзяржаўных механізмаў тым, што сваёй непасрэднай задачай маюць толькі вырашэнне праблемаў у сферы правоў чалавека. Спецыяльныя структуры, створаныя дзеля гэтага, у шэрагу развітых дзяржаваў называюцца інстытутам амбудсмена. Амбудсмен — гэта службовая асоба, якая займаецца абаронай правоў чалавека. У некаторых краінах, напрыклад, у Швецыі, амбудсмен мае нават кампетэнцыю адмяняць рашэнні службовых асоб ці дзяржаўных органаў, якія парушаюць правы чалавека. У іншых дзяржавах амбудсмены могуць толькі хадайнічаць пра выпраўленне сітуацыі, якая склалася.
У Беларусі сёння адсутнічаюць дзяржаўныя структуры, якія б спецыялізаваліся выключна на вырашэнні пытанняў, датычных правоў чалавека. У беларускім парламенце (Нацыянальным сходзе) са складу дэпутатаў створана Камісія па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі. Дадзеная Камісія не мае паўнамоцтваў непасрэдна вырашаць большасць праблемаў, звязаных з правамі чалавека, але туды ўсё роўна можна звяртацца.

1. Да прадстаўнікоў Камісіі па правах чалавека можна звярнуцца з вуснай ці пісьмовай скаргай, заявай ці хадайніцтвам. Лепш звярнуцца ў пісьмовай форме, тады прадстаўнік камісіі будзе абавязаны адказаць пісьмова на працягу 30 дзён.

2. Камісія і дэпутаты, якія ўваходзяць у яе, маюць права збіраць інфармацыю, якая цікавіць вас, альбо выносіць гэтую інфармацыю на абмеркаванне ў розных вышэйшых і мясцовых органах улады.

3. Камісія і дэпутаты, якія ўваходзяць у яе, не маюць магчымасці непасрэдна вырашыць праблему ў галіне правоў чалавека, але могуць дапамагчы паўплываць на дзяржаўных служачых з мэтай прыняцця рашэння ў адпаведнасці са стандартамі правоў чалавека.

4. Знайсці Камісію па правах чалавека і парадак звароту ў яе можна на сайце: http://house.gov.by альбо па тэлефонах у Мінску: (017) 222-69-25; (017) 222-62-52; (017) 222-63-58

**Судовы механізм абароны правоў чалавека**

Судовы механізм уключае ў сябе органы суда, якія на падставе права і спецыяльных судовых працэдур разглядаюць разнастайныя спрэчкі, у тым ліку і спрэчкі па правах чалавека. Іншымі словамі, суд займаецца рознымі праблемамі, але сярод іх займаецца і правамі чалавека.

1. Звярнуцца ў суд можна толькі ў спецыяльнай пісьмовай форме іскавай заявы і, як правіла, платна. Для падрыхтоўкі іскавай заявы можна звярнуцца па дапамогу да юрыста ці ў праваабарончую арганізацыю, якая можа дапамагчы вам напісаць іскавую заяву.

2. Судовы механізм абароны правоў чалавека мае свае асаблівыя працэдуры разгляду справы. Суд разглядае справы на спецыяльных судовых пасяджэннях па асаблівай працэдуры. Таму перад судом варта параіцца з юрыстам альбо прадстаўніком праваабарончай арганізацыі і папрасіць іх прадстаўляць вашы інтарэсы ў судзе. Для разгляду іскавай заявы суд можа выклікаць службовых асобаў, запатрабаваць дакументы па справе з дзяржаўных органаў.

3. Кожны з механізмаў мае асаблівую сілу рашэнняў. Так, рашэнне судовых органаў можа прымусіць парушальніка выправіць сітуацыю, пакараць вінаватых і кампенсаваць пацярпелым матэрыяльныя і маральныя страты.

4. Варта памятаць, што калі мы будзем незадаволеныя рашэннем, якое прыняў першы суд, напрыклад, раённы (гарадскі) суд, мы можам яго аспрэчыць у абласным судзе, а рашэнне абласнога суда — у Вярхоўным судзе. У выпадку, калі мы незадаволеныя рашэннем Вярхоўнага суда па справе, якая тычыцца правоў чалавека, мы можам звярнуцца ў міжнародныя інстанцыі, напрыклад, у Камітэт па правах чалавека Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. У выпадку, калі правы чалавека — грамадзяніна Рэспублікі Беларусь — парушаныя дзяржавай, якая ўваходзіць у Раду Еўропы (напрыклад, уладамі Польшчы, Германіі, Расіі, Украіны і інш.), то ён мае права звяртацца ў Еўрапейскі суд па правах чалавека. Калі Беларусь стане сябрам Рады Еўропы, то нашы грамадзяне змогуць абараняць свае правы і ў Еўрапейскім судзе па правах чалавека.

5. Знайсці раённы суд у вашым населеным пункце можна па тэлефонным даведніку, запытаўшы ў бацькоў ці настаўнікаў, альбо па Інтэрнэце праз пошукавыя сайты.

## Структура і змест скаргі, заявы, прапановаў

1. Каму.
Тут трэба падаць прозвішча, імя і імя па бацьку,
а таксама назву пасады асобы, на імя якой падаецца скарга,
назву ўстановы, куды падаецца скарга.
У выпадку, калі вы не ведаеце прозвішча
асобы, на імя якой падаецца скарга, вы можаце
напісаць толькі назву яе пасады і ўстанову, у якую падаеце заяву.

2. Ад каго.
Падаецца поўнае прозвішча,
імя і імя па бацьку, кантактны адрас
і, па магчымасці, тэлефон для кантактаў.

3. Назва. (Скарга. Заява. Прапановы.)

4. Вытлумачэнне сутнасці справы. Сцісла і без эмоцый патлумачце сутнасць справы (здарэння, выпадку), праз якую вы звяртаецеся да службовай асобы.

5. Тлумачэнне таго, якія гарантаваныя законам правы былі парушаны. Дадзеная частка з'яўляецца неабавязковай: дастаткова патлумачыць, у чым заключалася парушэнне вашых правоў без спасылак на заканадаўства.

6. Вашы патрабаванні. Патлумачце, што вы хочаце ад той асобы, да якой звяртаецеся, якіх дзеянняў ад гэтай асобы вы чакаеце ў адказ на скаргу (напрыклад, разгляду сітуацыі на пасяджэнні працоўнага калектыву, пакарання вінаватых асоб у адпаведнасці з заканадаўствам, прабачэнняў ці нечага іншага).

7. Дата напісання скаргі.

8. Пастаўце свой подпіс і подпісы ўсіх, хто згодны з вашай скаргай.
У выпадку, калі скарга падаецца ад некалькіх асоб, варта, каб яны таксама пазначылі свае кантактныя звесткі.

9. Калі да скаргі прыкладаюцца нейкія іншыя дакументы, напрыклад, копіі рахункаў, спісаў пацярпелых, сведак ці інш., у канцы скаргі (пад подпісам) можна дадаць яшчэ пункт «Дадаткі», дзе трэба пералічыць назвы ўсіх дакументаў, якія вы далучаеце да скаргі. Дадаткі павінны дапамагчы ў прыняцці рашэння па вашым пытанні. Заўсёды прыкладайце толькі копіі дакументаў, каб не згубіць арыгіналы!

*Дасылаць скаргу лепш заказным лістом з паведамленнем аб уручэнні — гэта гарантыя таго, што дасланы ліст будзе прыняты і зарэгістраваны, а ў выпадку нерэгістрацыі дазволіць даказаць, што вы сапраўды высылалі скаргу.*

# 5. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз грамадскія аб’яднанні

**Заняткі разлічаны на 45 хв.**

### Чаканыя вынікі

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - што такое грамадскія аб’яднанні і для чаго яны ствараюцца;
  - якім чынам праз удзел у дзейнасці альбо пры дапамозе грамадскіх аб’яднанняў можна адстойваць і пашыраць правы чалавека;
  - што свабода асацыяцыяў (свабода аб’яднанняў) — права чалавека, якое гарантуецца міжнародным і нацыянальным заканадаўствам;
  - асноўныя спосабы дзейнасці праз грамадскія аб’яднанні ў сферы адстойвання і пашырэння правоў чалавека.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - аргументаваць сваю пазіцыю адносна неабходнасці і важнасці грамадскіх аб’яднанняў (інстытутаў грамадзянскай супольнасці) у справе абароны правоў чалавека на нацыянальным і мясцовым узроўнях;
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да грамадскіх аб’яднанняў як да важных інстытутаў грамадзянскай супольнасці, якія забяспечваюць рэалізацыю інтарэсаў грамадзян, у тым ліку — у галіне абароны і пашырэння правоў чалавека.

### План заняткаў

1. Факусаванне ўвагі — 4 хв.
2. Знаёмства з тэмай і чаканымі вынікамі заняткаў — 1 хв.
3. Знаёмства з законнымі магчымасцямі грамадзяніна ў межах грамадзянскай супольнасці — 15 хв.
4. Магчымасці выкарыстання грамадскіх аб’яднанняў у межах грамадскіх кампаній удзельнікаў — 20 хв.
5. Падагульненне заняткаў — 5 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі (4 хв.).**
Запытайце, якія грамадскія аб’яднанні ведаюць удзельнікі. Чым займаюцца гэтыя аб’яднанні? Для чаго патрэбныя гэтыя грамадскія аб’яднанні людзям, якія жывуць у дадзенай мясцовасці? Папрасіце патлумачыць адказ.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Як правіла, удзельнікі ведаюць толькі некалькі грамадскіх аб’яднанняў (ГА). Варта прывесці адзін ці некалькі прыкладаў грамадскіх аб’яднанняў, якія задзейнічаныя ў сферы абароны і пашырэння правоў чалавека ў вашай мясцовасці, напрыклад, Беларускі Хельсінкскі камітэт http://www.belhelcom.org/, грамадскае аб’яднанне «ВІТ» (гл. больш падрабязна: http://vitngo.org). Калі звесткі пра дзейнасць мясцовых грамадскіх аб’яднанняў адсутнічаюць, па дапамогу можна звярнуцца ў абласное ўпраўленне юстыцыі альбо на сайты грамадскіх аб’яднанняў, якія дапамагаюць развівацца іншым грамадскім аб’яднанням, напрыклад, http://ngo.by/database/ngo/
Добра было б таксама абмеркаваць, што такое ГА (гл. ў дадатковай інфармацыі) і для чаго яны ствараюцца. Гэта дапаможа пазней весці гаворку пра тое, як можна выкарыстоўваць ГА ў справе абароны і пашырэння правоў чалавека.

**2. Азнаёмце ўдзельнікаў з тэмай і чаканымі вынікамі заняткаў (1 хв.).**

**3. Знаёмства з законнымі магчымасцямі грамадзяніна ў межах грамадзянскай супольнасці (15 хв.).**
Для знаёмства спатрэбіцца раздатак 5.1. Дайце час на самастойнае азнаямленне з ім. Пасля знаёмства з раздаткам спытайце: «Якім чынам грамадскія аб’яднанні могуць дапамагчы ў вырашэнні грамадскіх праблем?»

**4. Магчымасці выкарыстання грамадскіх аб’яднанняў у межах грамадскіх кампаній удзельнікаў (20 хв.).**

Пасля гэтага аб’яднайце ўдзельнікаў у групы, у якіх яны працуюць над кампаніямі, і папрасіце абмеркаваць, які са спосабаў выкарыстання грамадскага аб’яднання ў абароне ці пашырэнні правоў чалавека з’яўляецца найлепшым для вырашэння іх канкрэтнай праблемы. Папрасіце кожную групу прывесці два аргументы ў падмацаванне сваёй пазіцыі.

**5. Падагульненне заняткаў (5 хв.).**

Падагульненне заняткаў можна правесці пры дапамозе наступных пытанняў:

- Што такое грамадскія аб’яднанні і для чаго яны ствараюцца?
- Якім чынам праз удзел у дзейнасці альбо пры дапамозе грамадскіх аб’яднанняў можна адстойваць і пашыраць правы чалавека?

## ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Дзейнасць грамадскіх аб’яднанняў як форма грамадскага ўдзелу ў вырашэнні пытанняў правоў чалавека на мясцовым узроўні**

Права асобы на аб’яднанне (асацыяцыю з іншымі людзьмі) гарантавана міжнароднымі дакументамі ў галіне правоў чалавека. Асоба мае права ствараць грамадскія аб’яднанні, удзельнічаць у іх дзейнасці і кіраваць імі. Забарона ці незаконнае абмежаванне падобнай дзейнасці з’яўляецца парушэннем правоў чалавека. Разам з тым, дапускаецца часовае абмежаванне права асобаў на аб’яднанне, але ў дэмакратычным грамадстве абмежаванні павінны быць неабходнымі, могуць уводзіцца на падставе заканадаўства ў інтарэсах нацыянальнай ці грамадскай бяспекі, грамадскага парадку, абароны грамадскага здароўя ці маралі ці для абароны правоў і свабодаў іншых людзей (арт. 21 МПГПП). Права на аб’яднанне — фундамент грамадзянскай супольнасці.

Тэрмін *грамадзянская супольнасць* можна разумець у шырокім і вузкім сэнсах. З аднаго боку, грамадзянская супольнасць — гэта сукупнасць любых адносінаў, знітаванняў, лучнасцяў і працэсаў у грамадстве, не звязаных з дзейнасцю дзяржаўных структур ці структур, якія займаюцца бізнесам і атрымліваюць прыбытак. З другога боку, пад грамадзянскай супольнасцю разумеюць сукупнасць грамадскіх аб’яднанняў і ініцыятыў грамадзян.

Грамадскія аб’яднанні прынята адносіць да так званага трэцяга сектара грамадства (бізнэс-стуктуры і камерцыйныя фірмы складаюць другі сектар, а палітычныя партыі і дзяржаўныя органы — першы сектар). У адрозненні ад палітычных і камерцыйных структур, грамадскія аб’яднанні сваімі сіламі, з прыцягненнем людскіх і матэрыяльных рэсурсаў, самастойна стараюцца вырашаць праблемы грамадства. Грамадскае аб’яднанне — добраахвотнае аб’яднанне грамадзян, створанае грамадзянамі для вырашэння праблем асобных слаёў грамадства ці для задавальнення грамадскіх патрэбаў.
У адрозненні ад камерцыйных структур, грамадскія аб’яднанні не атрымліваюць фінансавых прыбыткаў, а таксама не звязаны з барацьбой за атрыманне палітычнай улады, прыход да ўлады, кантроль і кіраванне дзяржаўнымі структурамі.

Няправільна было б супрацьпастаўляць тры сектары адзін аднаму. Варта памятаць, што кожны з трох сектараў грамадства адрозніваецца сферай дзейнасці, спосабамі і метадамі дзейнасці і прынцыпамі арганізацыі. Кожны з сектараў выконвае нейкія канкрэтныя функцыі ў грамадстве, а гэта азначае, што адбываецца не супрацьстаянне, а ўзаемадапаўненне сектараў, калі яны ўсе дзейнічаюць у інтарэсах грамадства.

Грамадскія аб’яднанні маюць асаблівы юрыдычны статус, які яны атрымліваюць у выніку рэгістрацыі. Грамадскія аб’яднанні могуць быць рознымі. Напрыклад, па сферы дзейнасці яны бываюць праваабарончыя, экалагічныя, культурніцкія, адукацыйныя і інш. Па катэгорыі людзей, на якіх накіравана дзейнасць аб’яднання — дзіцячыя ці моладзевыя, жаночыя, людзей з абмежаванымі фізічнымі і (ці) псіхічнымі магчымасцямі, адзінокіх бацькоў і г. д. Па тэрыторыі дзейнасці — пасялковыя, гарадскія, раённыя, абласныя, рэспубліканскія, міжнародныя.

Паколькі грамадскія аб’яднанні ствараюцца грамадзянамі для вырашэння істотных праблемаў, даволі вялікая частка аб’яднанняў займаецца ў тым ліку і пытаннямі пашырэння і абароны правоў чалавека як на мясцовым, так і на нацыянальным узроўнях.

Актыўны грамадзянін можа мабілізаваць людзей да ўдзелу ў адстойванні правоў чалавека, ствараць грамадскія аб’яднанні і ініцыятывы, якія будуць актыўна ўдзельнічаць у абароне правоў чалавека, напрыклад, праз арганізацыю тэхнічнай, маральнай, псіхалагічнай і прававой дапамогі пацярпелым,

могуць пашыраць правы чалавека праз асветніцкую і адукацыйную дзейнасць у галіне правоў чалавека, распрацоўку і распаўсюджванне інфармацыі аб стане правоў чалавека ў рэгіёне або краіне, падрыхтоўку метадычных матэрыялаў.
Грамадскія аб’яднанні, як правіла, ствараюцца людзьмі, якіх хвалююць тыя ці іншыя грамадскія праблемы. Таму гэтыя людзі добра арыентуюцца ў сутнасці і спосабах вырашэння гэтых пытанняў і матываваныя на такую дзейнасць.

У выпадку, калі мэта дзейнасці грамадскага аб’яднання адпавядае мэце грамадскай кампаніі, грамадскае аб’яднанне можа стаць карысным рэсурсам людскіх і матэрыяльных сродкаў для вырашэння праблемы, якая вас хвалюе.

**Спосабы і магчымасці выкарыстання грамадскіх аб’яднанняў для пашырэння ці адстойвання правоў чалавека**

Ствараць грамадскае аб’яднанне, быць сябрам грамадскага аб’яднання, кіраваць грамадскім аб’яднаннем і звяртацца па дапамогу ў грамадскае аб’яднанне — гэта права чалавека, гарантаванае законамі дзяржавы і міжнароднымі дагаворамі па правах чалавека. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь у арт. 36 замацоўвае правы кожнага на свабоду аб’яднанняў, Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека (1948 г.) у арт. 20 гаворыць пра тое, што кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый (аб’яднанняў) і ніхто не павінен прымушацца ўступаць у якую-небудзь асацыяцыю.

**1. Грамадзянін можа стварыць грамадскае аб’яднанне.** Вы можаце стаць ініцыятарам стварэння грамадскага аб’яднання ў тым выпадку, калі ў вашай мясцовасці такога аб’яднання няма, ці тыя, што ёсць, не могуць вырашыць вызначаную вамі праблему. Для гэтага вам неабходна сабраць, як мінімум, 10 аднадумцаў, а таксама атрымаць кансультацыю аб тым, што трэба зрабіць, каб зарэгістраваць грамадскае аб’яднанне. Растлумачыць, як стварыць арганізацыю, могуць у юрыдычнай кансультацыі, у грамадскім аб’яднанні, якое спецыялізуецца на дапамозе ў рэгістрацыі грамадскіх аб’яднанняў. Інфармацыю на гэтую тэму можна знайсці і ў інтэрнэце (напрыклад: http://www.minjust.by/ru/site_menu/about/struktura/obschestv/registr ).

**2. Грамадзянін можа далучыцца да дзейнасці грамадскага аб’яднання, якое ўжо створана і дзейнічае ў вашай мясцовасці.** Для гэтага трэба знайсці грамадскае аб’яднанне, азнаёміцца з яго статутам, дзе запісана, чым гэта аб’яднанне займаецца і што робіць. Калі вы падзяляеце мэты і спосабы дзейнасці гэтага аб’яднання, вы можаце паспрабаваць стаць сябрам гэтага аб’яднання і ўключыцца ў актыўную дзейнасць. Знайсці грамадскае аб’яднанне ў сваім населеным пункце можна па інфармацыі аб акцыях грамадскіх аб’яднанняў у мясцовай прэсе, атрымаўшы інфармацыю ад знаёмых ці праз Інтэрнэт.

**3. Грамадзянін можа ўдзельнічаць у кіраванні грамадскім аб’яднаннем.** Вы маеце права заняць любую пасаду ў грамадскім аб’яднанні, у дзейнасці якога вы ўдзельнічаеце альбо якое вы стварылі. Гэта азначае, што вы можаце заняць пасаду кіраўніка, намесніка, рэвізора ці любую іншую, прадугледжаную статутам арганізацыі.

**4. Грамадзянін можа звяртацца да грамадскага аб’яднання з просьбай пра дапамогу.** Калі вы хочаце вырашыць мясцовую праблему, звязаную з правамі чалавека, вы можаце звярнуцца па кансультацыю альбо па дапамогу ў складанні дакументаў, распаўсюджанні інфармацыі альбо па іншую дапамогу ў мясцовыя ці нацыянальныя грамадскія аб’яднанні. Грамадскія аб’яднанні маюць рэсурсы, падрыхтаваных людзей і матывацыю для вырашэння асобных праблем грамадства. Важна, каб ваша праблема была цікавая грамадскаму аб’яднанню, да якога вы звяртаецеся. Грамадскае аб’яднанне не заўсёды можа самастойна вырашыць праблему, але можа дапамагчы ў вашай працы па вырашэнні праблемы.

# 6. Формы грамадскага ўдзелу: кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці ў галіне правоў чалавека

**Заняткі разлічаны на 45 хв.**

### Чаканыя вынікі

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - што такое кампаніі адво́касі (ад анг. «advocacy») па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці ў галіне абароны і пашырэння правоў чалавека і якія яе прыкметы.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - патлумачыць сутнасць кампаніі па адстойванні і пашырэнні правоў чалавека;
  - выкарыстоўваць кампаніі па адстойванні і пашырэнні правоў чалавека на практыцы.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да кампаній па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці (адвокасі альбо адвакацыя) у галіне абароны і пашырэння правоў чалавека як да эфектыўных форм грамадскага ўдзелу.

### План заняткаў

1. Факусаванне ўвагі і знаёмства з тэмай і задачамі заняткаў — 4 хв.
2. Прыкметы кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці — 20 хв.
3. Вызначэнне мэты кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці — 15 хв.
4. Падагульненне заняткаў — 6 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Азнаёмце ўдзельнікаў з тэмай і задачамі заняткаў (4 хв.).**
Патлумачце, якім чынам гэтая тэма звязаная з папярэднімі заняткамі.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

На гэтым занятку мы працягнем разглядаць формы грамадскага ўдзелу, якія можна выкарыстоўваць у тых грамадскіх кампаніях, якія пачалі распрацоўваць удзельнікі ў групах.

**2. Прыкметы кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці (20 хв.).**
Раздайце кожнаму ўдзельніку па адной копіі апісання адной з грамадскіх кампаній, пададзеных у раздзеле «Прыклады грамадскіх кампаній». Паклапаціцеся, каб удзельнікі атрымалі апісанне розных кампаній, а не адной і той самай.

Папрасіце ўважліва прачытаць гэтыя матэрыялы. Затым аб'яднайце ўдзельнікаў у групы, у якіх яны распрацоўвалі на мінулых занятках свае кампаніі. Папрасіце вылучыць і абмеркаваць у групах найбольш істотныя характарыстыкі кампаній, апісанне якіх прачыталі ўдзельнікі, паводле наступных параметраў: на каго былі скіраваныя гэтыя кампаніі, хто іх ініцыяваў, якіх вынікаў планавалі дасягнуць ініцыятары, якія вынікі былі дасягнутыя. Пад істотнымі характарыстыкамі кампаній трэба разумець такія прыкметы кампаній, якія адрозніваюць іх ад іншых форм грамадскага ўдзелу, з якімі ўдзельнікі пазнаёміліся на мінулых занятках.

Раздайце кожнай групе раздатак 6.1. З яго дапамогай патлумачце ўдзельнікам, што такое «кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці» і яе ключавыя прыкметы.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Найбольш істотнымі прыкметамі кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці з'яўляюцца: сістэма ўзаемазвязаных мерапрыемстваў; спроба ўплыву на асоб, ад якіх залежыць прыняцце важных для грамадства рашэнняў, у выніку якіх ствараюцца пастаянныя механізмы вырашэння праблем у галіне правоў чалавека альбо парушэння правоў чалавека, фарміруецца ці змяняецца палітыка альбо практыка дзейнасці дзяржаўных органаў.

Для падсумавання вынікаў гэтай часткі і на падставе прачытаных матэрыялаў папрасіце кожнага ўдзельніка па чарзе назваць толькі адну прыкмету кампаній па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці, якую гэты ўдзельнік запомніў. У выпадку, калі падобную прымету ўжо называлі — яна не агучваецца.

**3. Вызначэнне мэты адвокасі-кампаніі (18 хв.).**
Папрасіце удзельнікаў аб'яднацца ў групы паводле праблемаў, над якімі яны працуюць, і адказаць на наступныя пытанні:

• Ці варта ў межах кампаній, якія распрацоўвалі ўдзельнікі на папярэдніх занятках, арганізаваць кампанію па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці? Калі так, то:
— вызначце мэту кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці ў дачыненні да вашай канкрэтнай праблемы;
— вызначце асоб, адказных за вырашэнне «вашай» праблемы, на якіх будзе скіраваная ваша кампанія адвокасі;
— акрэсліце, як мясцовыя жыхары, якія таксама зацікаўленыя ў вырашэнні праблемы, могуць паўплываць на гэтых асоб.

• Якія дзеянні маглі б складаць аснову такой кампаніі?

Папрасіце групы прадставіць вынік сваё працы.

**6. Падагульненне заняткаў (3 хв.).**
Задайце ўдзельнікам наступнае пытанне:
• Чым кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці адрозніваюцца ад іншых форм грамадскага ўдзелу, з якімі вы ўжо знаёміліся?

ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Асаблівасці кампаній па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці (адвокасі) як асобнай формы грамадскага ўдзелу**

Тэрмін *адвокасі* паходзіць ад англійскага тэрміна *advocacy* і зазвычай яго перакладаюць як «адстойванне», «абарона», «прасоўванне», «судзеянне». Гэты тэрмін перакладаюць таксама як «кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці» альбо выкарыстоўваюць без перакладу (*адвокасі*).

У дадзеным дапаможніку мы будзем разумець кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці як працэс, накіраваны на змену заканадаўства, палітыкі ці практыкі, якімі карыстаюцца дзяржаўныя органы, грамадскія і іншыя арганізацыі, групы людзей, з мэтай паляпшэння жыцця пэўных групаў людзей і супольнасці ў цэлым (заканадаўства — гэта тыя нарматыўныя дакументы, якія з'яўляюцца агульнаабавязковымі для выканання, палітыка — гэта асаблівы працэс здзяйснення ўлады, а практыка — гэта асаблівы працэс рэалізацыі рашэння ці звычайныя паводзіны ў канкрэтнай сітуацыі, выпрацаваныя часам і звычаем).

Тэрмін *кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці* звычайна разумеюць у шырокім ці ў звужаным сэнсе. Розніца заключаецца ў скіраванасці кампаніі. Адны лічаць, што кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці накіравана толькі на змену заканадаўства, іншыя мяркуюць, што на змену заканадаўства і палітыкі, а трэція упэўнены, што яна мае на мэце змену заканадаўства, палітыкі ці ўстойлівай практыкі.

Адрозніваецца стаўленне да кампаній па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці і ў залежнасці ад суб'ектаў: адны лічаць, што гэтыя кампаніі могуць рэалізаваць толькі шырокія колы грамадскасці, іншыя дапускаюць, што ў кампаніях могуць удзельнічаць і невялікія групы актыўных грамадзян, трэція дапускаюць, што кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці могуць праводзіць нават асобныя людзі. Адрозніваюцца падыходы да кампаній таксама і па аб'ектах уздзеяння кампаній па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці. Адны лічаць, што кампаніі павінна быць накіравана толькі на асобаў, што прымаюць рашэнні ў дзяржаўных органах улады, іншыя лічаць, што, акрамя гэтых асоб, аб'ектамі могуць быць і іншыя структуры, напрыклад, грамадскія арганізацыі, трэція лічаць, што, акрамя агучаных аб'ектаў, існуюць і асобныя групы людзей.

Такім чынам, кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці маюць на мэце змену нормаў заканадаўства, альбо практыкі дзейнасці дзяржаўных органаў, альбо стаўлення супольнасці да нейкай праблемы. Кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці адрозніваецца сваёй спецыфічнай мэтай і той мэтавай групай, на якую накіравана ўздзеянне: як правіла, гэта канкрэтная службовая асоба, якая прымае рашэнні ў нейкай сферы.

Прыкладам кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці можа быць шэраг узаемазвязаных мерапрыемстваў групы бацькоў, якія хочуць аддаць сваіх дзяцей у дзіцячы садок з беларускай мовай навучання. Прапануем паглядзець апісанне праблемы ў раздатку 6.1.
У гэтым выпадку кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці будзе складацца з некалькіх кампанентаў:

а) пастаноўка праблемы («адсутнасць механізма па фарміраванні беларускамоўнай групы ў дзіцячым садку на такіх самых падставах, як і фарміраванне рускамоўных групаў»);

б) вызначэнне мэты кампаніі і кола асобаў, ад якіх залежыць вырашэнне дадзенага пытання (аддзел адукацыі гарвыканкама, упраўленне адукацыі аблвыканкама і г. д.);

в) выбар формаў і спосабаў уздзеяння (напрыклад, складанне звароту і кампанія ў мясцовай прэсе);

г) падключэнне да ўдзелу ў спосабах уздзеяння шырокай грамадскасці (звароты складаюцца не толькі ад імя бацькоў, якія збіраюцца аддаць сваіх дзяцей у беларускамоўную групу, але збіраюцца і подпісы грамадскасці).

Кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці павінна прыцягваць увагу грамадскасці да тэмаў, якія непакояць актыўную частку грамадства, у нашым выпадку бацькоў, а таксама падключаць шырокую грамадскасць да ўплыву на прадстаўнікоў улады з мэтай прыняцця імі патрэбнага бацькам і грамадскасці рашэння.

Кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці можа выкарыстоўваць багаты арсенал стратэгій, форм і метадаў уздзеяння адначасова. Акрамя зваротаў могуць выкарыстоўвацца артыкулы ў СМІ, лабіраванне, судовыя разбіральніцтвы, пікеты, грамадскія слуханні і г. д. Кампаніі па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці заўсёды разглядаюцца як актыўнае дзеянне і прадугледжваюць актыўнае ўзаемадзеянне з рознымі арганізацыямі, грамадзянамі і максімальна публічнае абмеркаванне пытанняў.

Гэтыя кампаніі дапамагаюць згуртаваць сілы грамадзян і арганізацый для аказання дапамогі ў вырашэнні нейкай канкрэтнай грамадскай праблемы (у нашым прыкладзе адсутнасць беларускамоўнай групы ў садку). Такая кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці можа быць кароткатэрміновай ці доўгатэрміновай кампаніяй. Але, як правіла, яна складаецца з шэрагу ўзаемазвязаных паміж сабой дзеянняў.

Кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці можа насіць мясцовы, нацыянальны і міжнародны характар.

**Паняцце** ***кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці***

Кампанія па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці (адво́касі) — гэта, як правіла, шэраг звязаных між сабой мерапрыемстваў з мэтай паўплываць на чыноўнікаў, якія прымаюць рашэнні (напрыклад, на загадчыка аддзела адукацыі, ці галоўурача бальніцы, ці начальніка ЖЭС) такім чынам, каб яны на сваім узроўні вырашылі праблему.

Паўплываць на чыноўніка з мэтай прыняцця рашэння можна толькі законным шляхам, а для гэтага далучаюць як мага больш людзей, якія пішуць скаргі, тэлефануюць да канкрэтнага чыноўніка для таго, каб ён прыняў адпаведнае рашэнне, якое будзе мець абавязковы характар ва ўсіх наступных сітуацыях падобнага тыпу. Такое рашэнне павінна вырашыць праблему (напрыклад, неабходна адкрыць новы клас, забараніць высякаць дрэвы на тэрыторыі бальніцы ці забараніць здымаць спадарожнікавыя антэны з балконаў) альбо стварыць адпаведны механізм, які дазволіць пазбегнуць гэтых праблем у будучым (напрыклад, прыняць рашэнне аб працэдуры абавязковага ўзгаднення вырубкі дрэваў на тэрыторыі горада з жыхарамі прылеглых вуліц).

Прыкладам кампаніі адвокасі можа быць шэраг узаемазвязаных мерапрыемстваў групы бацькоў, якія хочуць аддаць сваіх дзяцей у дзіцячы садок з беларускай мовай навучання. Праблема заключаецца ў тым, што практыка дзейнасці дзяржаўных органаў і дзеючыя дакументы вызначаюць, што беларускамоўная група можа быць сфарміравана пры наяўнасці пэўнай колькасці заяваў бацькоў. Гэта значыць, што, каб аддаць дзіця ў беларускамоўную групу садка, неабходна спачатку знайсці дастатковую колькасць іншых бацькоў, якія згодны вадзіць дзіця ў беларускамоўную групу і толькі тады група будзе сфарміравана. Такім чынам складваецца практыка, калі для фарміравання рускамоўнай групы дастаткова падаць заяву, а для фарміравання беларускамоўнай групы трэба падаць заяву і дадаткова да гэтага знайсці нейкую колькасць бацькоў, згодных вадзіць сваіх дзяцей у беларускамоўную групу (што часам зрабіць цяжка з розных прычынаў). Дадатковыя дзеянні па пошуку бацькоў, якія вымагаюцца ад беларускамоўных бацькоў, парушаюць прынцып роўнага доступу да адукацыі і з’яўляюцца дыскрымінацыяй па моўнай прыкмеце.

У гэтым выпадку ўплыў варта ажыццяўляць на дзяржаўныя органы адукацыі на ўзроўні адпаведнага населенага пункта. Гэта можа быць просьба прыняць рашэнне ў выглядзе нарматыўнага акта, які абавяжа канкрэтны садок ствараць адну беларускамоўную групу кожны год, альбо будзе ўтрымліваць патрабаванне да дзяржаўных служачых і адміністрацыі змяніць сваё стаўленне і практыку ўзаемадзеяння з беларускамоўнымі бацькамі, альбо змяніць палітыку ў адносінах фарміравання рускамоўных і беларускамоўных групаў.

Поспехам кампаніі ў вышэй азначаным прыкладзе можа лічыцца заснаванне садку ці групы з беларускамоўным выхаваннем альбо змена правілаў фарміравання беларускамоўных груп, каб былі створаныя роўныя умовы для беларускамоўных бацькоў, і ўжо не бацькі, а дзяржаўныя органы шукалі б патрэбную колькасць ахвотных у беларускамоўную групу (роўны доступ да адукацыі).

# 7. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз удзел у розных этапах выбараў

**Заняткі разлічаны на 45 хв.**

**Чаканыя вынікі**

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - сутнасць выбараў і асноўныя этапы выбарчага працэсу;
  - як можна выкарыстоўваць розныя этапы выбараў для абароны ці прасоўвання правоў чалавека на мясцовым узроўні;
  - агульныя прынцыпы ўдзелу на розных этапах выбараў з мэтай спрыяння абароне і пашырэнню правоў чалавека
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - аргументаваць сваю пазіцыю адносна неабходнасці і важнасці ўдзелу ў выбарах для спрыяння справе абароны і пашырэння правоў чалавека на нацыянальным і мясцовым узроўні
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да ўдзелу ў выбарах, як да эфектыўнай формы вырашэння праблем, звязаных з правамі чалавека на нацыянальным і мясцовым узроўнях.

**План заняткаў**

1. Факусаванне ўвагі — 4 хв.
2. Знаёмства з тэмай і задачамі заняткаў — 1 хв.
3. Практыкаванне «галасаванне» — 10 хв.
4. Знаёмства з асноўнымі этапамі выбараў — 25 хв.
5. Падагульненне заняткаў — 5 хв.

# ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі (4 хв.).**

Папрасіце ўдзельнікаў адказаць на пытанне: «Што значыць для вас удзельнічаць у выбарах?»

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Адказваючы, удзельнікі звычайна гавораць аб этапе галасавання як аб асноўным этапе выбараў, забываючы пра існаванне іншых этапаў (гл. раздатак да дадзенага занятку). У гэтай частцы занятку нам не важна, колькі этапаў удзелу ў выбарах назавуць удзельнікі. Важна толькі зацікавіць іх заняткам і тэмай. Пазней, пасля знаёмства з раздаткам 7.1., можна будзе вярнуцца да гэтага пытання і высветліць, чаму яны разглядалі выбары толькі як адзін этап.

**2. Азнаёмце ўдзельнікаў з тэмай і задачамі заняткаў (1 хв.).**

**3. Практыкаванне «галасаванне» (10 хв.).**

Скажыце ўдзельнікам, што зараз яны будуць удзельнічаць у галасаванні. Раздайце ўдзельнікам аркушы паперы. Кожны ўдзельнік павінен атрымаць адзін аркуш з надпісам. Толькі на двух з аркушаў, незалежна ад колькасці ўдзельнікаў, напішыце словы: «Кандыдат у дэпутаты». На ўсіх астатніх: «Выбаршчык». Для мэтаў практыкавання папрасіце ўдзельнікаў не паказваць свае паперкі і не дзяліцца з іншымі зместам напісанага. Такім чынам два ўдзельнікі будуць граць ролю кандыдатаў у дэпутаты, а ўсе астатнія — выбаршчыкаў (але ніхто не павінен ведаць, кім з'яўляюцца іншыя асобы ў групе).

Задача выбаршчыка — прагаласаваць за аднаго з кандыдатаў. Але, згодна з правіламі, не кажыце ўдзельнікам, хто з'яўляецца кандыдатам, а хто выбаршчыкам. Кандыдатам нічога не тлумачце, не давайце ніякіх інструкцый.

Пасля таго, як кожны ўдзельнік азнаёміўся са сваёй роляй, папрасіце ўсіх — і выбаршчыкаў, і кандыдатаў — заплюшчыць вочы. Пасля таго, як усе заплюшчаць вочы, выкладчыку варта сказаць: «Шаноўныя выбарцы, просім вас падняць руку за першага кандыдата». Пасля невялікай паўзы: «Просім зараз падняць руку за другога кандыдата». Не трэба казаць, хто першы кандыдат і хто другі кандыдат. Не трэба казаць увогуле нічога, акрамя таго, што напісана ў інструкцыі.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Не варта звяртаць увагу на магчымую незадаволенасць удзельнікаў. Не важна, будуць яны галасаваць ці не. У дадзеным практыкаванні істотным з'яўляецца сам досвед зведзенага да гіпертрафіраванай формы псеўда-таемнага галасавання. У гэтай сітуацыі чалавек яскрава будзе адчуваць, што, з аднаго боку, яго спрабуюць выкарыстаць і ён не толькі не ведае, за каго галасуе, але не ведае ні правілаў правядзення галасавання, ні можа быць упэўненым, што пасля галасавання яму назавуць сапраўдныя число тых, хто прагаласаваў.

Гэта трэба не для таго, каб паказаць недасканаласць выбарчай сістэмы, а для таго, каб сфарміраваць яркі і запамінальны досвед, з якога можна вывесці размову на неабходнасць прыняцця актыўнага ўдзелу ў выбарах не толькі на этапе галасавання, але і на этапах фарміравання выбарчых камісій, высоўвання кандыдатаў у дэпутаты, збору подпісаў за кандыдатаў, агітацыйнай кампаніі, кампаніі назірання за галасаваннем і падліку галасоў.

Прычым істотным з'яўляецца ўсведамленне таго, што прымаць актыўны ўдзел можна і трэба не толькі ў выпадку, калі ты сам кандыдат у дэпутаты. Шараговыя выбаршчыкі павінны актыўна ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі хаця б на этапе агітацыйнай кампаніі: трэба даведацца, хто з'яўляецца кандыдатамі ў дэпутаты, азнаёміцца з іх перадвыбарчымі праграмамі і г. д.

Калі ўдзельнікі прагаласуюць, назавіце лічбы за аднаго і другога кандыдата. Калі ніхто не падніме руку (такое таксама можа быць), усё роўна назавіце любую лічбу за аднаго і за другога кандыдата.
Пасля гэтага папрасіце ўдзельнікаў сесці і падсумуйце практыкаванне. Падсумаваць можна пры дапамозе наступных пытанняў:

- Як вы сябе адчувалі ў ролі кандыдата?
- Як вы сябе адчувалі ў ролі выбаршчыка?
- Што спадабалася падчас галасавання? Што не спадабалася?
- Што можна было б зрабіць іначай?
- Што трэба было зрабіць для таго, каб выбаршчыкі і кандыдаты былі пэўныя, што выбары сапраўды адбываюцца, што галасуюць менавіта за пэўных кандыдатаў і што галасы падлічаны правільна?

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Досвед, які ўдзельнікі атрымаюць падчас дадзенага практыкавання, з'яўляецца каштоўным для разумення ролі грамадзяніна і прычын неабходнасці яго грамадскага ўдзелу ў розных этапах выбараў.
З аднаго боку, такі ўдзел павінен гарантаваць магчымасць правядзення справядлівых выбараў.
З іншага — грамадскі ўдзел у выбарах павінен забяспечыць нармальнае функцыянаванне правоў чалавека ў палітычнай сферы. Акрамя таго, пры дапамозе выбараў грамадзяне праводзяць сваіх прадстаўнікоў у дзяржаўныя органы ўлады, і ад таго, хто будзе знаходзіцца ў дзяржаўных органах улады, залежыць захаванне і пашырэнне правоў чалавека.

**4. Знаёмства з асноўнымі этапамі выбараў (25 хв.).**
Раздайце раздатак 7.1 для індывідуальнага азнаямлення. Аб'яднайце ўдзельнікаў у пары і папрасіце ў парах адказаць на пытанне:

- Для чаго існуе кожны з этапаў выбараў? Падсумуйце вынікі працы параў пры дапамозе наступных пытанняў:
- У якіх этапах варта абавязкова ўдзельнічаць? Чаму?
- Што трэба было змяніць у практыкаванні «галасаванне» для таго, каб нашае галасаванне было больш справядлівым?

Адказы ўдзельнікаў можна запісаць на паперы ці дошцы і пазней пракаментаваць.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Варта памятаць, што згодна з беларускім выбарчым заканадаўствам, ніхто не можа абавязаць грамадзян Беларусі галасаваць. Галасаваць, як і ўдзельнічаць ці не ўдзельнічаць у любым з этапаў выбараў — гэта права, а не абавязак. Разам з тым, практыкаванне дае дастаткова моцны адмоўны досвед, які падкрэслівае важнасць актыўнага ўдзелу на розных этапах выбараў.

Папрасіце ўдзельнікаў аб’яднацца ў групы па кампаніях, якія яны рыхтуюць, і адказаць на наступнае пытанне:
• Якім чынам можна было б выкарыстаць розныя этапы выбараў для дасягнення мэтаў грамадскіх кампаній, якія вы распрацоўваеце?
Папрасіце групы каротка прадставіць вынікі сваёй працы.

## ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Абмеркаванне гэтага пытання з’яўляецца найбольш важным у гэтым занятку. Акурат тут можна вывесці прычыны, па якіх мы разглядаем выбары як асобную форму грамадскага ўдзелу, звязаную з абаронай і пашырэннем правоў чалавека.

**5. Падагульненне заняткаў (5 хв.).**
Для падагульнення заняткаў можна задаць наступныя пытанні:
- Што даюць выбары грамадству? Што даюць выбары кожнай асобе?
- Як можна выкарыстаць розныя этапы выбараў для абароны і пашырэння правоў чалавека?
- Ці можа ўдзел у галасаванні паўплываць на пашырэнне і адстойванне правоў чалавека?

Патлумачце свой адказ.

## ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Агульная характарыстыка працэсу выбараў як формы грамадскага ўдзелу**

*Дэмакратыя* — тэрмін, які паходзіць ад двух старажытнагрэчаскіх слоў: «demos» — «народ» і «kratos» — «улада». Гэта форма кіравання дзяржавай ці палітычная сістэма, пры якой улада ажыццяўляецца праз прамое народаўладдзе (прамая дэмакратыя), дзе народ кіруе праз прыняцце рашэнняў на рэферэндумах ці на сходах грамадзян альбо праз прадстаўнікоў, якія выбіраюцца народам (прадстаўнічая дэмакратыя). Гэта азначае, што дзяржаўныя інстытуты фарміруюцца праз галасаванне грамадзян і залежаць ад грамадзян. Тыя органы, што фарміруюцца шляхам прызначэння, падкантрольныя грамадзянам праз спецыяльнае заканадаўства, якое дазваляе людзям звяртацца ў дзяржаўныя органы і ацэньваць іх работу.
Дзяржава стварае ўмовы і магчымасці для таго, каб грамадзяне прымалі ўдзел у грамадскім і дзяржаўным жыцці праз фарміраванне і кантроль дзейнасці дзяржавы і магчымасць выказваць сваё меркаванне і настойваць на яго прыняцці. Дакумент Капенгагенскай нарады ў межах Канферэнцыі па чалавечым вымярэнні СБСЕ (Капенгаген, 1990 г.) утрымлівае абавязальніцтвы дзяржавы па арганізацыі і правядзенні выбараў, а таксама па стварэнні ўмоў для ўдзелу ў іх грамадзян і забеспячэнні іх свабоднага і свядомага волевыяўлення (гл. занятак 14 «Свабодныя і справядлівыя выбары» ў дапаможніку «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй»).
Без арганізацыі выбараў немагчыма сфарміраваць прадстаўніцтва людзей у мясцовых і вышэйшых органах улады. Без удзелу ў працэсе арганізацыі, правядзення і кантролю за выбарамі немагчыма быць упэўненым, што інтарэсы людзей будуць улічаны падчас прыняцця рашэнняў дзяржаўнымі органамі ўлады. Без выбараў не можа быць усталяваны такі дзяржаўны лад, дзе чалавек здольны кантраляваць дзяржаву і захоўваць такім чынам правы чалавека.
Удзел у выбарах — гэта права чалавека, якое мы рэалізуем падчас удзелу ў такіх этапах выбараў, як фарміраванне і праца мясцовай выбарчай камісіі, назіранне за правядзеннем галасавання і падлікам галасоў.
Выбары — гэта доўгатэрміновы працэс, які цягнецца на працягу некалькіх месяцаў і стварае дадатковыя магчымасці для грамадзян уплываць на грамадства і пашыраць у грамадстве ідэі правоў чалавека.
Акрамя гэтага, менавіта падчас выбараў кандыдаты ў дэпутаты найбольш зацікаўлены ў падтрымцы з боку насельніцтва і адкрытыя для новых ідэяў, да выслухоўвання праблемаў і шляхоў іх вырашэння.
Калі такі кандыдат падчас выбараў будзе казаць пра неабходнасць вырашэння вашай канкрэтнай праблемы — ён ужо агучвае праблему і робіць яе публічнай. З іншага боку, калі дэпутат, які раней абяцаў вырашыць праблему, не будзе займацца яе вырашэннем, ў вас будуць усе падставы, каб выказаць яму недавер як дэпутату, які не выконвае сваіх абяцанняў. У беларускім заканадаўстве прадугледжана і такая форма, як адкліканне дэпутата.

Такім чынам, удзел у выбарах стварае гарантыі выканання правоў чалавека, дае магчымасць зрабіць публічнай праблему, з якой вы змагаецеся, і павялічвае шанцы на яе вырашэнне. Удзел у агітацыйнай кампаніі кандыдата можа таксама стварыць дадатковыя магчымасці для распаўсюджання інфармацыі, важнай для вырашэння праблемы (калі такая інфармацыя ўзгоднена з кандыдатам у дэпутаты). Такім чынам, удзел у розных этапах выбараў можа прычыніцца да пашырэння правоў чалавека.
Кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь мае права вылучыцца ў кандыдаты ў дэпутаты мясцовых саветаў, у парламент рэспублікі ці на пасаду прэзідэнта. Стаць дэпутатам мясцовага Савета дэпутатаў можна, дасягнуўшы 18-гадовага ўзросту, дэпутатам парламента — з 21 года, Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь — з 35 гадоў.

**Асноўныя этапы выбараў**

**1 этап. Абвяшчэнне даты правядзення выбараў, фарміраванне спісаў выбарчых камісій, фарміраванне камісій.**
Дадзены этап з'яўляецца вельмі важным, паколькі менавіта выбарчыя камісіі адказныя за арганізацыю і правядзенне выбараў на месцах. У выбарчых камісіях розных узроўняў разглядаюцца скаргі кандыдатаў і праводзіцца падлік галасоў. Таму важна прымаць удзел у іх фарміраванні і працы.

**2 этап. Фарміраванне ініцыятыўных груп для збору подпісаў за кандыдатаў у дэпутаты.**
Ініцыятыўныя групы дапамагаюць кандыдату якасна правесці збор подпісаў за сваю кандыдатуру і стаць дэпутатам. Калі вы давяраеце нейкаму чалавеку і хочаце, каб менавіта ён прадстаўляў вашы інтарэсы — варта ўвайсці ў ініцыятыўную групу па зборы подпісаў.

**3 этап. Збор подпісаў за кандыдатаў у дэпутаты.**
Гэты этап стварае магчымасць пазнаёміць выбарцаў з будучым кандыдатам і адпаведнай праграмай.

**4 этап. Праверка сабраных за кандыдатаў у дэпутаты подпісаў.**
Выбарчыя камісіі правяраюць сапраўднасць подпісаў за кожнага прэтэндэнта.

**5 этап. Перадвыбарчая кампанія з агітацыяй.**
Адзін з асноўных этапаў выбараў, бо менавіта тут кандыдат сустракаецца са сваімі выбарцамі, агітуе іх за свае ідэі, вытлумачвае сваю пазіцыю па праблемах, якія іх цікавяць.

**6 этап. Выбары і ўдзел у іх у якасці выбаршчыка і ў якасці назіральніка.**
Часта менавіта гэты этап успрымаецца як этап выбараў. На гэтым этапе важна прагаласаваць за таго кандыдата, якому вы асабіста давяраеце, а таксама важна прысутнічаць на выбарчых участках у якасці назіральніка, гэта створыць дадатковыя гарантыі таго, што выбары пройдуць без парушэнняў.

**7 этап. Падлік галасоў і абвяшчэнне вынікаў выбараў, разгляд скаргаў.**
Асаблівая роля на гэтым этапе належыць членам выбарчых камісій і назіральнікам.

# 8. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека на ўзроўні мясцовай супольнасці

**Заняткі разлічаны на 45 хв.**

**Чаканыя вынікі**

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - што такое мясцовая супольнасць;
  - розныя формы працы з мясцовай супольнасцю для вырашэння праблем, звязаных з абаронай і пашырэннем правоў чалавека.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - абіраць адпаведныя формы працы з мясцовымі супольнасцямі ў межах кампаній па абароне і прасоўванні правоў чалавека.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да працы з мясцовай супольнасцю як да важнага рэсурсу для вырашэння праблем, звязаных з абаронай і пашырэннем правоў чалавека.

**План заняткаў**

1. Знаёмства з тэмай і чаканымі вынікамі заняткаў — 1 хв.
2. Знаёмства з формамі грамадскага ўдзелу на ўзроўні мясцовай супольнасці — 20 хв.
3. Выбар формаў працы з мясцовай супольнасцю — 20 хв.
4. Падагульненне заняткаў — 4 хв.

# ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Азнаёмце ўдзельнікаў з тэмай і чаканымі вынікамі заняткаў (1 хв.).**

**2. Знаёмства з формамі ўдзелу грамадскасці на ўзроўні мясцовай супольнасці (20 хв.)**
Запытайце ва ўдзельнікаў: «Што такое, з вашага пункту гледжання, мясцовая супольнасць?»

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Калі ўдзельнікі не здолеюць акрэсліць паняцце, выкладчык можа папрасіць прывесці прыклад мясцовай супольнасці (гэта могуць быць людзі, якія пражываюць у адной вёсцы, катэджным пасёлку ў горадзе, мікрараёне на ўскрайку горада, на вуліцы ці шэрагу дамоў у цэнтры горада і г. д.).

У выпадку, калі і гэта не атрымаецца, выкладчыку варта вытлумачыць дадзены тэрмін самастойна. Мясцовая супольнасць — гэта група людзей, якая жыве ў нейкім адным месцы (у мікрараёне, на вуліцы, у адным доме, у адным населеным пункце), і аб'яднаная агульнымі сацыяльна-эканамічнымі і культурнымі інтарэсамі. Агульнасць інтарэсаў мясцовай супольнасці, як правіла, вынікае з факту іх сумеснага пражывання і агульных для гэтых людзей праблемаў.

Напрыклад, у катэджным пасёлку, які месціцца ў межах гораду, праблемай можа быць адсутнасць добрай асфальтаванай дарогі, крамы ці школы і г. д. У цэлым у горадзе можа не быць такіх праблем, але ў гэтым канкрэтным месцы яны ёсць, і іх наяўнасць, як і наяўнасць пэўных пераваг, аб'ядноўвае, стварае своеасаблівую супольнасць, адносна ізаляваную ад іншай часткі населенага пункта.

Мясцовая супольнасць адрозніваецца пэўным адзінствам і такім чынам уяўляе сабой істотную сілу ў вырашэнні праблем, звязаных з правамі чалавека. Адна справа, калі ў дзяржаўныя органы звяртаецца адна ці некалькі асоб, і зусім іншая, калі звяртаецца адносна вялікая і згуртаваная група-супольнасць.

Задайце ўдзельнікам наступныя пытанні:
- Ці важна прыцягваць мясцовую супольнасць для вырашэння мясцовых праблем, звязаных з правамі чалавека? Чаму важна?
- Як мясцовая супольнасць можа спрыяць абароне ці распаўсюджванню правоў чалавека?

Запішыце адказы на лісце паперы ці дошцы.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

З дапамогай гэтага пытання можна выйсці на пералік тых дзеянняў, якіх мы чакаем ад мясцовага насельніцтва. Напрыклад:

— скліканне сходу мясцовых жыхароў, удзел у пікетах;
— заснаванне мясцовага тэрытарыяльнага самакіравання;
— збор подпісаў у абарону каго-небудзь ці чаго-небудзь;
— складанне і падпісанне зваротаў, скаргаў, прапановаў;
— арганізацыя сумеснай працы па добраўладкаванні наваколля;
— удзел у мясцовым рэферэндуме;
— удзел у сустрэчах з дэпутатам і г. д.

Усе пералічаныя вышэй віды дзейнасці з'яўляюцца не поўным пералікам, а толькі прыкладамі дзеянняў, якіх можна чакаць ад мясцовай супольнасці.

У выпадку, калі ўдзельнікі не назавуць нейкія з прыведзеных вышэй відаў дзейнасці мясцовай супольнасці, адукатару варта спыніцца на дадзеным пытанні падрабязней і назваць гэтыя віды самому.
Каб прывесці прыклад адной з формаў працы з мясцовай супольнасцю, раздайце раздатак 8.1 і папрасіце ўдзельнікаў самастойна азнаёміцца з ім.

**3. Выбар формаў працы з мясцовай супольнасцю (20 хв.).**
Папрасіце ўдзельнікаў аб'яднацца ў групы паводле раней абраных тэмаў кампаній. Задайце наступныя пытанні для абмеркавання:

- Пералічыце тыя формы працы з супольнасцю, якія вы лічыце найбольш эфектыўнымі для вырашэння праблемы, над якой працуе ваша група.
- Прывядзіце прыклады, як можна выкарыстаць асобныя формы працы з супольнасцю з мэтай вырашэння праблемы, над якой працуе ваша група.

Папрасіце групы агучыць вынікі сваёй працы. Пракаментуйце пачутае.

**4. Падагульненне заняткаў (4 хв.).**
Падагульніць заняткі можна пры дапамозе наступных пытанняў:

- Наколькі істотную ролю ў вырашэнні мясцовых праблем грае мясцовае насельніцтва? Патлумачце сваю думку.
- Якія формы працы з мясцовымі супольнасцямі вы плануеце выкарыстаць у сваіх кампаніях і чаму менавіта іх?

ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Адстойванне і пашырэнне правоў чалавека на ўзроўні мясцовай супольнасці**

Мясцовая супольнасць — гэта асаблівая форма арганізацыі ці самаарганізацыі грамадзян. Мясцовая супольнасць можа аказаць істотны ўплыў на вырашэнне праблемаў, звязаных з пашырэннем і абаронай правоў чалавека.

Мясцовая супольнасць адрозніваецца ад грамадскіх аб'яднанняў тым, што, як правіла, менш фармалізаваная і не патрабуе спецыяльных працэдураў рэгістрацыі ў дзяржаўных органах. Выключэнне складае працэдура рэгістрацыі Камітэтаў тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання (http://www.zvyazda.minsk.by/ru/pril/article.php?id=28791), дзе мясцовая супольнасць выступае не проста як адносна згуртаваная група, але ў выніку рэгістрацыі і правядзення выбараў валодае адмысловай структурай у выглядзе органаў тэрытарыяльнага самакіравання, мае некаторыя ўладныя паўнамоцтвы і матэрыяльныя рэсурсы для рэалізацыі дадзеных паўнамоцтваў.
Мясцовая супольнасць можа прымаць актыўны ўдзел у публічных абмеркаваннях законапраектаў, у мясцовых і рэспубліканскіх рэферэндумах, адкліканні дэпутатаў мясцовага Савета ці парламента, ініцыяванні мясцовых рэферэндумаў.

Грамадзяне маюць права на арганізацыю і правядзенне масавых мерапрыемстваў (пікетаў, дэманстрацый); складанне зваротаў, скаргаў, заяваў службовым асобам розных узроўняў дзяржаўнай адміністрацыі, могуць займацца праваабарончай і грамадскай дзейнасцю і г. д. Мясцовая супольнасць дазваляе зрабіць дзеянні асобных грамадзян больш арганізаванымі. Падрабязней аб гэтых і іншых спосабах і магчымасцях удзелу грамадзян у дзейнасці дзяржавы гл. ў дапаможніку «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй» у занятках: «Права на чыстае і здаровае навакольнае асяроддзе», «Права на медыцынскае абслугоўванне», «Свабодныя і справядлівыя выбары», «Актыўны грамадзянін», «Дэмакратыя».

Адзін са спосабаў прыцягнуць увагу мясцовай супольнасці да вырашэння нейкай праблемы ці вырашаць праблему супольнасці — гэта сабраць подпісы пад зваротам, скаргай, прапановамі, якія могуць накіроўвацца як у дзяржаўныя органы ўлады, так і ў сродкі масавай інфармацыі.

З аднаго боку, збор подпісаў — гэта тэхналогія, якая дазваляе далучыць значную колькасць людзей да вырашэння нейкай праблемы, у тым ліку — у сферы правоў чалавека на мясцовым узроўні.

З іншага боку, збор подпісаў — гэта своеасаблівы спосаб легітымізацыі патрабаванняў да ўлады. Справа ў тым, што існаванне нейкай праблемы тычыцца, як правіла, невялікай часткі супольнасці. Людзі, здольныя ўсведамляць нейкую праблему як праблему ў галіне правоў чалавека, звычайна знаходзяцца ў меншасці. Калі толькі невялікая група людзей усведамляе сітуацыю як крытычную, цяжка заяўляць пра нейкія патрабаванні.

Аднак, як правіла, астатняя частка насельніцтва не выступае супраць, але абыякава глядзіць на праблему малой часткі супольнасці альбо часцей увогуле не заўважае яе.

Возьмем у якасці прыкладу праблемы людзей з інваліднасцю (абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі альбо, як часам самі сябе называюць асобы, якія вымушаны перасоўвацца ў калясках, інвалідаў-калясачнікаў). Узнікаюць праблемы, звязаныя з цяжкасцямі карыстання грамадскім транспартам, крамамі, бібліятэкамі і іншымі публічнымі месцамі. Вельмі часта праз адсутнасць пандусаў, спецыяльнага транспарту гэтыя людзі вымушаныя сядзець у хаце. Дадзеная праблема тычыцца невялікай часткі супольнасці, якую, да таго ж, як правіла, нават не відаць, паколькі ім цяжка нават выйсці надвор.

Разам з тым, большасць людзей, даведаўшыся пра праблемы інвалідаў-калясачнікаў, могуць далучыцца да іх патрабаванняў, бо палічаць неабходным дапамагчы гэтым людзям.

Збор подпісаў пад зваротам — гэта від дзейнасці, своеасаблівая тэхналогія, якая накіравана на інфармацыйную кампанію сярод абыякавых ці неінфармаваных грамадзян. Гэтая частка тэхналогіі заключаецца ў неабходнасці давесці і растлумачыць сутнасць праблемы нейкай сацыяльнай групы для іншых людзей і папрасіць іх далучыцца да вырашэння праблемы, падпісаўшы зварот, скаргу, прапановы. Аб формах і спосабах удзелу грамадскасці ў працэсе прыняцця дзяржавай рашэнняў па пытаннях навакольнага асяроддзя гаворыцца ў так званай Орхускай канвенцыі (заняткі 16 і 16.1 у дапаможніку «Навучанне правам чалавека ў школе і па-за ёй»).

**Начальніку аддзела адукацыі Гродзенскага гарвыканкама**

**Зварот жыхароў г. Гродна**

Паважаны сп. начальнік аддзела адукацыі Гродзенскага гарвыканкама!
Згодна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, беларуская і руская мовы маюць аднолькавы дзяржаўны статус. Гэта азначае, што павінны існаваць роўныя ўмовы атрымання адукацыі як на адной, так і на другой дзяржаўнай мовах.

Разам з тым у г. Гродна з насельніцтвам каля 300000 чалавек і пры наяўнасці каля ста дашкольных установаў і больш за 30 сярэдніх агульнаадукацыйных школаў няма ніводнай групы ў садку і ніводнай школы з беларускай мовай навучання. Бацькоў, якія б хацелі навучаць дзяцей у беларускамоўных групах ці беларускамоўных класах, просяць самастойна знайсці ахвотных для фарміравання класаў. Гэтым парушаецца прынцып роўных умоваў доступу да адукацыі. Парушэнне прынцыпу роўнага доступу выражаецца ў тым, што ў рускамоўныя класы бацькам дастаткова напісаць заяву. А вось у беларускамоўныя — неабходна не толькі напісаць заяву, але і прыкладаць дадатковыя намаганні па пошуку людзей для таго, каб сфарміраваць сваімі сіламі клас з беларускай мовай навучання.

З мэтай выпраўлення дадзенага парушэння просім вас прыняць рашэнне аб фарміраванні рускамоўных і беларускамоўных класаў на аднолькавых умовах.

Дата

Подпісы грамадзян

| № | Прозвішча і імя | Адрас пражывання | Кантактны тэлефон | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1. | | | | |
| 2. | | | | |
| 3. | | | | |
| 4. | | | | |
| 5. | | | | |

*Улады могуць правяраць праўдзівасць подпісаў і занатаваных дадзеных. Наяўнасць нават аднаго няправільна афармленага подпісу можа прывесці да скасавання цэлага ліста подпісаў. Таму лепш, калі пад адозвай на кожным лісце стаіць толькі некалькі подпісаў, гэта дазволіць пры наяўнасці памылак не губляць вялікую колькасць іншых подпісаў.*

*Вельмі добра, калі зварот да гарадскіх уладаў падпішуць вядомыя і аўтарытэтныя людзі мясцовай супольнасці. Гэта могуць быць пісьменнікі, мастакі, ганаровыя грамадзяне гораду, вядомыя людзі вашай мясцовасці.*

# 9. Формы грамадскага ўдзелу: адстойванне і пашырэнне правоў чалавека праз працу са сродкамі масавай інфармацы

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

### Чаканыя вынікі

- **У выніку заняткаў яго ўдзельнікі будуць ведаць:**
  - ролю сродкаў масавай інфармацыі (СМІ) ў грамадстве;
  - магчымыя інструменты працы са СМІ ў час правядзення грамадскіх кампаній і дзейнасці па пашырэнні і абароне правоў чалавека;
  - асноўныя патрабаванні да падрыхтоўкі матэрыялаў для СМІ (паведамленняў у час прэс-канферэнцыі, прэс-рэлізаў);
  - магчымыя спосабы выкарыстання Інтэрнэту для правядзення інфармацыйных кампаній, скіраваных на пашырэнне і абарону правоў чалавека.
- **У выніку заняткаў яго ўдзельнікі будуць здольныя:**
  - абіраць адэкватныя патрэбам грамадскіх кампаній інструменты працы са СМІ;
  - рыхтаваць паведамленні для журналістаў у час прэс-канферэнцый і (альбо) прэс-рэлізы.
- **У выніку заняткаў яго ўдзельнікі будуць ставіцца:**
  - да СМІ і Інтэрнэту як эфектыўных сродкаў уплыву на грамадскую думку ў справе пашырэння і абароны правоў чалавека.

### План заняткаў

1. Абвяшчэнне тэмы і чаканых вынікаў занятку — 1 хв.
2. Функцыі СМІ ў грамадстве — 15 хв.
3. Практыкум па правядзенні прэс-канферэнцыі альбо напісанні прэс-рэлізаў — 45 хв.
4. Інструменты працы ў Інтэрнэце — 15 хв.
5. нструменты працы са СМІ ў час правядзення грамадскіх кампаній альбо акцый — 10 хв.
6. Падсумаванне вынікаў занятку — 4 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Абвяшчэнне тэмы і чаканых вынікаў занятку (1 хв.).**
Патлумачце, што на гэтым занятку гаворка пойдзе пра тое, як можна выкарыстоўваць СМІ і Інтэрнэт для прасоўвання і адстойвання інтарэсаў грамадскасці, а таксама пашырэння і абароны правоў чалавека.

**2. Функцыі СМІ ў грамадстве (15 хв.).**
Аб’яднайце ўдзельнікаў у 3-4 малыя групы. Раздайце кожнай групе копіі тэкстаў (кожнай групе — асобны тэкст) з друкаваных альбо электронных СМІ, якія тычацца грамадскіх кампаній, скіраваных на рэалізацыю інтарэсаў грамадзян. Запытайце, якую ролю могуць адыграць гэтыя матэрыялы ў справе вырашэння згаданых у тэкстах праблем.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Пры ўзнікненні праблем з пошукам артыкулаў пра актуальныя грамадскія кампаніі можна выкарыстаць матэрыялы пра рэалізаваныя раней кампаніі. Напрыклад, кампаніі «За альтэрнатыўную грамадзянскую службу» (http://ags.by/?page_id=243), кампаніі за пашырэнне выкарыстання беларускай мовы ў эфіры FM-радыёстанцый (http://nashfarmat.org/about) альбо міжнароднай кампаніі па захаванні запаветных тэрыторый (http://www.yhrm.org/civill_news/sorok_chetyre_goroda_rossii_ukrainy_i_belarusi_prinyali_uchastie_v_kampanii_aktsii_prekr).
Запытайце ва ўдзельнікаў, якую ролю, з іх пункту гледжання, адыгрываюць СМІ і Інтэрнэт у грамадстве.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Засяродзьце ўвагу ўдзельнікаў на тым, што СМІ інфармуюць людзей пра найбольш важныя падзеі ў жыцці грамадства, дапамагаюць зразумець сутнасць розных з’яваў. На аснове інфармацыі са СМІ чалавек часта стварае ўласныя «арыенціры», зыходзячы з якіх будуе свае паводзіны ў грамадстве. Увага! Упэўніцеся ў тым, што ўдзельнікі разумеюць розніцу паміж сродкамі інфармацыі (напрыклад, рэкламная тумба на аўтобусным прыпынку ці графіці на плоце) і сродкамі масавай інфармацыі! Узгадніце з удзельнікамі, што трэба разумець пад СМІ. Для тлумачэння гэтага скарыстайцеся дадатковай інфармацыяй, прыведзенай у канцы занятку.

**3. Практыкум па правядзенні прэс-канферэнцыі альбо напісанні прэс-рэлізаў (45 хв.).**
Аб’яднайце ўдзельнікаў у 2 групы. Адна з іх будзе выконваць ролю арганізатараў грамадскай кампаніі, якія рыхтуюцца да правядзення прэс-канферэнцыі па тэме сваёй кампаніі, а другая — ролю журналістаў, якія прыйдуць на гэтую прэс-канферэнцыю.

Раздайце ўдзельнікам з першай групы кароткае апісанне грамадскай кампаніі. Пажадана выкарыстаць матэрыялы кампаній, распрацаваных удзельнікамі на папярэдніх занятках. У якасці альтэрнатыўнага варыянта можна выкарыстаць матэрыялы кампаній, прыкладзеных да гэтага дапаможніка.
На працягу 15 хв. удзельнікі першай групы павінны падрыхтавацца да 15-хвіліннай прэс-канферэнцыі, на якой будуць распавядаць «журналістам» пра сваю кампанію.

«Журналісты» таксама атрымліваюць кароткае апісанне гэтай кампаніі і на працягу 15 хв. рыхтуюць свае пытанні да арганізатараў прэс-канферэнцыі.

У час абмеркавання вынікаў прэс-канферэнцыі звяртайце ўвагу на тое, ці была раскрыта сутнасць кампаніі: яе мэты, мэтавыя групы, запланаваныя дзеянні і г. д., ці пададзеная інфармацыя была добра структураванай, зразумелай, ці мелі журналісты магчымасць задаць пытанні і г. д.
Для тлумачэння асноўных правілаў паводзінаў у час прэс-канферэнцыі раздайце і патлумачце матэрыял з раздаткі 9.1.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Калі ўдзельнікі не маюць досведу працы са СМІ, можна раздаць ім матэрыял з раздаткі 9.1 на этапе падрыхтоўкі да прэс-канферэнцыі. На прэс-канферэнцыю таксама можна запрасіць журналіста, які дасць удзельнікам свае парады адносна падрыхтоўкі і правядзення прэс-канферэнцыі, а таксама можа зацікавіцца тэмамі кампаній і падтрымае іх у сваёй газеце ці іншым выданні. Альтэрнатыўным (альбо дадатковым) варыянтам правядзення гэтага блоку занятку можа стаць практыкаванне па напісанні прэс-рэлізаў, якія тычацца грамадскіх кампаній, што распрацоўваюцца ўдзельнікамі.
Калі вы абіраеце гэты варыянт, то алгарытм працы можа быць наступным: аб’яднайце ўдзельнікаў у групы, у якіх яны распрацоўвалі на папярэдніх занятках свае грамадскія кампаніі. Раздайце матэрыял 9.2 і распавядзіце ўдзельнікам, што такое прэс-рэліз, для чаго ён ствараецца і з якіх элементаў складаецца. Дайце затым кожнай групе 20 хв. на напісанне прэс-рэлізаў, прысвечаных іх грамадскім кампаніям.

У час прэзентацыі напісаных прэс-рэлізаў звяртайце ўвагу на тое, ці ёсць у тэксце прэс-рэліза адказы на ключавыя пытанні, якія цікавяць журналістаў («Хто? Што? Дзе? Для чаго? Як? Калі?»), ці добра структураваная інфармацыя (самыя важныя і цікавыя для журналістаў факты павінны знаходзіцца ў першых сказах прэс-рэліза).

**4. Інструменты працы ў Інтэрнэце (15 хв.).**
Звярніце ўвагу ўдзельнікаў на тое, што сёння пабач са СМІ ў справе асвятлення пытанняў, звязаных з пашырэннем і абаронай правоў чалавека, усё больш актыўна выкарыстоўваецца Інтэрнэт. Папрасіце ўдзельнікаў назваць вядомыя ім прыклады грамадскіх кампаній, акцый, якія асвятляліся і актыўна абмяркоўваліся ў Інтэрнэце (у выпадку, калі ўдзельнікі не ведаюць такіх прыкладаў, будзьце гатовыя назваць іх самі; скарыстайцеся для пошуку прыкладаў пошукавымі сістэмамі кшталту Google альбо матэрыяламі з вядомых вам сайтаў).

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

У якасці прыкладаў можна выкарыстаць матэрыялы грамадскіх кампаній «За забарону вясновага палявання на птушак» (http://ptushki.org), «За альтэрнатыўную грамадзянскую службу» (http://ags.by/).

Спытайце, якія перавагі і недахопы мае выкарыстанне Інтэрнэту ў асвятленні пытанняў, звязаных з пашырэннем і абаронай правоў чалавека.

## ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Калі група дастаткова падрыхтаваная і мае досвед актыўнага выкарыстання рэсурсаў Інтэрнэту, разбярыце разам з удзельнікамі магчымасці выкарыстання пададзеных ніжэй рэсурсаў, якія можна выкарыстоўваць сёння для працы са сваімі мэтавымі групамі.
Напрыклад, у Facebook, ВКонтакте, Twitter, Livejournal і іншых аналагічных інтэрнэт-рэсурасах можна стварыць тэматычныя групы, прысвечаныя той альбо іншай грамадскай кампаніі. З дапамогай Flickr можна стварыць фотагалерэі, прысвечаныя тэме кампаніі. На папулярным рэсурсе YouTube можна змяшчаць відэаматэрыялы па тэме кампаніі і г. д.

Папрасіце ўдзельнікаў назваць прапановы, як яшчэ можна было б выкарыстоўваць прапанаваныя рэсурсы для прасоўвання і адстойвання інтарэсаў грамадскасці, пашырэння і абароны правоў чалавека.

**5. Інструменты працы са СМІ ў час правядзення грамадскіх кампаній альбо акцый (10 хв.).**
Запытайце ва ўдзельнікаў, якія яшчэ інструменты працы са СМІ ці інтэрнэт-рэсурсы маглі б быць выкарыстанымі ў час правядзення іх кампаній. Запішыце адказы ўдзельнікаў на асобны аркуш паперы. Пры патрэбе дапоўніце гэты спіс інструментамі, прапанаванымі ў раздатку 9.3 (які раздайце ўдзельнікам).

**6. Падсумаванне вынікаў занятку (4 хв.).**
У час падсумавання занятку запытайце:
- Якую ролю СМІ адыгрываюць у грамадстве?
- Якія інструменты працы са СМІ можна выкарыстаць для асвятлення пытанняў, звязаных з пашырэннем і абаронай правоў чалавека?

Падзякуйце за ўдзел у занятку!

## ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Роля СМІ ў адстойванні і пашырэнні правоў чалавека**

У арт. 19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека абвяшчаецца: «Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх. Гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных межаў». Гэта дазваляе актыўна выкарыстоўваць друкаваныя і электронныя СМІ для прыцягнення ўвагі да тых альбо іншых грамадскіх праблем, прапановы варыянтаў вырашэння гэтых праблем, ухвалення альбо крытыкі прынятых рашэнняў.

Тое ж сцвярджаецца і ў Канвенцыі аб правах дзіцяці (арт. 13): «Дзіця мае права вольна выказваць сваё меркаванне; гэта права ўключае ў сябе свабоду шукаць, атрымліваць і перадаваць інфармацыю і ідэі любога кшталту, незалежна ад межаў, у вуснай, пісьмовай альбо друкаванай форме, у форме твораў мастацтва альбо з дапамогай іншых сродкаў па выбары дзіцяці».
Беларускае заканадаўства разумее пад масавай інфармацыяй прызначаныя для нявызначанага кола асобаў друкаваныя, аўдыё-, аўдыёвізуальныя і іншыя інфармацыйныя паведамленні і (альбо) матэрыялы, апублікаваныя ў друку, перададзеныя з дапамогай тэлевізійнага вяшчання і радыёвяшчання альбо ў іншай форме перыядычнага распаўсюджання (паводле Закону Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі»).

Паводле гэтага ж закону, пад сродкам масавай інфармацыі разумеецца форма перыядычнага распаўсюджання масавай інфармацыі з выкарыстаннем друку, тэлевізійнага вяшчання і радыёвяшчання, глабальнай камп'ютарнай сеткі Інтэрнэт.

Звесткі пра СМІ (адрасы, кантакты) у сваёй мясцовасці можна знайсці ў школьнай альбо гарадской бібліятэках ці ў інтэрнэце з дапамогай пошукавых сістэм кшталту Google.
У якасці прыклада выкарыстання Інтэрнэту для дасягнення мэтаў грамадскай кампаніі можна выкарыстаць змешчаныя на сайце YouTube відэаматэрыялы, прысвечаныя праекту «Зялёны палец», скіраванаму на прыцягненне ўвагі насельніцтва да магчымых негатыўных наступстваў глабальнага пацяплення.

Паглядзець матэрыял можна тут: www.youtube.com/watch?v=onuEAi9GUGk
Прыклад выкарыстання яшчэ аднаго вядомага інтэрнэт-рэсурсу гл. тут: http://www.facebook.com/pages/AGS-Alternativnaa-grazdanskaa-sluzba-v-Belarusi/256867307776?ref=mf

**Інструменты працы са СМІ. Прэс-канферэнцыя**

*Прэс-канферэнцыя* — арганізаваная сустрэча з журналістамі з мэтай данясення да грамадства важнай інфармацыі, звязанай з дзейнасцю арганізацыі.

Перад тым, як арганізоўваць прэс-канферэнцыю, варта адказаць на ключавое пытанне: ці маем мы сапраўды штосьці важнае для паведамлення?
Журналісты не маюць часу хадзіць на прэс-канферэнцыі, дзе не прагучыць аніводнай важнай навіны, а ў нас няма часу і сродкаў ладзіць мерапрыемствы, на якія ніхто не будзе прыходзіць.

**Падставы для правядзення прэс-канферэнцыі**

• **Абвяшчэнне інфармацыі**
пра штосьці новае, звязанае з дзейнасцю арганізацыі — адрасаваная моладзі новая праграма, заява ў суд на прадстаўніка мясцовай улады і да т. п. (Разам з тым, змена старшыні рэвізійнай камісіі ў арганізацыі наўрад ці ёсць падставай для прэс-канферэнцыі.)

• **Каментар да важных падзеяў, якія тычацца дзейнасці арганізацыі.**
Напрыклад, да ўвядзення ў дзеянне заканадаўства, якое абмяжоўвае дзейнасць грамадскіх арганізацыяў.

• **Справаздача з новымі цікавымі высновамі і статыстыкай.**

• **Гадавіна значнай падзеі, якая мае дачыненне да дзейнасці арганізацыі.**

**Некаторыя парады па правядзенні прэс-канферэнцыі**

1. Вызначце галоўную ідэю (ключавое паведамленне), якую вы хацелі б данесці да журналістаў. Гэта мусіць быць дакладнае і лёгка зразумелае паведамленне. Усё на прэс-канферэнцыі павінна быць арганізавана так, каб эфектыўна перадаць гэтую інфармацыю.
2. Абмяжуйце колькасць выступоўцаў і час на выступ кожнага з іх. Калі хтосьці з выступоўцаў гаворыць вельмі доўга — спыніце яго.
3 Ведайце, што будзе казаць кожны з прамоўцаў, каб тыя не паўтаралі адзін аднаго.
4. Зрабіце так, каб журналістаў сустракалі на ўваходзе, рэгістравалі, раздавалі прэс-рэлізы і іншыя важныя матэрыялы.
5. Пакіньце дастаткова часу для пытанняў журналістаў.
6. Паведамляйце журналістам пра прэс-канферэнцыю загадзя, не за месяц, але хоць за 2 – 3 дні, каб журналісты маглі спланаваць свой час.
7. Падрыхтуйце дадатковыя матэрыялы для журналістаў: прэс-рэліз, інфармацыю пра сваю арганізацыю, фотаздымкі, магчыма, кароткія звесткі пра выступоўцаў і г. д.
8. Падрыхтуйце месца для правядзення прэс-канферэнцыі. Пераканайцеся, што ў памяшканні хапае месца для журналістаў; святла, неабходнага для працы тэлебачання.
9. Не папракайце журналістаў і рэдактараў, калі інфармацыя пра вашу прэс-канферэнцыю не была надрукаваная або не пайшла ў эфір. На гэта маглі быць розныя прычыны.

**Інструменты працы са СМІ. Прэс-рэліз**

*Прэс-рэліз* — форма паведамлення ў СМІ з мэтай прыцягнення ўвагі да фактаў, звязаных з дзейнасцю арганізацыі альбо групы грамадзян, а таксама прадстаўлення іх пункту гледжання на тую альбо іншую падзею або праблему. Мае на мэце дапамагчы журналістам зразумець сутнасць той альбо іншай падзеі, прадставіць ім неабходныя для падрыхтоўкі матэрыялу факты.

**Стандартны прэс-рэліз звычайна выглядае такім чынам:**

Назва арганізацыі (альбо грамадскай кампаніі)
Дата
Для неадкладнага друкавання
(альбо выкарыстоўваць пасля пэўнай даты)

Кантактная асоба: імя, прозвішча, пасада
Тэл. працоўны, пры неабходнасці — хатні
Факс:
Электронная пошта:
Тут будзе ваш загаловак

**Першы абзац тэксту.**

Уступ з'яўляецца самай важнай часткай тэксту. Першыя два-тры сказы павінны раскрыць сутнасць прэс-рэлізу, прыцягнуць да яго ўвагу журналістаў. У гэтай частцы прэс-рэлізу неабходна адлюстраваць як мага больш з шасці асноўных інфармацыйных кампанентаў: «Хто? Што? Калі? Дзе? Чаму? Як?»

**Асноўная частка тэксту, якая ідзе ніжэй, можа складацца з наступнай інфармацыі:**

— дадатковыя важныя звесткі пра пытанне, якое ўздымае арганізацыя (ініцыятары грамадскай кампаніі);
— выказванні ўдзельнікаў грамадскай кампаніі;
— кароткія звесткі пра грамадскую кампанію (хто ініцыяваў, для чаго, што зроблена ў межах кампаніі і г. д.);
— у чым карысць кампаніі для грамадства;
— што плануецца далей?

**Па дадатковаю інфармацыю звяртайцеся: (імёны і прозвішчы, адрасы, нумары тэл.)**

**УВАГА!**
Паспрабуйце скласці прэс-рэліз такім чынам, каб яго памер не перавышаў дзвюх старонак.

**Інструменты працы са сродкамі масавай інфармацыі**

Для арганізацыі рэгулярнай працы са СМІ ў час правядзення грамадскіх кампаній альбо акцый можна выкарыстоўваць цэлы шэраг бясплатных альбо недарагіх інструментаў.

Вось пералік асноўных з іх:

- прэс-канферэнцыі;
- брыфінгі (адрозніваецца ад прэс-канферэнцыі тым, што журналісты не маюць магчымасці задаваць пытанні);
- прэс-рэлізы;
- тэлефанаванні ў рэдакцыі з прапановай цікавых для СМІ матэрыялаў;
- спецыяльныя мерапрыемствы, арганізаваныя для СМІ (прэс-туры для знаёмства з сітуацыяй на месцы, дзелавыя абеды і да г.п.);
- інтэрв'ю;
- арганізацыя ток-шоў альбо ўдзел у ток-шоў;
- вядзенне газетнай рубрыкі ці перадачы на тэлебачанні альбо радыё;
- артыкулы, якія адлюстроўваюць ваш пункт гледжання па пэўных пытаннях;
- запрашэнні журналістаў на мерапрыемствы;
- лісты ў рэдакцыю;
- выступы на радыё альбо на тэлебачанні;
- інфармаванне СМІ пра бягучыя падзеі ў межах грамадскай кампаніі (у тым ліку праз электронныя рассылкі);
- заявы для друку;
- фотаздымкі;
- каментаванне матэрыялаў па тэме грамадскай кампаніі на вэб-пляцоўках СМІ і інш.

# 10. Вызначэнне магчымых стратэгій дзейнасці ў межах грамадскіх кампаній

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

**Чаканыя вынікі**

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - як вызначаюцца стратэгіі дзейнасці ў межах грамадскіх кампаній і акцый, скіраваных на рэалізацыю законных правоў і інтарэсаў грамадзян;
  - узроўні грамадскага ўдзелу;
  - перавагі і недахопы магчымых стратэгій.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - вызначаць стратэгіі дзейнасці, адпаведныя мэтам і задачам ініцыяваных імі грамадскіх кампаній і акцый.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да выбару стратэгіі дзейнасці як да аднаго з найважнейшых этапаў планавання грамадскай кампаніі.

**План заняткаў**

1. Факусаванне ўвагі — 10 хв.
2. Прадстаўленне тэмы і чаканых вынікаў — 1 хв.
3. Узроўні грамадскага ўдзелу — 15 хв.
4. Абмеркаванне магчымых стратэгій рэалізацыі грамадскіх кампаній, перавагаў і недахопаў асобных стратэгій — 20 хв.
5. Праца над распрацоўкай стратэгій грамадскіх кампаній — 35 хв.
6. Падсумаванне вынікаў занятку — 9 хв.

# ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі — 10 хв.**
Прапануйце ўдзельнікам практыкаванне «касмічная хуткасць». Патлумачце, што зараз група павінна як найхутчэй перадаць мячык ад першага да апошняга ўдзельніка такім чынам, каб яго крануўся кожны з удзельнікаў. Дайце 3 хв. на абмеркаванне таго, якім чынам група гэта зробіць. Зафіксуйце час, які спатрэбіўся групе для выканання задання. Скажыце, што заданне можна выканаць яшчэ хутчэй. Дайце яшчэ 2 хв. на абмеркаванне магчымага спосабу выканання задання і зафіксуйце час, які зойме другая спроба групы. Скажыце, што заданне можна выканаць яшчэ хутчэй. Дайце дадатковыя 2 хв. на абмеркаванне таго, як можна выканаць гэтае практыкаванне яшчэ хутчэй. Зноў зафіксуйце час, які зойме выкананне. Пахваліце групу, калі яна справіцца хутчэй, чым у папярэднія разы.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Адзін з самых хуткіх спосабаў выканання заданняў наступны: удзельнікі ставяць свае рукі ў выглядзе кольцаў студні. Мяч кідаецца зверху ў «студню» і хутка дасягае яе дна, закрануўшы рукі ўсіх удзельнікаў.

**2. Прадстаўце тэму і чаканыя вынікі заняткаў (1 хв.).**
Патлумачце, што, як і ў выпадку з праведзеным практыкаваннем, мы будзем абмяркоўваць на гэтым занятку найбольш эфектыўныя стратэгіі ажыццяўлення ініцыяваных намі грамадскіх кампаній і акцый.

**3. Узроўні грамадскага ўдзелу (15 хв.).**
Намалюйце на паперы табліцу з трох слупкоў, над кожным з якіх будзе напісана назва ўзроўню ўдзелу грамадзян у жыцці грамадства (мясцовы, нацыянальны, міжнародны). Папрасіце ўдзельнікаў назваць усе магчымыя формы і спосабы ўдзелу грамадзян у жыцці грамадства і дзяржавы, размяркоўваючы ўсе прапанаваныя варыянты адказаў паміж гэтымі слупкамі.
У выніку можа атрымацца прыкладна наступная табліца.

Увага! Прапанаваны ў табліцы пералік формаў грамадскага ўдзелу не з’яўляецца поўным! Пры неабходнасці можна дадаць свае прапановы да зместу гэтай табліцы.

| Мясцовы | Нацыянальны | Міжнародны |
|---|---|---|
| • Напісанне скаргаў альбо зваротаў у органы ўлады.<br>• Прэс-канферэнцыі для СМІ ці рассылка прэс-рэлізаў.<br>• Арганізацыя акцый, грамадскіх кампаній і г. д.<br>• Удзел у дзейнасці мясцовых грамадскіх арганізацый.<br>• Ініцыіраванне мясцовых грамадскіх слуханняў, сходаў ці рэферэндумаў.<br>• Праца з мясцовымі дэпутатамі па лабіраванні інтарэсаў мясцовай супольнасці.<br>• Удзел у дзейнасці грамадскіх радаў пры мясцовых структурах улады. | • Выбары дэпутатаў і Прэзідэнта.<br>• Удзел у рэферэндуме па важных для грамадства пытаннях.<br>• Удзел у стварэнні законаў і дзяржаўных праграм.<br>• Унясенне пісьмовых прапаноў па ўдасканальванні дзейнасці органаў улады.<br>• Удзел у агульна-нацыянальных грамадскіх кампаніях і г. д. | • Распаўсюджванне важнай інфармацыі ў міжнародных СМІ ці праз інтэрнэт.<br>• Удзел у міжнародных канферэнцыях па актуальных грамадскіх праблемах.<br>• Удзел у дзейнасці міжнароднай грамадскай арганізацыі, кааліцыі ці сеткі.<br>• Удзел у міжнародных грамадскіх кампаніях.<br>• Падача скаргаў і зваротаў у міжнародныя арганізацыі і г. д. |

## ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Грамадскія рады пры мясцовых органах улады могуць ствaрацца як па ініцыятыве органаў улады, так і па ініцыятыве грамадзян. Як правіла, такія рады маюць кансультацыйна-дарадчы характар. Праз удзел у іх дзейнасці можна прапаноўваць мясцовым уладам варыянты рашэння тых альбо іншых праблем, уплываць на прынятце пэўных рашэнняў і кантроль за іх выкананнем.

Прыкладам дзейнасці такіх радаў з'яўляюцца грамадскія рады па развіцці аграэкатурызму. Першая такая рада была створана ў 2005 г. пры Мінскім абласным выканаўчым камітэце. Цяпер такія рады працуюць пры ўсіх аблвыканкамах Беларусі. Падрабязней пазнаёміцца з мэтамі і задачамі дзейнасці Грамадскіх рад па развіцці аграэкатурызму можна тут — http://www.ruralbelarus.by/menu.php?form_id=526

Падкрэсліце, што ўдзельнікі павінны будуць вырашыць, на якім з гэтых узроўняў будуць рэалізоўвацца іх уласныя грамадскія кампаніі. Адзначце, што тыя альбо іншыя праблемы могуць вырашацца адначасова на некалькіх узроўнях. Патлумачце, што выбар узроўню, на якім будзе рэалізоўвацца грамадская кампанія, з'яўляецца важным элементам выбару стратэгіі рэалізацыі кампаніі.
У выпадку, калі ўдзельнікі не разумеюць сэнс слова «стратэгія», патлумачце, што стратэгія (ад старажытнагрэчаскіх словаў «stratos» — «войска» і «agein» — «весці») — якасна вызначаны накірунак дзейнасці, які тычыцца канкрэтнай сферы і вядзе да дасягнення вызначаных мэтаў.

Як правіла, апісанне абранай стратэгіі ўтрымлівае пазначэнне тэрыторыі, на якой будзе адбывацца дзейнасць, мэтавых групаў, спецыфічных формаў і метадаў працы з гэтымі групамі, а таксама перыяду, на які разлічана запланаваная дзейнасць.

Напрыклад, грамадская кампанія можа мець агульнанацыянальны характар, а яе спецыфікай будзе стварэнне агульнанацыянальнай грамадскай арганізацыі, якая будзе на доўгатэрміновай аснове займацца вырашэннем пытанняў, якія былі ў цэнтры ўвагі кампаніі. Прыкладам такой стратэгіі з'яўляецца стварэнне польскага фонду «Нараджаць па-людску» (1996 г.), што стала лагічным працягам аднайменнай грамадскай кампаніі, якая пачала рэалізоўвацца ў 1994 г. (гл. апісанне кампаніі ў частцы II).

Альбо наадварот, кампанія будзе мець мясцовы характар, а сэнс яе будзе палягаць у кароткачасовай мабілізацыі мясцовага насельніцтва для ўдзелу ў вырашэнні той альбо іншай мясцовай праблемы. Так, прыкладам, была рэалізаваная ў Оршы кампанія «Ратуйце нашы вушы!» (гл. апісанне кампаніі ў частцы II).

**4. Абмеркаванне магчымых стратэгій рэалізацыі грамадскіх кампаній, перавагаў і недахопаў асобных стратэгій (20 хв.).**
Зыходзячы з мадэлі грамадскага ўдзелу (гл. занятак 1), пасля таго як мы вызначылі праблемы, над якімі разам будзем працаваць, мэты і задачы сумеснай дзейнасці, мэтавыя групы і ўзроўні дзейнасці, прыйшоў час адказаць на пытанне, *як* мы будзем дасягаць запланаваных вынікаў. Для гэтага нам спатрэбіцца зноў вярнуцца да вынікаў працы па папярэдніх занятках, прыгадаць сфармуляваныя раней мэты і задачы ініцыяваных намі грамадскіх кампаній і акцый, а таксама магчымыя формы грамадскага ўдзелу, гаворка пра якія ішла ў час папярэдніх заняткаў.

Абярыце разам з удзельнікамі адну з распрацаваных на папярэдніх занятках кампаній (калі група не распрацоўвала на папярэдніх занятках уласныя кампаніі — можна выкарыстаць матэрыялы грамадскіх кампаній, прыкладзеныя да дапаможніка). З дапамогай раздадзеных матэрыялаў (раздатак 10.1) пазнаёмце ўдзельнікаў з магчымымі стратэгіямі рэалізацыі грамадскіх кампаній. Затым з дапамогай метаду «чатыры крэслы» арганізуйце абмеркаванне перавагаў і недахопаў гэтых стратэгій у дачыненні да абранай (адной) кампаніі. Для гэтага прапануйце чатыром удзельнікам, якія хацелі б выказацца пра найбольш эфектыўныя стратэгіі з пералічаных у раздатку 10.1 у межах пэўнай кампаніі, сесці на чатыры крэслы ў цэнтры залы. Іншыя ўдзельнікі могуць сядзець у коле вакол гэтых крэслаў. Патлумачце, што тыя, хто сядзяць на крэслах, будуць пакідаць іх, як толькі выкажуць сваю пазіцыю. На вольнае месца можа сесці любы ўдзельнік знешняга кола, які хоча выказаць сваю пазіцыю. Дыскусія спыняецца толькі ў тым выпадку, калі ў цэнтры застаецца менш за два чалавекі.

Падсумуйце вынікі практыкавання з выкарыстаннем наступных пытанняў:
- Якія меркаванні ў час дыскусіі былі найбольш спрэчнымі? Чаму?
- Якія высновы вы зрабілі ў час гэтай дыскусіі?

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Калі ўдзельнікі будуць мець праблемы з вызначэннем плюсаў і мінусаў магчымых стратэгій, вядучы можа сам дапаўняць інфармацыю, браць удзел у дыскусіі. Звярніце таксама ўвагу ўдзельнікаў на тое, што нацыянальнае і міжнароднае заканадаўства дазваляе грамадзянам актыўна выкарыстоўваць прапанаваныя ў раздатку 10.1 стратэгіі.
Магчыма, ўдзельнікі напачатку будуць саромецца альбо баяцца выйсці ў цэнтр для дыскусіі. У такім выпадку адукатар можа сам заняць месца на крэсле і прапанаваць распачаць дыскусію з іншымі ўдзельнікамі, якія могуць выказаць свае меркаванні.

**5. Праца над распрацоўкай стратэгій грамадскіх кампаній (35 хв.)**
Папрасіце ўдзельнікаў у сваіх працоўных групах, у якіх яны распрацоўвалі ідэі сваіх грамадскіх кампаній, на працягу 10 хв. абмеркаваць, якія стратэгіі можна было б выкарыстаць у межах іх кампаній. Пасля таго, як стратэгіі будуць вызначаныя (абмеркаваныя), раздайце матэрыял 10.2 і папрасіце ўдзельнікаў абмеркаваць у групах пытанні, пастаўленыя ў раздатаку.

Папрасіце прадставіць вынікі сваёй працы.

У час абмеркавання вынікаў працы груп звярніце ўвагу ўдзельнікаў на тое, што ў час рэалізацыі грамадскіх кампаній могуць выкарыстоўвацца адразу некалькі стратэгій.
Папрасіце ўдзельнікаў назваць вядомыя ім прыклады такога спалучэння, будзьце гатовы самі назваць такія прыклады. Скарыстайце для гэтага матэрыялы па грамадскіх кампаніях, прыкладзеныя да дапаможніка.

**6. Падсумуйце вынікі занятку (9 хв.).**
Выкарыстайце для гэтага наступныя пытанні:
- Як вызначаюцца стратэгіі рэалізацыі грамадскіх кампаній?
- На якіх узроўнях могуць рэалізоўвацца стратэгіі грамадскіх кампаній?
- Што паўплывала на ваш выбар стратэгій для рэалізацыі сваіх грамадскіх кампаній?

Падзякуйце ўдзельнікам занятку за працу!

**Выбар стратэгіі рэалізацыі грамадскай кампаніі**

Выбар стратэгіі рэалізацыі грамадскай кампаніі з'яўляецца надзвычай важным этапам распрацоўкі кампаніі. Фарміраванне стратэгіі рэалізацыі грамадскай кампаніі патрабуе яснага вызначэння тэрыторыі, на якой будзе адбывацца дзейнасць, аналізу мэтавых груп (як тых, у чыіх інтарэсах здзяйсняецца кампанія, так і тых, ад каго будзе залежыць дасягненне мэтаў кампаніі), наяўнасці людскіх і іншых рэсурсаў, магчымасцей супрацоўніцтва з рознымі арганізацыямі, а таксама добра зробленай ацэнкі палітычнага, эканамічнага, прававога і культурнага асяроддзя, у якім будзе здзяйсняцца кампанія.
Неад'емным элементам апісання стратэгіі грамадскай кампаніі з'яўляецца вызначэнне часу на яе рэалізацыю, а таксама спецыфічных формаў і метадаў працы ў межах кампаніі.
Важным з'яўляецца таксама аналіз абранай стратэгіі перад пачаткам яе рэалізацыі (гл. раздатак 10.2.).
Разгледзім прапанаваныя для аналізу пытанні на прыкладзе прыкладзенага да дапаможніка апісання грамадскай кампаніі «Зберажэнне лесу ў раёне мемарыяльнага комплексу «Гостра Могила», якая адбывалася ў г. Луганск (Украіна).

У якасці асноўнай стратэгіі кампаніі быў абраны збор подпісаў грамадзян за спыненне будаўніцтва гіпермаркета на месцы мемарыяльнага комплексу.

1. Якая выгада чакаецца ад рэалізацыі менавіта гэтай стратэгіі для тых, у інтарэсах каго праводзіцца кампанія?
Спыненне будаўніцтва гіпермаркета на месцы мемарыяльнага комплексу, захаванне лесапарку.

2. Ці адпавядае абраная стратэгія пастаўленым мэтам і задачам? (калі не — вярніцеся да абмеркавання мэтаў, задач і стратэгіі)
Абраная стратэгія адпавядае мэтам кампаніі.

3. Што будзе зроблена ў межах рэалізацыі абранай стратэгіі?
У межах кампаніі планавалася накіраваць на адрас старшыні абласной адміністрацыі, гарадскога галавы, а таксама Прэзідэнта Украіны подпісы жыхароў горада за спыненне будаўніцтва камерцыйных аб'ектаў на месцы мемарыяльнага комплексу і лесапарку.

4. Хто будзе адказваць за яе ўвасабленне?
Актыўныя жыхары горада, якія выступаюць супраць будаўніцтва камерцыйных аб'ектаў на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу.

5. Калі пачнецца рэалізацыя стратэгіі і калі яна скончыцца?
Рэалізацыя стратэгіі распачалася ад моманту з'яўлення інфармацыі пра планы будаўніцтва.

6. Дзе будзе ажыццяўляцца абраная стратэгія? На мясцовым, нацыянальным, міжнародным узроўнях? На некалькіх узроўнях адначасова?
Ажыццяўленне стратэгіі было запланавана на мясцовым (Луганск) і на нацыянальным (Прэзідэнт Украіны) узроўнях.

7. Якія рэсурсы (людзі, грошы, інфармацыя і г. д.) спатрэбяцца для рэалізацыі абранай стратэгіі?
Абраная стратэгія патрабавала наяўнасці людзей, якія маглі б збіраць подпісы.

8. Як можна будзе ацаніць яе паспяховасць?
Кампанія была б паспяховай у выпадку адмены рашэння пра будаўніцтва камерцыйных аб'ектаў на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу.

9. Што давядзецца рабіць, калі стратэгія акажацца неэфектыўнай?
Накіраванне подпісаў грамадзян за спыненне будаўніцтва на адрас старшыні абласной адміністрацыі, гарадскога галавы, а таксама Прэзідэнта Украіны не далі вынікаў.
Тады ініцыятыўная група прыняла рашэнне скарыстацца падтрымкай мясцовых грамадскіх арганізацый для прыцягнення ўвагі грамадскасці да гэтай праблемы. Быў падрыхтаваны таксама зварот да Рады дырэктараў кампаніі «Метро», якая збіралася будаваць гіпермаркет. Былі падрыхтаваныя новыя звароты ў органы ўлады, з'явіліся артыкулы ў мясцовых СМІ і ў Інтэрнэце. Да ўдзелу ў кампаніі ўдалося прыцягнуць палітыкаў і царкоўных дзеячаў.

РАЗДАТАК 10.1

**Грамадскі ўдзел: магчымыя стратэгіі галоўных накірункаў рэалізацыі кампаній**

- Выкарыстанне патэнцыялу грамадскіх арганізацый (фондаў, асацыяцый і да г. п.), якія будуць займацца прасоўваннем і адстойваннем інтарэсаў грамадзян на доўгатэрміновай аснове. Гэта стратэгія можа ўключаць у сябе і заснаванне новых арганізацый.

- Прыцягненне іншых грамадскіх арганізацый (асацыяцый, фондаў і да г. п.) да дзейнасці, скіраванай на адстойванне і прасоўванне інтарэсаў грамадзян.

- Прыцягненне ўвагі насельніцтва і ўладаў да важных пытанняў з дапамогай СМІ, улётак, брашур, інтэрнэт-рэсурсаў, флэшмобаў і г. д.

- Удзел у распрацоўцы і экспертызе рашэнняў органаў улады, напрыклад, праз ініцыіраванне стварэння грамадскай рады пры абласных і гарадскіх выканаўчых і распарадчых органах. Такая рада можа кансультаваць прадстаўнікоў органаў улады па важных для грамадства пытаннях, браць удзел у распрацоўцы рашэнняў, якія тычацца гэтых пытанняў, рабіць грамадскую ацэнку (экспертызу) прынятых уладамі рашэнняў.

- Напісанне калектыўных зваротаў (скаргаў) да дэпутатаў, у органы выканаўчай улады, пракуратуру і г. д.

- Удзел у выбарчых кампаніях у якасці кандыдатаў, груп падтрымкі кандыдатаў.

- Выкарыстанне прававых механізмаў адстойвання інтарэсаў грамадзян (напрыклад, зварот у суд).

- Выкарыстанне міжнародных механізмаў абароны і пашырэння правоў чалавека (апеляцыя да міжнародных арганізацый і інш.).

РАЗДАТАК 10.2

**На этапе распрацоўкі стратэгіі грамадскай кампаніі неабходна адказаць на наступныя пытанні:**

1. Якая выгада чакаецца ад рэалізацыі менавіта гэтай стратэгіі для тых, у інтарэсах каго праводзіцца кампанія?
2. Ці адпавядае абраная стратэгія пастаўленым мэтам і задачам? Калі не — вярніцеся да абмеркавання мэтаў, задач і стратэгіі.
3. Што будзе зроблена ў межах рэалізацыі абранай стратэгіі?
4. Хто будзе адказваць за яе ўвасабленне?
5. Калі пачнецца рэалізацыя стратэгіі і калі яна скончыцца?
6. Дзе будзе ажыццяўляцца абраная стратэгія? На мясцовым, нацыянальным, міжнародным узроўнях? На некалькіх узроўнях адначасова?
7. Якія рэсурсы (людзі, грошы, інфармацыя і г. д.) спатрэбяцца для рэалізацыі абранай стратэгіі?
8. Як можна будзе ацаніць яе пасяховасць?
9. Што давядзецца рабіць, калі стратэгія акажацца неэфектыўнай?
10. Ці ўлічвае абраная стратэгія пытанні недыскрымінацыі асобных груп грамадства? Ці будуць удзельнічаць і мужчыны, і жанчыны ў рэалізацыі абранай стратэгіі?

# 11. Стварэнне і арганізацыя дзейнасці працоўнай групы па рэалізацыі грамадскай кампаніі

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

## Чаканыя вынікі

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - этапы стварэння працоўнай групы;
  - спосабы далучэння людзей да дзейнасці працоўнай групы;
  - асновы правядзення добрай прэзентацыі грамадскай кампаніі для патэнцыйных удзельнікаў працоўнай групы па яе рэалізацыі.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - спланаваць дзеянні па стварэнні і арганізацыі дзейнасці працоўных груп па рэалізацыі грамадскіх кампаній альбо акцый.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да калектыўнай дзейнасці як асновы ажыццяўлення сацыяльных пераменаў.

## План заняткаў

1. Факусаванне ўвагі — 10 хв.
2. Абвяшчэнне тэмы і чаканых вынікаў занятку — 1 хв.
3. Этапы стварэння працоўнай групы грамадскай кампаніі– 15 хв.
4. Спосабы далучэння людзей да дзейнасці працоўнай групы па рэалізацыі грамадскай кампаніі — 20 хв.
5. Правядзенне прэзентацыі грамадскай кампаніі для патэнцыйных удзельнікаў працоўнай групы па рэалізацыі грамадскай кампаніі — 35 хв.
6. Падсумаванне вынікаў занятку — 9 хв.

# ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі (10 хв.).**
Правядзіце з удзельнікамі любое практыкаванне, якое патрабуе ўдзелу ўсёй групы ў дасягненні пастаўленага выніку (напрыклад, на працягу 5 хв. звязаць з вопраткі ўдзельнікаў канат даўжынёй у 20 метраў альбо моўчкі і з заплюшчанымі вачыма намаляваць усёй групай карціну на зададзеную тэму). Пасля выканання задання запытайце, што дапамагло (альбо перашкодзіла) групе выканаць гэтае заданне. Патлумачце, што ёсць шмат фактараў, ад якіх залежыць эфектыўнасць сумеснай працы людзей, што на гэтым занятку мы будзем весці гаворку пра тое, як стварыць працоўную групу, якая будзе займацца рэалізацыяй грамадскіх кампаній.

**2. Прадстаўце тэму і чаканыя вынікі заняткаў (1 хв.).**

**3. Этапы стварэння працоўнай групы грамадскай кампаніі (15 хв.).**
Нагадайце ўдзельнікам, што грамадскі ўдзел засноўваецца на сумесных дзеяннях людзей. Патлумачце, што ініцыятарамі грамадскага ўдзелу могуць быць як канкрэтныя асобы, так і розныя інстытуты грамадства, напрыклад — грамадскія арганізацыі. Гэта будзе залежаць ад сутнасці праблемы, ступені тэрміновасці яе вырашэння, пазіцыі насельніцтва па гэтым пытанні. Ініцыяваць актыўныя дзеянні могуць самі жыхары, якія добра бачаць, што робіцца на іх вуліцы, альбо мясцовыя грамадскія арганізацыі. Ініцыятарам сацыяльных пераменаў можа выступіць школа альбо дэпутат. Самае важнае — каб ініцыятары тых альбо іншых грамадскіх кампаній былі здольнымі ідэнтыфікаваць праблемы, планаваць дзейнасць па іх вырашэнні, прыцягваць да гэтай дзейнасці іншых людзей.

Раскладзіце на падлозе ў адвольным парадку карткі, змешчаныя ў раздатку 11.1. Патлумачце, што на гэтых картках прадстаўленыя асноўныя этапы працы па стварэнні працоўнай групы грамадскай кампаніі. Папрасіце ўдзельнікаў-добраахвотнікаў раскласці гэтыя карткі ў пэўнай лагічнай паслядоўнасці і патлумачыць сваё рашэнне. Пры неабходнасці можна даць шанец іншым добраахвотнікам раскласці карткі згодна з уласным бачаннем.

Пры падсумаванні вынікаў дыскусіі арыентуйцеся на паслядоўнасць дзеянняў, прапанаваную ў раздатку 11.1. Раздайце ўдзельнікам гэты матэрыял пасля сканчэння дыскусіі.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Звярніце ўвагу, што неад'емнымі элементамі грамадскага ўдзелу з'яўляюцца:

- Дыскусія з удзелам максімальнай колькасці людзей, ад якіх залежыць вырашэнне праблем. Людзі, заангажаваныя ў гэты працэс, павінны ясна разумець сэнс сваіх дзеянняў, ведаць, да якіх вынікаў прывядуць іх намаганні.
- Рашэнні. Вынікам дыскусій павінны быць канкрэтныя рашэнні, накіраваныя на вырашэнне праблем. Удзельнікі працэсу павінны мець магчымасць браць удзел у прыняцці найважнейшых рашэнняў.
- Дзеянні. Прынятыя рашэнні павінны быць падмацаванымі канкрэтнымі дзеяннямі — толькі ў такім выпадку можна дасягнуць чаканых вынікаў сумеснай дзейнасці.

**4. Спосабы далучэння людзей да дзейнасці працоўнай групы па рэалізацыі грамадскай кампаніі (20 хв.).**

Аб'яднайце ўдзельнікаў у малыя групы, у якіх яны распрацоўвалі свае кампаніі. Папрасіце кожную групу на працягу 10 хв. апісаць усе магчымыя спосабы далучэння людзей да рэалізацыі распрацаваных на папярэдніх занятках грамадскіх кампаній. Прысвяціце 10 хв. абмеркаванню вынікаў гэтай працы.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Звярніце ўвагу, каб у час прэзентацыі вынікаў працы груп прагучалі такія спосабы, як ініцыяванне публічных дыскусій, грамадскіх слуханняў, стварэння грамадскіх радаў, правядзення ток-шоў з дапамогай СМІ, збор подпісаў з запрашэннем узяць удзел у працы працоўнай групы, вулічныя пікеты і акцыі, скіраваныя на прыцягненне людзей да дзейнасці працоўнай групы, абвесткі і іншыя матэрыялы ў СМІ і Інтэрнэце і г. д.

Звярніце ўвагу ўдзельнікаў, што асобныя нацыянальныя і міжнародныя прававыя нормы патрабуюць абавязковага абмеркавання з грамадскасцю важных для грамадства пытанняў. Да прыкладу, Орхуская канвенцыя (арт. 1), якую Беларусь таксама падпісала, гарантуе права грамадзян на доступ да інфармацыі, на ўдзел грамадскасці ў працэсе прыняцця рашэнняў і на доступ да правасуддзя (напрыклад, да суду) па пытаннях, якія тычацца навакольнага асяроддзя.

**5. Правядзенне прэзентацыі грамадскай кампаніі для патэнцыйных удзельнікаў працоўнай групы па рэалізацыі грамадскай кампаніі (35 хв.).**

Дайце заданне кожнай са створаных на папярэднім этапе занятку груп падрыхтаваць на працягу 15 хв. кароткую (3-х хвілінную) вусную прэзентацыю ідэі распрацаванай імі грамадскай кампаніі для патэнцыйных удзельнікаў працоўнай групы. Кожная група павінна вызначыць, для каго будзе праводзіцца гэтая прэзентацыя, якая будзе яе мэта, структура, хто будзе рабіць прэзентацыю і г. д. Для таго, каб дапамагчы ўдзельнікам лепш падрыхтаваць свае прэзентацыі, раздайце і патлумачце ім матэрыял з раздатка 11.2.

У час падсумавання вынікаў задання звяртайце ўвагу на тое, ці была дасягнутая мэта прэзентацыі, ці слухачы правільна зразумелі яе сутнасць, ці ясна была сфармуляваная прапанова далучыцца да дзейнасці працоўнай групы і г. д.

**6. Падсумаванне вынікаў занятку (9 хв.).**

Выкарыстайце для падсумавання наступныя пытанні:

- З якіх этапаў складаецца фарміраванне працоўнай групы грамадскай кампаніі?
- З дапамогай якіх спосабаў можна далучаць людзей да працоўнай групы грамадскай кампаніі?
- Што трэба ўлічваць пры правядзенні прэзентацыі ідэі грамадскай кампаніі для патэнцыйных удзельнікаў працоўнай групы?

Падзякуйце ўдзельнікам заняткаў за працу!

**Асаблівасці дзейнасці працоўных групаў па рэалізацыі грамадскіх кампаніяў у Беларусі**

Звярніце ўвагу, што беларускае заканадаўства (арт. 193.1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (па стане на снежань 2010 г.)) забараняе любую актыўнасць ад імя незарэгістраваных груп.
Існаванне ў беларускім крымінальным заканадаўстве арт. 193.1 выклікае сур'ёзную занепакоенасць у міжнароднай супольнасці. Так, рэкамендацыя адмяніць альбо змяніць арт. 193.1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь утрымліваецца ў раздзеле «Высновы і рэкамендацыі» справаздачы Працоўнай групы па ўніверсальным перыядычным аглядзе па Беларусі (працэдура, заснаваная ў адпаведнасці з рэзалюцыяй 5/1 Савета ААН па правах чалавека 18.06.2007), http://daccess-dds-ny.un.org/doc/UNDOC/GEN/G10/145/23/PDF/G1014523.pdf?OpenElement. У справаздачы гаворыцца, што «Беларусь вывучыла і падтрымлівае сфармуляваныя ў час інтэрактыўнага дыялогу рэкамендацыі», у тым ліку рэкамендацыю «зняць забарону на любую дзейнасць аб'яднанняў, якія не прайшлі рэгістрацыю і скасаваць арт. 193.1 Крымінальнага кодэкса Беларусі».

Тым не менш, пакуль арт. 193.1 застаецца дзейсным і дзейнічаць у сферы вырашэння грамадскіх праблем зараз могуць толькі зарэгістраваныя арганізацыі.
Удзельнікі грамадскіх кампаній не могуць выступаць ад імя працоўных ці ініцыятыўных груп кампаній (падпісваць паперы, рабіць заклікі ад імя працоўнай групы і г. д.). Прапануем ініцыятыўнай ці працоўнай групы дзейнічаць на базе школы, зарэгістраванага грамадскага аб'яднання, універсітэту альбо ад імя канкрэтных грамадзян.

Спосабы стварэння працоўнай групы, якая будзе займацца арганізацыяй тых альбо іншых сустрэч, могуць быць рознымі. Гэта можа быць стыхійная дзейнасць невялікіх групак па зборы подпісаў, як было на пачатку кампаніі «Зберажэнне лесу ў раёне мемарыяльнага комплексу «Гостра Могила» (Луганск, Украіна), альбо скаардынаваная дзейнасць працоўных груп і партнёрскіх арганізацый, як у выпадку з кампаніяй па ратыфікацыі Украінай Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў ці кампаніі «Мамаграфічнае абследаванне малочнай залозы — гарантыя жаночага здароўя», якая праводзілася ў Смаргоні (Гродзенская вобласць) і Мазыры (Гомельская вобласць).

Вельмі важна, каб удзельнікі працоўнай групы добра разумелі мэты і сутнасць грамадскай кампаніі, якая рэалізуецца, ведалі, да каго можна звярнуцца ў выпадку ўзнікнення нейкіх праблем, валодалі рэсурсамі (інфармацыйныя матэрыялы і г. д.), неабходнымі для паспяховага здзяйснення кампаніі.

РАЗДАТАК 11.1

**Этапы стварэння працоўнай групы грамадскай кампаніі**

Збор і аналіз інфармацыі, звязанай з той альбо іншай праблемнай сітуацыяй, якая закранае правы і законныя інтарэсы грамадзян.

Выяўленне патэнцыйных удзельнікаў працоўнай групы і запрашэнне іх да ўдзелу ў першай арганізацыйнай сустрэчы.

Вызначэнне формы і спосабаў правядзення першай арганізацыйнай сустрэчы.

Прадстаўленне ідэі грамадскай кампаніі запрошаным на сустрэчу людзям.

Абмеркаванне ідэі грамадскай кампаніі (патрэбаў у яе правядзенні, мэтаў, мэтавых груп, магчымых відаў дзейнасці і г. д.), збор прапановаў адносна таго, каго можна далучыць да дзейнасці будучай працоўнай групы.

Вызначэнне ахвотных увайсці ў склад працоўнай групы грамадскай кампаніі. Дасягненне дамоўленасці пра наступную працоўную сустрэчу працоўнай групы, спосабы падтрымкі камунікацыі паміж удзельнікамі групы.

Арганізацыйная сустрэча працоўнай групы. Стварэнне плана грамадскай кампаніі. Размеркаванне роляў. Узгадненне абавязкаў і паўнамоцтваў.

Прадстаўленне канцэпцыі кампаніі шырокай грамадскасці. Пошук і далучэнне новых удзельнікаў працоўнай групы і партнёраў па рэалізацыі кампаніі.

Фарміраванне новых (пры патрэбе) працоўных груп па рэалізацыі грамадскай кампаніі.

**Прэзентацыя**

Пад прэзентацыяй звычайна прынята разумець афіцыйнае прадстаўленне для зацікаўленай аўдыторыі чагосьці новага: арганізацыі, кампаніі, праекта і г. д.

Галоўны сэнс прэзентацыі — забяспечыць добразычлівае стаўленне з боку грамадскасці да прадмета прэзентацыі, пошук новых актыўных людзей, якія б далучыліся да кампаніі.

Як і любая групавая сустрэча, стандартная прэзентацыя мае свой «сюжэт», які складаецца з трох асноўных частак: *уступ, асноўная частка і завяршэнне*.

**Уступ звычайна складаецца з 5 асноўных элементаў:**

- Прывітанне, падзяка прысутным, за тое што аддалі свой час на ўдзел у сустрэчы.
- Прадстаўленне (імя і прозвішча, пасада ў арганізацыі, калі трэба — прадстаўленне іншых калегаў, якія прысутнічаюць на сустрэчы).
- Дэкларацыя мэты (тлумачэнне сутнасці сустрэчы з акцэнтам на яе магчымую карысць для ўдзельнікаў).
- Рамачныя ўмовы (інфармацыя пра тое, колькі будзе доўжыцца прэзентацыя, ці будуць перапынкі і г. д.).
- Тлумачэнне парадку працы (што за чым будзе адбывацца, калі можна задаваць пытанні і г. д.).

**Асноўная частка можа складацца з наступных элементаў:**

- Уводзіны ў тэму. Апісанне існуючай сітуацыі («Усе вы добра ведаеце, што...»).
- Фіксацыя праблем.
- Прадстаўленне перспектыў (што адбудзецца, калі праблемы не будуць вырашацца, альбо наадварот, якія пазітыўныя перамены чакаюць удзельнікаў прэзентацыі ў выпадку рэалізацыі нейкай грамадскай кампаніі).
- Прапановы (што мы гатовы прапанаваць для вырашэння праблемаў, заклік да канкрэтных дзеянняў, якіх мы чакаем ад прысутных, прапанова далучыцца да грамадскай групы кампаніі і да т. п.).

**Заключная частка звычайна складаецца з:**

- Кароткага падсумавання найважнейшай інфармацыі.
- Прапановаў па канкрэтных найбліжэйшых кроках.
- Падзякі за ўдзел.

# 12. Стварэнне працоўнага плану і каштарысу грамадскай кампаніі

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

**Чаканыя вынікі**

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - як складаецца працоўны план грамадскай кампаніі;
  - віды рэсурсаў, неабходных для рэалізацыі грамадскай кампаніі.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - складаць працоўныя планы і каштарысы грамадскіх кампаній.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - адказна да складання працоўнага плана і каштарыса грамадскай кампаніі.

**План заняткаў**

1. Факусаванне ўвагі — 5 хв.
2. Прадстаўленне тэмы і чаканых вынікаў — 1 хв.
3. Стварэнне працоўнага плану грамадскай кампаніі — 40 хв.
4. Віды рэсурсаў, неабходных для рэалізацыі грамадскай кампаніі і складанне яе каштарыса — 35 хв.
5. Падсумаванне вынікаў занятку — 9 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі — 5 хв.**
Папрасіце кагосьці з удзельнікаў прапанаваць свой рэцэпт прыгатавання амлету. Звярніце ўвагу на тое, што ў час агучвання рэцэпта называліся рэсурсы, неабходныя для прыгатавання стравы (посуд, прадукты, час прыгатавання і г. д.). Пры неабходнасці можна было б пралічыць і каштарыс нашай яечні. Патлумачце, што на гэтым занятку мы будзем вучыцца ствараць працоўныя планы грамадскіх кампаній, а таксама пралічваць і апісваць іх каштарысы.

**2. Прадстаўце тэму і мэты заняткаў (1 хв.).**

**3. Стварэнне працоўнага плану грамадскай кампаніі (40 хв.).**
Аб'яднайце ўдзельнікаў у малыя групы, у якіх удзельнікі распрацоўвалі свае грамадскія кампаніі на папярэдніх занятках. Раздайце кожнай групе раздатак 12.1 і папрасіце па прадстаўленым у ім узоры прапісаць працоўны план сваёй грамадскай кампаніі. У час прэзентацыі вынікаў працы групы звяртайце ўвагу на тое, ці вынікаюць лагічна створаныя працоўныя планы з мэтаў, задач, стратэгіі кампаніі, ці з'яўляюцца яны канкрэтнымі, ці запланаваныя дзеянні сапраўды могуць прывесці да выканання запланаваных задач і дасягнення мэты кампаніі.

**4. Віды рэсурсаў, неабходных для рэалізацыі грамадскай кампаніі і складанне яе каштарыса (35 хв.).**
Папрасіце ўдзельнікаў у тых жа групах прапісаць рэсурсы, якія ім спатрэбяцца для рэалізацыі запланаваных дзеянняў. Пасля прэзентацыі вынікаў працы груп раздайце ўдзельнікам матэрыял з раздатка 12.2. і пракаментуйце яго.

Патлумачце, што пасля таго, як мы маем пералік рэсурсаў, неабходных для выканання кожнага з запланаваных дзеянняў, можна пачынаць складанне каштарысу кампаніі. У якасці прыкладу можна стварыць разам з удзельнікамі ўзор каштарысу невялікай грамадскай кампаніі альбо акцыі. У якасці ўзору апісання каштарысу кампаніі раздайце ўдзельнікам раздатак 12.3.

**ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ**

Складанне каштарыса можа быць складаным працэсам для групы, якая не мае такога досведу. У гэтым выпадку адукатар сам павінен дапамагаць групе вызначаць магчымыя катэгорыі выдаткаў у межах грамадскай кампаніі, апісваць гэтыя выдаткі (колькасць, кошт).

**5. Падсумуйце вынікі занятку (9 хв.).**
Выкарыстайце для гэтага наступныя пытанні:

- Якая інфармацыя павінна ўтрымлівацца ў добра падрыхтаваным працоўным плане грамадскай кампаніі?
- Дзе можна шукаць рэсурсы для рэалізацыі кампаній, распрацаваных удзельнікамі занятку?
- Як звязаныя паміж сабой працоўны план і каштарыс кампаніі?

Падзякуйце ўдзельнікам заняткаў за працу!

## ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Прыцягненне рэсурсаў для рэалізацыі грамадскіх кампаній**

Рэалізацыя грамадскіх кампаній патрабуе наяўнасці рэсурсаў. Калі кампанія кароткатэрміновая, мае мясцовы характар і не прадугледжвае складаных дзеянняў, то часта можна абысціся невялікімі і даступнымі рэсурсамі: выкарыстаць валанцёрскую працу, скарыстацца аргтэхнікай ці інфармацыйнымі матэрыяламі, якія належыць школе, мясцовым грамадскім арганізацыям, дзяржаўным ці камерцыйным установам, сябрам, знаёмым і г. д.

У выпадку, калі кампанія мае маштабны характар, складаецца з вялікай колькасці дзеянняў, рэсурсаў спатрэбіцца значна больш. У гэтым выпадку можна звяртацца па дапамогу ў навучальныя ці іншыя ўстановы (у тым ліку — органы ўлады), якія могуць прадставіць, напрыклад, памяшканні для сустрэч альбо дафінансаваць нейкія віды дзейнасці.

Можна таксама звярнуцца па дапамогу да мясцовых грамадскіх арганізацый і разам з імі напісаць заяўку на атрыманне фінансавання, неабходнага для рэалізацыі кампаніі. Трэба, аднак, улічваць, што на разгляд такога кшталту заявак можа спатрэбіцца дастаткова працяглы час.

З некаторымі прыкладамі прыцягнення фінансавых рэсурсаў (так званага «фандрэйзінгу») на рэалізацыю грамадскіх кампаній можна пазнаёміцца тут — http://srodki.org/?page_id=47
Для складання каштарысу кампаніі трэба найперш мець падрыхтаваны план дзейнасці.
Пасля таго, як ён створаны, вызначце, якія рэсурсы могуць спатрэбіцца на рэалізацыю кожнага запланаванага мерапрыемства.

Для тлумачэння таго, як складаюцца працоўны план і каштарыс кампаніі, карыстайцеся раздаткамі, прыкладзенымі да гэтага занятку

**Стварэнне працоўнага плана**

- Апішыце ўсе запланаваныя мерапрыемствы ў храналагічным парадку.
- Пасля апісання кожнага мерапрыемства адзначайце, якія канкрэтныя вынікі вы плануеце атрымаць пасля яго сканчэння.
- Канкрэтныя вынікі пераводзьце ў колькасныя (%, асобнікі, колькасць чалавек і г. д.) і якасныя (узровень ведаў, уменняў, ступень удзелу, інфармаванасці і г. д.) паказчыкі.

**Прыклад працоўнага плана:**

| Дата і адказныя | Мерапрыемства | Мэтавая група | Колькасць удзельнікаў | Чаканыя вынікі |
|---|---|---|---|---|
| 08.2010, М. Бурачкоў | Адбор удзельнікаў навучальнага курса | Асобы з інваліднасцю | 20 | Сфарміраваныя 2 вучэбныя групы (па 10 чал. кожная); ўзгоднены графік навучання; вызначаныя патрэбы і асаблівасці (перамяшчэнне, суправаджэнне і г. д.) удзельнікаў праекту |
| 09-10.2010 А. Лісіцкая | Уводны курс «Мае першыя крокі на рынку працы» | Асобы з інваліднасцю | 20 | Удзельнікі, трэнеры і арганізатары інтэграваныя; удзельнікі знаёмыя з асновамі эфектыўнай камунікацыі і працы ў групе; удзельнікі сфармулявалі асабістыя мэты дзейнасці на рынку працы і ў іншых сферах свайго жыцця |
| 11-12.2010 К. Пруткоўскі | Круглы стол з прадстаўнікамі мясцовай улады па пытаннях забеспячэння людзей з інваліднасцю доступам да Інтэрнэту на льготных умовах | Прадстаўнікі мясцовых уладаў, інтэрнэт-правайдэраў, арганізацый, якія, аб'ядноўваюць людзей з інваліднасцю | 25 | Абмеркаваныя варыянты забеспячэння людзей з інваліднасцю доступам да Інтэрнэту на ільготных умовах; створана працоўная група, якая займецца далейшай распрацоўкай забеспячэння людзей з інваліднасцю доступам да Інтэрнэту на ільготных умовах |

## РАЗДАТАК 12.2

**Рэсурсы грамадскай кампаніі**

- Час.
- Арганізацыя (офісы, сувязі, тэхнічная база, персанал, добраахвотнікі і да г. п.).
- Асобы (дэпутат, які будзе адстойваць інтарэсы арганізацыі і яе кліентаў; моцны лідэр, які карыстаецца аўтарытэтам у розных колах грамадства і г. д.).
- Інфармацыя.
- Грошы.

Недахоп кожнага з гэтых відаў рэсурсаў можа быць кампенсаваны іншымі відамі рэсурсаў.
Калі арганізацыя не мае дастатковай колькасці грошай альбо матэрыяльна-тэхнічнай базы, трэба імкнуцца забяспечыць сабе ў дастатковай колькасці такі рэзерв, як час.

У многіх выпадках галоўным рэсурсам грамадскай кампаніі, накіраванай на адстойванне інтарэсаў грамадзян, з’яўляюцца *асобы*.
Гэта азначае, што арганізатары кампаніі павінны рабіць стаўку на тых людзей, якія рэальна могуць уплываць на дасягненне мэтаў кампаніі.

## РАЗДАТАК 12.3

**Прыклад каштарыса грамадскай кампаніі**

Каштарыс найлепей складаць на падставе працоўнага плану, які падрабязна распісвае неабходныя крокі для дасягнення мэты. Каштарыс, прыкладзены ніжэй як прыклад, не адносіцца да працоўнага плану з раздатка 12.1.

| № | Катэгорыя выдаткаў | Апісанне выдаткаў | Запрошваецца сума | Свой унёсак | Агульная сума |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Друк абвестак | 350 шт. x 1000 руб. | 350000 | | 350000 |
| 2 | Арэнда памяшкання для сустрэчы з жыхарамі мікрараёна | 3 гадзіны | | 60000 | 60000 |
| 3 | Арэнда транспарту на час суботніка па прыборцы тэрыторыі парку побач са школай | 6 гадзін | 120000 | | 120000 |
| | | Разам: | 470000 | 60000 | 530000 |

## 13. Вызначэнне крытэрыяў і спосабаў ацэнкі грамадскай кампаніі

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

**Чаканыя вынікі**

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - навошта трэба праводзіць ацэнку вынікаў грамадскай кампаніі;
  - як можна ацаніць выніковасць грамадскай кампаніі.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - вызначаць паказчыкі, якія трэба ацэньваць;
  - карыстацца метадамі ацэнкі.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да ацэнкі вынікаў дзейнасці як адной з найважнейшых частак падрыхтоўкі і рэалізацыі грамадскіх кампаній.

**План заняткаў**

1. Факусаванне ўвагі — 10 хв.
2. Прадстаўленне тэмы і чаканых вынікаў занятку — 1 хв.
3. Што такое ацэнка і навошта трэба ацэньваць праведзеныя грамадскія кампаніі — 5 хв.
4. Крытэрыі ацэнкі грамадскіх кампаній — 60 хв.
5. Падсумаванне вынікаў занятку — 14 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Факусаванне ўвагі (10 хв.).**
Аб'яднайце ўдзельнікаў у дзве групы. Папрасіце групы стаць у два шэрагі (так, каб канкрэтны чалавек з адной групы стаяў насупраць канкрэтнага чалавека з іншай групы на адлегласці ў 1,5 м). Патлумачце, што зараз людзі, якія стаяць адзін насупраць другога павінны павярнуцца адзін да аднаго спінамі і на працягу 5 хв. зрабіць 5 пераменаў у сваім знешнім выглядзе (змяніць нешта ў сваёй вопратцы, прычосцы і г. д.). Пасля гэтага папрасіце ўдзельнікаў павярнуцца тварам адзін да аднаго і паспрабаваць заўважыць змены, якія адбыліся ў знешнім выглядзе іх партнёраў па пары. Пасля таго, як удзельнікі падзеляцца адзін з адным сваімі назіраннямі, пахваліце іх за ўважлівасць, дайце некалькі хвілінаў прывесці сябе ў парадак і запытайце, *што* можна было б ацэньваць з дапамогай гэтага практыкавання? Як правіла, удзельнікі называюць памяць, назіральнасць, вынаходлівасць, хуткасць рэакцыі і г. д. Патлумачце, што гэтае практыкаванне мы зрабілі каб убачыць, што можна ацэньваць розныя аспекты калектыўнай дзейнасці людзей. Адзначце, што на гэтым занятку мы будзем вучыцца вызначаць крытэрыі і спосабы ацэнкі распрацаваных намі грамадскіх кампаній.

**2. Прадстаўце тэму і чаканыя вынікі заняткаў (1 хв.).**

**3. Што такое ацэнка (5 хв.).**
Прыгадайце разам з удзельнікамі сутнасць мадэлі грамадскага ўдзелу (гл. матэрыялы занятку 1). Запытайце ва ўдзельнікаў, якое значэнне мае этап ацэнкі ў гэтай мадэлі.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Добра падрыхтаваныя крытэрыі і спосабы ацэнкі грамадскай кампаніі дазваляюць на кожным этапе правядзення кампаніі спраўджваць, ці былі дасягнутыя задачы кампаніі (ці,можа, варта іх адкарэкціраваць), наколькі выніковай была тая альбо іншая дзейнасць у межах кампаніі, зрабіць высновы адносна распрацоўкі будучых грамадскіх дзеянняў, а таксама зразумець, якіх памылак трэба пазбягаць. Апроч таго, сумесна падрыхтаваная ацэнка кампаніі ўмацоўвае ступень даверу паміж людзьмі, іх гатоўнасць да сумеснай працы ў будучым. Прапануйце групе вызначэнне тэрміну *ацэнка* як аналіз вынікаў і суаднясенне іх з запланаванымі крытэрыямі эфектыўнасці дзейнасці.

**4. Крытэрыі і спосабы ацэнкі грамадскіх кампаній (60 хв.).**
Аб'яднайце ўдзельнікаў у малыя групы, у якіх яны распрацоўвалі свае грамадскія кампаніі. Папрасіце кожную групу на працягу 30 хв. апісаць паказчыкі, па якіх можна было б ацаніць

паспяховасць гэтых кампаній, а таксама спосабы праверкі дасягнення гэтых паказчыкаў. У якасці прыклада раздайце ўдзельнікам раздатак 13.1. У час прэзентацыі вынікаў працы групы звяртайце ўвагу на тое, ці дастаткова канкрэтна былі сфармуляваныя агучаныя паказчыкі, ці вынікаюць яны з мэты і задач кампаніі.

У час падсумавання вынікаў гэтага практыкавання звярніце ўвагу ўдзельнікаў, што для ацэнкі эфектыўнасці грамадскай кампаніі можна выкарыстаць розныя спосабы. Для тлумачэння гэтага блока інфармацыі скарыстайцеся з дадатковай інфармацыі ў канцы занятку.

**5. Падсумуйце вынікі занятку (14 хв.).**
Выкарыстайце для гэтага наступныя пытанні:

- З якімі мэтамі праводзіцца ацэнка эфектыўнасці грамадскіх кампаній?
- Хто і на якім этапе павінен вызначаць паказчыкі эфектыўнасці грамадскіх кампаній?
- Якія спосабы ацэнкі эфектыўнасці вынікаў грамадскай кампаніі вы лічыце найбольш эфектыўнымі?

Падзякуйце ўдзельнікам заняткаў за працу!

## ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**Крытэрыі і спосабы ацэнкі эфектыўнасці грамадскай кампаніі**

Вельмі важна правільна вызначыць крытэрыі і спосабы ацэнкі эфектыўнасці грамадскай кампаніі. Часта ўдзельнікі заняткаў па гэтай тэме ў якасці паказчыкаў называюць тыя альбо іншыя мерапрыемствы. Напрыклад: «Адбудзецца круглы стол з удзелам прадстаўнікоў мясцовай улады і грамадскасці горада». У такім выпадку задавайце ўдзельнікам пытанні пра тое, што будзе вынікам гэтых мерапрыемстваў. Гэта і будуць тыя паказчыкі, паводле якіх вы зможаце затым ацаніць, наколькі эфектыўнай была грамадская кампанія.

Добрым прыкладам фармулёўкі паказчыкаў эфектыўнасці кампаніі з'яўляецца табліца ў раздатку 13.1. У час разбору матэрыялаў гэтага раздатка можна назваць іншыя магчымыя ў гэтым выпадку паказчыкі эфектыўнасці кампаніі. Напрыклад:

- улады ўстрымліваюцца ад знішчэння дрэваў без папярэдняга кансультавання з мясцовым насельніцтвам;
- улады стварылі механізм (напрыклад, працэдуру адкрытых грамадскіх слуханняў), пры дапамозе якога мясцовая грамадскасць здольная эфектыўна браць удзел у працэсе прыняцця рашэнняў адносна высякання дрэваў;
- рашэнні ўладаў па гэтым пытанні адпавядаюць пазіцыі грамадскасці адносна высякання дрэваў, заяўленай у працэсе кансультавання.

Пасля таго, як будуць вызначаныя паказчыкі эфектыўнасці кампаніі, можна пераходзіць да вызначэння спосабаў праверкі дасягнення гэтых паказчыкаў.
У якасці спосабаў праверкі эфектыўнасці грамадскай кампаніі могуць быць выкарыстаныя розныя метады: анкетаванне людзей, у інтарэсах якіх здзяйснялася кампанія, аналіз публікацый у СМІ і ў Інтэрнэце, падагульняльныя працоўныя сустрэчы і сходы, экспертная ацэнка з боку запрошаных спецыялістаў і г. д.

Выбар таго альбо іншага метаду залежыць ад спецыфікі кампаній і таго, што мы хочам ацаніць. Напрыклад, калі кампанія была скіраваная на тое, каб гарадскія ўлады зрабілі льготны праезд у грамадскім транспарце для той альбо іншай групы насельніцтва, то найлепшым спосабам ацэнкі будзе аналіз дакументаў, атрыманых ад прадстаўнікоў улады ў адказ на звароты грамадзян, а таксама дзеянняў мясцовых уладаў па ўкараненні прынятых рашэнняў у жыццё.
Калі грамадская кампанія была скіраваная на змяненне стаўлення людзей да нейкай з'явы (напрыклад, да адмены смяротнага пакарання), то ў якасці метадаў ацэнкі можна выкарыстаць анкетаванне альбо апытанне людзей на вуліцах ці спецыяльных сайтах, правядзенне фокус-груп (сустрэч з вызначанымі групамі людзей для высвятлення іх меркавання па нейкім пытанні), аналіз публікацый у СМІ па гэтай тэме. Трэба памятаць, аднак, што такія апытанні патрабуюць рэпрэзентатыўнай выбаркі людзей, якія будуць апытаныя, а таксама часу на апрацоўку і правільную інтэрпрэтацыю вынікаў.

Надзвычай важным спосабам ацэнкі эфектыўнасці грамадскай кампаніі з'яўляюцца падагульняльныя сустрэчы з удзелам людзей, якія ініцыявалі кампанію і бралі ў ёй удзел. Такія сустрэчы дазваляюць ацаніць не толькі вынікі кампаніі, але і працэс яе рэалізацыі: што было зроблена добра, што можна было б зрабіць інакш і г. д. Часам вынікам такіх сустрэч можа стаць рашэнне людзей працягваць рэалізацыю кампаніі альбо распачаць новую кампанію. Пасля гэтага занятку наступае этап выканання распланаванай на працягу некалькіх заняткаў грамадскай кампаніі.

**Прыклад вызначэння крытэрыяў і спосабаў ацэнкі грамадскіх кампаній**

| ПАКАЗЧЫКІ | СПОСАБЫ ПРАВЕРКІ |
| --- | --- |
| Улада інфармуе грамадскасць аб запланаваных мерапрыемствах, якія датычаць знішчэння дрэваў у Гродне. | У мясцовай дзяржаўнай прэсе размяшчаюцца рашэнні гарвыканкаму аб запланаваным высячэнне дрэваў.<br>У мясцовай дзяржаўнай прэсе размешчаны парадак абмеркавання з грамадзянамі пытанняў, звязаных з высячэннем дрэваў. |
| Жыхары Гродна інфармаваны аб магчымасцях удзелу ў прыняцці рашэнняў адносна мерапрыемстваў па вынішчэнні аб'ектаў расліннага свету. | Размяшчэнне інфармацыі аб кампаніі ў газеце «Вечерний Гродно» і ў электронных СМІ .<br>Інфармацыя пра кампанію з'явілася на сайтах арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчыны», газеты «Наша ніва».<br>Выдадзены дапаможнік «Захаваем жыццё дрэвам: грамадзянскі ўдзел», надрукаваныя матэрыялы сустрэчы, плакаты, налепкі. |
| Мясцовымі ўладамі разгледжаны прапановы грамадскасці па захаванні аб'ектаў расліннага свету Гродна. | Накіравана не менш за 200 подпісаў са зваротамі грамадзян.<br>Атрыманыя адказы з гарвыканкаму, афіцыйныя рашэнні.<br>Ёсць зваротная сувязь ад грамадзян, якія атрымалі адказы.<br>Сабраныя і сістэматызаваныя матэрыялы сустрэчы па ацэнцы і планаванні далейшых дзеянняў. |

# 14. Правядзенне ацэнкі вынікаў грамадскіх кампаній

**Заняткі разлічаны на 90 хв.**

**Чаканыя вынікі**

- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ведаць:**
  - вынікі праведзеных імі грамадскіх кампаній.
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць здольныя:**
  - выкарыстоўваць зробленыя ў час ацэнкі высновы пры планаванні і правядзенні наступных грамадскіх кампаній (улічваць моцныя і слабыя бакі рэалізаваных кампаній для планавання будучых дзеянняў па абароне і прасоўванні правоў чалавека, адстойванні інтарэсаў грамадскасці).
- **У выніку заняткаў удзельнікі будуць ставіцца:**
  - да сумеснай ацэнкі вынікаў дзейнасці як да неад'емнай часткі рэалізацыі грамадскіх кампаній.

**План заняткаў**

1. Прадстаўленне тэмы і чаканых вынікаў занятку — 3 хв.
2. Прэзентацыя вынікаў рэалізаваных грамадскіх кампаній — 75 хв.
3. Падсумаванне вынікаў занятку — 12 хв.

## ХОД ЗАНЯТКАЎ

**1. Прадстаўце тэму і чаканыя вынікі заняткаў (3 хв.).**
Патлумачце ўдзельнікам, што гэта апошні занятак у межах адукацыйнай праграмы, скіраванай на навучанне планаванню і правядзенню грамадскіх кампаній па абароне і пашырэнні правоў чалавека. На гэтым занятку будуць прадстаўленыя вынікі тых кампаній, якія рэалізоўваліся ўдзельнікамі гэтай праграмы, поспехі і праблемы, з якімі сутыкаліся арганізатары гэтых кампаній.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Перад пачаткам гэтага занятку варта правесці падрыхтоўчую працу з удзельнікамі, якія бралі непасрэдны ўдзел у правядзенні грамадскіх кампаній.
Папрасіце іх загадзя падрыхтаваць прэзентацыю дасягнутых вынікаў у выглядзе камп'ютарнай прэзентацыі ў праграме Microsoft Office PowerPoint, намаляваных плакатаў, знятых відэаролікаў ці з дапамогай іншых даступных удзельнікам спосабаў. Звярніце ўвагу ўдзельнікаў на тое, каб яны ў час прэзентацыі арыентаваліся на паказчыкі эфектыўнасці кампаніі, якія былі вызначаны ў занятку 13.

**2. Прэзентацыя вынікаў рэалізаваных грамадскіх кампаній — 75 хв.**
Арганізуйце прэзентацыю вынікаў грамадскіх кампаній у фармаце прэс-канферэнцыі. Для гэтага прапануйце кожнай групе на працягу 10 хв. распавесці пра рэалізаваную ёй кампанію (яе назву, мэту, мэтавыя групы, асноўныя мерапрыемствы, дасягнутыя вынікі, праблемы, з якімі група сутыкалася ў час рэалізацыі кампаніі, зробленыя высновы і г. д.). Удзельнікі, якія не бралі ўдзел у рэалізацыі гэтай кампаніі, атрымаюць затым 10 хв., каб задаць пытанні і ўдакладніць атрыманую ў час прэзентацыі інфармацыю.
Па такім самым алгарытме адбываецца прэзентацыя вынікаў кампаній, рэалізаваных іншымі групамі.

ТЛУМАЧАЛЬНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Перад пачаткам прэзентацый папрасіце ўдзельнікаў звярнуць увагу на поспехі кожнай з кампаній, а таксама даць свае рэкамендацыі адносна таго, што можна было б зрабіць інакш у межах прэзентаваных кампаній.
Вельмі важна, каб у час прэзентацыі панавала добразычлівая атмасфера. Для гэтага можна нават увесці ўзгодненыя з удзельнікамі правілы паводзінаў у час прэзентацыі (напрыклад: крытыкуем думкі, а не іх аўтараў, выказваемся ад свайго імя, выказваемся па адным і г. д.).
Пастарайцеся дабіцца, каб ўдзельнікі актыўна выказвалі свае высновы.
Варта памятаць, што са сканчэннем кампаніі не сканчаецца патрэба працягваць працу ў накірунку вырашэння праблемы, якую абралі ўдзельнікі. Нават калі кампанія скончылася паспяхова, варта прадумаць наступныя крокі па маніторынгу (сачэнні) за тым, як выконваюцца адпаведныя рашэнні. Калі кампанія была непаспяховай, прэзентацыя і абмеркаванне вынікаў кампаній дазволіць зрабіць працу над памылкамі і ўбачыць новыя варыянты больш паспяховых дзеянняў па тых жа праблемах.

**3. Падсумаванне вынікаў занятку (12 хв.).**
У час падсумавання вынікаў занятку можна выкарыстаць наступныя пытанні:

- Чаму вы навучыліся за час удзелу ў рэалізацыі грамадскіх кампаній?
- На аснове якіх крытэрыяў можна ацэньваць паспяховасць грамадскіх кампаній?
- Якія яшчэ праблемы ў галіне правоў чалавека патрабуюць вырашэння ў вашай мясцовасці?

Падзякуйце ўдзельнікам занятку за працу!

# ЧАСТКА II. ПРЫКЛАДЫ ГРАМАДСКІХ КАМПАНІЙ

На міжнароднай сустрэчы экспертаў па адстойванні і прасоўванні інтарэсаў грамадскасці («advocacy»), якая была арганізаваная БДІПЧ АБСЕ 2—3 ліпеня 2008 г. у Варшаве, былі прадстаўленыя прыклады грамадскіх кампаній з Польшчы, Расіі, Украіны, Беларусі і Малдовы, якія выкарыстоўваліся пазней падчас навучання беларускіх удзельнікаў праграмы па навучанні, адстойванні і пашырэнні правоў чалавека праз грамадскі ўдзел. Некаторыя з гэтых кампаній прадстаўленыя ніжэй. У гэтую частку дапаможніка таксама ўвайшлі апісанні 4-х грамадскіх кампаній, праведзеных на працягу 2009 г. беларускімі ўдзельнікамі праграмы.

Прапанаваныя ніжэй матэрыялы кампаній можна выкарыстоўваць у час заняткаў у якасці дапаможнага матэрыялу, які можа быць выкарыстаны для тлумачэння розных аспектаў, звязаных з распрацоўкай і правядзеннем грамадскіх кампаній.

## 1. Грамадская кампанія

### «Ратуйце нашы вушы»

**Месца правядзення:** Орша, Беларусь
**Ініцыятары:** Аршанскае гарадское аб'яднанне «Беларускае таварыства абароны спажыўцоў», Орша.
**Час рэалізацыі і працягласць кампаніі:** 2009 г., 6 месяцаў.
**Апісанне праблемнай сітуацыі:** На тэрыторыі горада Оршы размешчаны найбуйнейшы чыгуначны вузел Беларусі. Ён уключае ў сябе будынкі і камунікацыі для рамонту і абслугоўвання чыгуначнага транспарту. Уздоўж і паміж чыгуначных шляхоў размешчаны тры жылыя раёны, у якіх жыве каля 20000 чалавек. Гэтыя людзі кожны дзень адчуваюць на сабе комплекс небяспечных для жыцця і здароўя фактараў, адным з якіх з'яўляецца ўздзеянне шуму чыгуначных саставаў. У сярэднім тут праходзіць каля 80 цягнікоў на суткі. Апроч таго, на гэтай тэрыторыі вядзецца кругласутачная работа па фарміраванні чыгуначных саставаў.

Санітарныя службы прызнаюць, што ўздзеянне шуму цягнікоў небяспечна для здароўя, але не інфармуюць жыхароў аб рэальным стане навакольнага асяроддзя ў гэтых раёнах. Нягледзячы на неаднаразовыя звароты грамадзян, адміністрацыя чыгункі не прадпрымае дзеянняў па абароне жыхароў ад небяспечных для жыцця і здароўя фактараў.
**Мэта кампаніі:** Дамагчыся ад органаў мясцовай улады прыняцця мер па абароне грамадзян горада Оршы ад уздзеяння шуму чыгуначнага транспарту на тэрыторыі жылой зоны чыгуначнага вузла.
**Мэтавыя групы кампаніі:**

- жыхары горада Оршы, якія жывуць у раёнах знаходжання чыгуначных шляхоў;
- мясцовыя органы выканаўчай і прадстаўнічай ўлады;
- санстанцыя;
- СМІ

**Кароткае апісанне дзейнасці ў межах кампаніі:** Уся дзейнасць у межах кампаніі была арганізавана з мэтай рэалізацыі патрабаванняў арт. 51 Закону «Аб ахове навакольнага асяроддзя».

Ініцыятыўная група звярнулася ў цэнтр гігіены і эпідэміялогіі і заключыла дагавор на правядзенне даследаванняў, якія павінны былі афіцыйна пацвердзіць факты перавышэння гранічна-дапушчальных нормаў шуму ў трох кантрольных пунктах на тэрыторыі жылой зоны чыгуначнага вузла.
Пасля атрымання звестак аб узроўні перавышэння нормаў, эксперты цэнтра падрыхтавалі папярэднія прапановы да гарадскіх уладаў, дзе акрэслілі неабходныя меры для памяншэння ўзроўню шуму. Таксама была арганізавана сустрэча жыхароў мікрараёнаў, якія знаходзяцца ля чыгункі, з прадстаўнікамі таварыства абароны правоў спажыўцоў і ініцыятыўнай групы. На сустрэчы абмеркавалі і зацвердзілі патрабаванні да мясцовых уладаў ды ўзгаднілі далейшы план дзейнасці.

Быў распрацаваны і надрукаваны накладам 5000 асобнікаў буклет з інфармацыяй пра магчымае негатыўнае ўздзеянне шуму на здароўе жыхароў мікрараёнаў, што знаходзяцца побач з чыгункай. Асобна быў выдадзены каляровы плакат (100 асобнікаў) памерам А2 з інфармацыяй пра небяспеку шуму для здароўя. На падставе праведзеных даследаванняў быў падрыхтаваны артыкул у мясцовую прэсу. Буклеты і плакаты распаўсюджвалі ў дамах побач з чыгункай. Такім чынам забяспечваўся доступ грамадскасці да інфармацыі пра рызыкі для здароўя ад уздзеяння шуму.

Апошнім этапам кампаніі быў збор подпісаў грамадзян пад зваротам да мясцовых улад аб прыняцці мер па абароне ад уздзеяння шуму чыгуначнага транспарту і сустрэча грамадзян з прадстаўнікамі мясцовай улады з мэтай ініцыяваць разгляд мясцовымі органамі выканаўчай улады і дэпутатамі звароту грамадзян.

**Вынікі кампаніі:** Афіцыйна пацверджаныя факты перавышэння гранічна-дапушчальных нормаў шуму ў трох кантрольных пунктах на тэрыторыі жылой зоны чыгуначнага вузла.
Забяспечаны доступ грамадскасці да інфармацыі пра рызыкі для здароўя ад уздзеяння шуму.
Ініцыяваны разгляд мясцовымі органамі выканаўчай улады і дэпутатамі зваротаў грамадзян аб прыняцці мер па абароне ад уздзеяння шуму чыгуначнага транспарту.
**Дадатковую інфармацыю** пра гэтую грамадскую кампанію можна атрымаць, звярнуўшыся па адрасе oleggr@tut.by

## 2. Грамадская кампанія
### «Захаваем жыццё дрэвам»

**Месца правядзення:** Гродна, Беларусь.
**Ініцыятары:** Гродзенскае аддзяленне грамадскага аб'яднання «Ахова птушак Бацькаўшчыны».
**Час рэалізацыі і працягласць кампаніі:** 2009 г., 6 месяцаў.
**Апісанне праблемнай сітуацыі:** На тэрыторыі Гродна пачасціліся выпадкі некантралюемай грамадскасцю вырубкі дрэваў камунальнымі службамі з дазволу мясцовых уладаў.
За перыяд з траўня па кастрычнік 2008 г. былі высечаныя дрэвы на схіле ля Бернардынскага касцёла, высечаны самы стары явар ля Каложскай царквы, ліпы на зав. Тэлеграфны.
Грамадзяне і актывісты абласнога аддзялення ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны» звярталіся да ўладаў з запытамі пра неабходнасць такіх татальных знішчэнняў дрэваў. Але і надалей знішчэнне дрэваў ажыццяўляецца камунальнымі службамі без папярэдняга інфармавання грамадскасці і без уліку інтарэсаў жыхароў. Дзеянні камунальных службаў парушаюць Закон «Аб раслінным свеце». Грамадскасць не інфармавана аб працэдуры прыняцця мясцовымі ўладамі рашэнняў пра высяканне дрэваў. Інфармацыя аб запланаваным высяканні не даводзіцца да грамадскасці праз мясцовую дзяржаўную прэсу, як гэтага патрабуе згаданы закон. Гарвыканкамам не вызначаны парадак абмеркавання з грамадскасцю запланаванай высечкі дрэваў. Улады не інфармуюць грамадскасць аб мерах, накіраваных на захаванне асяроддзя, спрыяльнага для жыцця чалавека.
**Мэта кампаніі:** Стварэнне магчымасці ўдзелу грамадзян у прыняцці рашэнняў адносна плануемых мясцовай уладай мерапрыемстваў па знішчэнні аб'ектаў расліннага свету ў Гродне.
**Мэтавыя групы кампаніі:**

- жыхары горада Гродна;
- цэнтральныя і мясцовыя органы выканаўчай і прадстаўнічай улады.

**Кароткае апісанне дзейнасці ў межах кампаніі:** На пачатку кампаніі з удзелам экспертаў быў праведзены аналіз заканадаўства, якое рэгламентуе абавязкі выканаўчага камітэту адносна знішчэння аб'ектаў расліннага свету ў населеных пунктах. У выніку былі вызначаны кампетэнцыі органаў дзяржаўнай улады, якія кантралююць выкананне гарвыканкамам прыродаахоўнага заканадаўства.

Далей былі распрацаваны і накіраваны звароты ў гарвыканкам, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Міністэрства прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя, Міністэрства юстыцыі, пракуратуру Гродна.
Паралельна з гэтай працай быў выдадзены і прэзентаваны грамадскасці дапаможнік «Захаваем жыццё дрэвам: грамадзянскі ўдзел» (наклад 500 асобнікаў), які ўтрымлівае апісанне паслядоўнасці дзеянняў грамадзян у выпадку правядзення імі дзеянняў, скіраваных на захаванне дрэваў, узоры зваротаў, скаргаў, нарматыўна-прававыя акты.
Таксама былі распрацаваны і выраблены налепкі з заклікам не дапускаць высякання дрэваў.

**Вынікі кампаніі:** Улада інфармуе грамадскасць аб прыродаахоўных мерапрыемствах, якія плануюцца адносна знішчэння дрэваў у Гродне.
Жыхары Гродна інфармаваны аб магчымасцях удзелу ў прыняцці рашэнняў адносна мерапрыемстваў па знішчэнні аб'ектаў расліннага свету.
Мясцовымі ўладамі разгледжаны прапановы грамадскасці па захаванні аб'ектаў расліннага свету Гродна.

**Дадатковую інфармацыю** пра гэтую грамадскую кампанію можна знайсці, звярнуўшыся па адрасе letulenka@tut.by, а таксама на інтэрнэт-старонках:
http://hramadzianin.org//articles.php?mild=191&lang=by
http://hramadzianin.org//library.php?mild=26&lang=by&bld=43

# 3. Грамадская кампанія

## «Мамаграфічнае абследаванне малочнай залозы — гарантыя жаночага здароўя»

**Месца правядзення:** Смаргонь (Гродзенская вобласць), Мазыр (Гомельская вобласць), Беларусь.
**Ініцыятары:** Смаргонскае аддзяленне грамадскага аб'яднання «Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын».
**Час рэалізацыі і працягласць кампаніі:** 2008-2009 г., 6 месяцаў.
**Апісанне праблемнай сітуацыі:** На тэрыторыі Беларусі з году ў год назіраецца рост колькасці анкалагічных захворванняў малочнай залозы ў жанчын. Прафілактыка рака малочнай залозы і выяўленне прыкмет рака на ранніх стадыях дазваляе захаваць не толькі жыццё і здароўе жанчыны, але і яе прыгажосць, а таксама яе псіхічнае здароўе і часта сямейнае шчасце.
Разам з тым у Беларусі даволі слаба развітая культура абследавання малочнай залозы жанчынамі самастойна, а медыцынскія ўстановы не маюць дастаткова фінансаў і жадання скіроўваць большыя намаганні на абследаванні і папярэджанне захворванняў, робячы ўхіл на лячэнне, а не на папярэджанне.
**Мэта кампаніі:** Стварэнне ўмоў для забеспячэння свабоднага доступу жанчын да сучаснага і якаснага медыцынскага абследавання малочнай залозы — мамаграфіі.
**Мэтавыя групы кампаніі:**

- міністэрства аховы здароўя;
- жанчыны;
- жаночыя грамадскія арганізацыі;
- грамадская думка;
- СМІ;
- урачы-анколагі і мамолагі.

**Кароткае апісанне дзейнасці ў межах кампаніі:** У снежні 2008 г. стартавала кампанія «Мамаграфічнае абследаванне малочнай залозы — гарантыя жаночага здароўя».
Былі створаны 2 ініцыятыўныя групы па 4 чалавекі для павышэння дасведчанасці і інфармаванасці жанчын аб праблеме раку малочнай залозы і сучасных метадах ранняй дыягностыкі захворвання. З іх дапамогай праведзены 16 інфармацыйных сустрэч, у якіх прынялі ўдзел 804 жанчыны розных узростаў.

Распаўсюджана 1000 буклетаў аб мамаграфіі, 500 буклетаў «Дзеля жыцця» аб метадах самаабследавання. У кампанію ўцягнутыя 3 ўрачы, 52 медработнікі.

13 сакавіка 2009 г. ініцыятыўная група кампаніі прыняла ўдзел у рабоце трэцяга Сацыяльнага Форуму ў г. Магілёў. Для форуму падрыхтаваны артыкул і выступленне «Ранняя дыягностыка ратуе жыццё». Удзельнікі Форума падтрымалі ініцыятыву арганізатараў кампаніі па стварэнні ўмоў для праходжання абавязковага рэгулярнага, прафілактычнага мамаграфічнага абследавання малочнай залозы.
Аб правах жанчын — спажыўцоў медыцынскіх паслуг і прафілактыцы і сучасных метадах ранняй дыягностыкі рака малочнай залозы інфармавалі не толькі мясцовыя СМІ (газета «Светлы Шлях», Смаргонь, рэгіянальнае тэлебачанне «ОКС-ТВ», Смаргонь), але і агульнанацыянальныя выданні («Комсомольская правда в Белорусии», «Беларуская Ніва»).
Кампанія атрымала рэзананс і стымулявала прадстаўнікоў розных груп грамадскасці да пэўных дзеянняў, аб чым сведчыць дабрачынная акцыя «Месяц здароўя жаночых грудзей», якая праходзіла ў Мінску з 4 чэрвеня па 4 ліпеня. Арганізатарамі кампаніі быў падрыхтаваны зварот у Міністэрства аховы здароўя Беларусі з просьбай стварыць умовы ў Смаргоні і Мазыры для мамаграфічнага абследавання жанчын на бясплатнай аснове. Пад зваротам падпісаліся 592 чалавекі (замест планаваных 250). Зварот падпісвалі не толькі жанчыны, але і члены іх сем'яў.
**Вынікі кампаніі:** Каля трох тысяч чалавек праінфармаваны аб метадах дыягностыкі рака грудзей.
Прыцягнута ўвага да праблемы прадстаўнікоў структур аховы здароўя ў Смаргоні і Мазыры, анколагаў і мамолагаў.
Кіраўнікі рэгіянальных аддзяленняў «Беларускай асацыяцыі маладых хрысціянскіх жанчын» выказалі намер пашырыць тэрыторыю дзейнасці кампаніі на іншыя гарады Беларусі:
(Мінск, Баранавічы, Гомель, Наваполацк, Бабруйск, Слонім).
У межах акцыі жанчыны мелі магчымасць бясплатна прайсці абследаванне ў лепшых мамолагаў Беларусі на базе цэнтра «Нардзін».

**Дадатковую інфармацыю** пра гэтую грамадскую кампанію можна атрымаць па адрасах:
marina_belevich@mail.ru, frenkelira@mail.ru

# 4. Грамадская кампанія
## «Здаць кроў без бар’ераў!»

**Месца правядзення:** Магілёў, Беларусь.
**Ініцыятары:** Дабрачыннае грамадскае аб’яднанне «Кропля жыцця».
**Час рэалізацыі і працягласць кампаніі:** 2009 г., 6 месяцаў.
**Апісанне праблемнай сітуацыі:** У Магілёве жыве каля 3 тыс. донараў. Усе яны сутыкаюцца з цэлым шэрагам праблем, якія ўплываюць на іх здароўе і адбіваюцца на спажыўцах донарскіх паслуг.
Перад тым, як здаць кроў, донару неабходна адстаяць чаргу ў рэгістратуры за талонам, затым чаргу да тэрапеўта. Такая працэдура існуе ва ўсіх дзесяці паліклініках горада.
Наступнай праблемай з’яўляецца адсутнасць спецыялізаванага лекара і кабінета ў гэтых паліклініках. Донарам даводзіцца траціць значны час на падладжванне да графіку прыёму ўрача, пастаяннае чаканне ў чэргах. Пры гэтым існуе сур’ёзная верагоднасць заражэння інфекцыйнымі захворваннямі (грып, ВРЗ, ВРВІ).
У выніку многія патэнцыйныя донары так і не становяцца донарамі рэальнымі.

**Мэта кампаніі:** Стварэнне ўмоў для аператыўнай кансультацыі і абследавання донараў у Магілёве.
**Мэтавыя групы кампаніі:**
- чыноўнікі аддзела аховы здароўя;
- дэпутаты мясцовых саветаў;
- донары і патэнцыйныя донары;
- грамадзяне, залежныя ад донарскага ўдзелу.

**Кароткае апісанне дзейнасці ў межах кампаніі:** Кампанія пачалася з вывучэння праблемы сярод донараў горада. У выніку было апытана 1000 донараў Магілёва на двух стацыянарных пунктах пералівання крыві.

На падставе атрыманай інфармацыі быў распрацаваны і выдадзены інфармацыйны бюлетэнь «Здаць кроў без бар’ераў» накладам 1500 асобнікаў. Бюлетэнь быў распаўсюджаны на двух стацыянарных пунктах пералівання крыві, у абласным аддзеле аховы здароўя, паліклініках г. Магілёў і сярод дэпутатаў гарсавета і аблсавета.
Былі арганізаваныя 2 круглыя сталы «Здаць кроў без бар’ераў — досвед заходніх краін у падтрымцы донараў» (на якім абмяркоўвалася магчымасць укаранення еўрапейскіх стандартаў у абслугоўванні як дзейсных, так і патэнцыйных донараў, аналізаваліся праблемы беларускага донарства) і круглы стол, прысвечаны абмеркаванню шляхоў паляпшэння існуючай сітуацыі. У працы круглых сталоў прымалі ўдзел не толькі донары, але і прадстаўнікі медыцынскіх службаў і дэпутаты.
У мясцовых СМІ былі апублікаваныя тры артыкулы аб праблемах донарства ў Беларусі і, у прыватнасці, у Магілёве.

Апроч таго, у межах кампаніі адбываліся працоўныя сустрэчы з чыноўнікамі, на якіх абмяркоўваліся магчымасці атрымання фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы ў выглядзе аплаты працы медработнікаў, якія будуць абслугоўваць донарскі кабінет.

**Вынікі кампаніі:** Палепшылася інфармаванасць донараў, супрацоўнікаў службаў аховы здароўя, дэпутатаў, аб праблемах беларускіх донараў.
Донары і прадстаўнікі ўладаў абмеркавалі магчымыя шляхі вырашэння праблемных сітуацый.
Улады, аднак, не здолелі знайсці фінансаванне на адкрыццё спецыяльных донарскіх кабінетаў.
**Дадатковую інфармацыю** пра гэтую грамадскую кампанію можна атрымаць па адрасе beldonor@gmail.com і на інтэрнэт-старонцы www.beldonor.org

# 5. Грамадская кампанія
## «Зберажэнне лесу ў раёне мемарыяльнага комплексу «Гостра Могила»

**Месца правядзення:** Луганск, Украіна.
**Ініцыятары:** Усходнеўкраінскі цэнтр грамадскіх ініцыятыў сумесна з партнёрскімі грамадскімі арганізацыямі і грамадзянамі Луганску.
**Апісанне праблемнай сітуацыі:** Луганская гарадская рада прыняла рашэнне пра знос часткі лесапарку ў ваколіцах горада і будаўніцтва на гэтым месцы гіпермаркету і забаўляльнага цэнтру. Супраць гэтага выступілі мясцовыя жыхары, якія хацелі захаваць лес, на тэрыторыі якога планавалася будаўніцтва. Апроч таго, у гэтым месцы знаходзіліся масавыя пахаванні людзей, расстраляных у часы панавання сталінскага рэжыму ў 1937—1941 гг., а таксама масавыя пахаванні яўрэяў, расстраляных тут у гады Другой Сусветнай вайны. Акрамя таго, у лесе знаходзяцца пахаванні хатніх жывёлаў, ускрыццё якіх магло прывесці да распаўсюджання інфекцыйных захворванняў.
**Мэта кампаніі:** Адмена рашэння пра будаўніцтва камерцыйных аб'ектаў у гэтым раёне горада.
**Мэтавыя групы кампаніі:**
- структуры мясцовай выканаўчай і заканадаўчай улады;
- Прэзідэнт Украіны;
- грамадскасць горада.

**Кароткае апісанне дзейнасці ў межах кампаніі** Першымі дзеяннямі ініцыятыўнай групы па правядзенні грамадскай кампаніі было накіраванне подпісаў грамадзян за спыненне будаўніцтва на адрас старшыні абласной адміністрацыі, гарадскога галавы, а таксама Прэзідэнта Украіны. Гэтыя дзеянні, аднак, не далі выніку.
Тады ініцыятыўная група скарысталася падтрымкай мясцовых грамадскіх арганізацый.
Былі арганізаваныя прэс-канферэнцыя, збор подпісаў і некалькі акцый, скіраваных на прыцягненне ўвагі грамадскасці да гэтай праблемы.
У прыватнасці, была арганізавана фотавыстава з ілюстрацыямі лесапарку, якому пагражала знішчэнне. На фотаздымках былі змешчаныя надпісы «SOS! Врятуйте наш гай!», «Краса врятує світ. А хто врятує красу?», «Зозуля-зозуля, скажи, скільки гаєві жити залишилося?» і інш. Жыхарам Луганска раздавалі зменшаныя копіі фотаздымкаў з інфармацыяй пра намеры ўладаў знесці лесапарк. Быў падрыхтаваны таксама зварот да рады дырэктараў кампаніі «Метро», якая збіралася будаваць гіпермаркет. Паколькі офіс кампаніі знаходзіцца ў Германіі, зварот, у якім казалася пра тое, што планы па будаўніцтве гіпермаркета парушаюць правы жыхароў горада і не ўлічваюць іх інтарэсы, быў перададзены праз пасла Германіі ў Украіне.
Былі падрыхтаваныя таксама новыя звароты ў органы ўлады. Па мясцовым тэлебачанні былі паказаныя ролікі пра запаведнік, які знаходзіцца побач з месцам будаўніцтва, з'явіліся артыкулы ў мясцовых СМІ і ў Інтэрнэце. Да ўдзелу ў кампаніі ўдалося прыцягнуць палітыкаў і царкоўных дзеячаў.
Усходнеўкраінскім цэнтрам грамадскіх ініцыятыў у 2008—2010 гг. быў праведзены цэлы шэраг мерапрыемстваў для мясцовых актывістаў, накіраваных на распрацоўку і прасоўванне грамадскай кампаніі ў абарону лесапарку. Цэнтр неаднаразова здзяйсняў метадычную, інфармацыйную і фінансавую падтрымку мерапрыемстваў ініцыятыўных груп па захаванні лесапарку.
**Вынікі кампаніі:** Пракуратура апратэставала рашэнне Луганскай гарадской рады пра вылучэнне зямлі пад будаўніцтва. Пратэст, аднак, быў адхілены дэпутатамі гарадской рады.
У адказ у горадзе распачалася грамадская кампанія «Зялёны Луганск — здаровыя луганчане». Яе мэтай стала забеспячэнне зберажэння зялёных лесапасадак у горадзе і найперш лесу ў раёне Гострай Магілы.
У межах кампаніі сталі рэгулярнымі акцыі па прыборцы лесу ад смецця, пасадцы там новых дрэваў, зборы подпісаў пад зваротам да Прэзідэнта Украіны з просьбай паўплываць на вырашэнне сітуацыі і прымусіць органы мясцовай улады ўлічыць інтарэсы мясцовага насельніцтва ў гэтым пытанні. Пад зваротам падпісаліся каля 1,5 тыс. чалавек.
У горадзе адбыліся грамадскія дэбаты, прысвечаныя абмеркаванню планаў па пабудове гіпермаркета. Мясцовая моладзь арганізавала тэатралізаваны пратэст у час сесіі гарадской рады. Дзеянні грамадскасці вымусілі гарадскую раду адмовіцца ад ідэі высякання лесапарку на карысць ідэі яго пераўтварэння ў «абкультураную» паркавую зону.
У красавіку 2008 г. рашэнне пра вылучэнне зямлі для будаўніцтва камерцыйных аб'ектаў на месцы лесу было абскарджана ў судзе, які прызнаў рашэнне дэпутатаў Гарадской Рады незаконным.
Па стане на вясну 2010 г. грамадскасці ўдалося абараніць лесапарк ад забудовы, хоць пагроза знішчэння дрэваў застаецца. Грамадскія актывісты працягваюць змагацца за захаванне лесапарку.
**Дадатковую інфармацыю** пра гэтую грамадскую кампанію можна знайсці тут:
Східноукраїнський центр громадських ініціатив
30-й квартал, буд.2, кв. 14, м. Луганьск
http://www.totalaction.org.ua/sites/default/files/Report_zemlya2008.pdf
zahyst@gmail.com

# 6. Грамадская кампанія
## «Нараджаць па-людску»

**Месца правядзення:** Польшча.
**Ініцыятары:** Група актывістак экалагічных арганізацый, журналісты «Gazety Wyborczej» і штомесячнага выдання для бацькоў «Twoje Dziecko».
**Апісанне праблемнай сітуацыі:** Умовы ў радзільных дамах Польшчы ў пачатку 90-х гг. ХХ ст. характарызаваліся цэлым шэрагам з'яваў, якія зневажалі гонар і годнасць асобы. Ізаляцыя парадзіх ад блізкіх, адсутнасць магчымасці ўплываць на працэс падрыхтоўкі да родаў і дагляду пасля родаў, паўсюднае парушэнне інтымнасці і прыватнасці (роды ў агульных залах, празрыстыя кашулі, спецыяльныя працэдуры кшталту клізмаў, якія праводзіліся ва ўмовах, далёкіх ад інтымных), адасабленне нованароджаных ад маці пасля родаў — усё гэта парушала правы чалавека на годнае стаўленне.
**Мэта кампаніі:** Паляпшэнне ўзроўню перынатальнай апекі і ўмоваў дагляду маці і дзіцяці ў радзільных дамах Польшчы.
**Мэтавыя групы кампаніі:**

- жанчыны пасля родаў і іх сем'і;
- грамадская думка;
- дактары і акушэры;
- людзі, ад якіх залежала прыняцце рашэнняў, звязаных з якасцю абслугоўвання жанчын і іх дзетак у радзільных дамах Польшчы.

**Кароткае апісанне дзейнасці ў межах кампаніі:** У 1994-м г. па ініцыятыве некалькіх прадстаўніц экалагічных арганізацый, а таксама журналістаў найбуйнейшай польскай газеты «Gazeta Wyborcza» і штомесячнага выдання для бацькоў «Twoje Dziecko» стартавала першая акцыя ў межах грамадскай кампаніі «Нараджаць па-людску».
Са старонак «Gazety Wyborczej» ініцыятары акцыі звярнуліся да чытачоў з просьбай дасылаць гісторыі свайго знаходжання ў радзільных дамах. Частка гэтых лістоў (без называння прозвішчаў іх аўтараў) друкавалася ў газеце.
Апроч таго, была складзеная анкета для жанчын, з дапамогай якой можна было ацаніць умовы для родаў у польскіх радзільных дамах. Асобная анкета па ацэнцы арганізацыі працэсу родаў і пасляродавага дагляду была распрацаваная для загадчыкаў акушэрскіх аддзяленняў і аддзелаў для нованароджаных.
Спецыяльна для журналістаў (а ў 2006 г. — для спецыяльна падрыхтаваных рэспандэнтаў) была распрацаваная карта назірання за ўмовамі абслугі кліентаў у радзільных дамах.
З дапамогай такіх анкет і карт назірання была сабраная інфармацыя пра ўсе радзільныя дамы ў Польшчы (423 па стане на 2006 г.).
Для апісання радзільных дамоў былі распрацаваныя спецыяльныя крытэрыі, якія тычыліся не столькі медыцынскіх паказчыкаў, колькі асноўных правоў пацыента і чалавека — на годнасць, інтымнасць, інфармацыю і г. д.
На аснове гэтых крытэрыяў радзільным дамам прысуджаліся зорачкі і сэрцайкі.
Шпіталь мог трымаць максімум 5 зорачак і 5 сэрцайкаў.
Зоркі прысуджаліся за «свабодныя» роды, магчымасць прысутнасці ў час родаў блізкага чалавека, кантакт з дзіцём непасрэдна пасля родаў, дапамогу і падтрымку пасля родаў.
Сэрцы даваліся за добразычлівае стаўленне (у прыёмным пакоі, радзільнай залі, пасляродавым аддзяленні), дапамогу, кансультаванне, годнае стаўленне, павагу да інтымнасці, захаванне права на згоду альбо адмову ад медыцынскага ўмяшальніцтва.
Шпіталі, дзе да жанчын ставіліся асабліва кепска, атрымлівалі «чорнае сэрца».
Акцыя затым была паўтораная ў 1995, 2000 і 2006 гг.
Сабраныя звесткі друкаваліся ў спецыяльным каталогу радзільных аддзяленняў.
**Вынікі кампаніі:** Акцыя зрабіла тэму нараджэння дзіцяці тэмай для грамадскай дыскусіі. Роды перасталі быць другасным пытаннем, якое тычыцца толькі жанчын. Жанчыны перасталі быць маўклівымі, паслухмянымі пацыенткамі і сталі больш свядомымі спажыўцамі медычных паслуг. Істотна змяніліся ўмовы ў радзільных дамах (роды ў прысутнасці блізкага чалавека, парадак наведванняў, сумеснае знаходжанне маці і дзіцяці пасля родаў і г. д.).
У 1996 г. быў створаны фонд «Нараджаць па-людску», які надалей каардынуе дзейнасць у гэтай сферы. Зараз дзейнасць фонду сканцэнтраваная на забеспячэнні правоў пацыента як рэальнага элемента дагляду за жанчынай, распрацоўцы агульнадзяржаўных стандартаў дагляду за парадзіхамі, ліквідацыі нелегальнай аплаты за паслугі ў радзільных дамах.
Супрацоўнікі фонду былі запрошаныя ў экспертную групу пры Міністэрстве аховы здароўя, якая займалася распрацоўкай перынатальных стандартаў і праекта закону аб правах пацыента.
**Дадатковую інфармацыю** пра грамадскую кампанію «Нараджаць па-людску» можна знайсці тут:
Fundacja Rodzi po Ludzku | u. Nowolipie 13/15 00-150 Warszawa | www.rodzicpoludzku.pl
fundacja@rodzicpoludzku.pl

# 7. Усеўкраінская кампанія па лабіраванні, падпісанні і ратыфікацыі Ўкраінай Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў

**Месца і час правядзення:** Украіна, 2007—2008 гг.
**Ініцыятары:** Нацыянальная Асамблея інвалідаў Украіны.
**Апісанне праблемнай сітуацыі:** Ва Украіне жыве больш за 2,5 млн людзей з інваліднасцю. Украінскае заканадаўства і практыка яго выканання не цалкам забяспечвалі рэалізацыю правоў інвалідаў, зафіксаваных у Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў, прынятай 13 снежня 2006 г. Гэта першае міжнароднае пагадненне, якое абавязвае абараняць правы інвалідаў (пазнаёміцца са зместам Канвенцыі можна па адрасе www.un.org/russian/disabilities/default.asp?navid=128pid=506)
**Мэта кампаніі**: Падпісанне і ратыфікацыя Украінай Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў.
**Мэтавыя групы кампаніі:**

- асобы з інваліднасцю і іх сем'і;
- грамадскія арганізацыі;
- прадстаўнікі мясцовых органаў улады, якія прымаюць рашэнні;
- народныя дэпутаты Украіны.

**Кароткае апісанне дзейнасці ў межах кампаніі:** На працягу жніўня—лістапада 2007 г. у 27 абласцях Украіны былі праведзеныя грамадскія слуханні, круглыя сталы «Канвенцыя ААН аб правах інвалідаў. Забеспячэнне правоў людзей з інваліднасцю ў Украіне». Іх удзельнікамі былі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый інвалідаў, праваабарончых арганізацый, улады, журналісты.
Былі сабраныя больш за 3 тысячы подпісаў грамадзян Украіны ў падтрымку падпісання Украінай Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў. Подпісы былі накіраваныя ў Сакратарыят Прэзідэнта Украіны.
Праведзены Маладзёжны інтэграваны форум, удзельнікі якога падпісалі зварот да ўраду Украіны пра неабходнасць падпісання Канвенцыі.

Тэкст Канвенцыі быў перакладзены на ўкраінскую мову, а таксама выдадзены шрыфтам Брайля для людзей без зроку. Была таксама выдадзена адаптаваная для дзяцей версія Канвенцыі.
Для дэпутатаў быў падрыхтаваны дапаможнік па Канвенцыі ААН аб правах інвалідаў.
Праведзены прэс-канферэнцыі і прэс-клубы для журналістаў.
Арганізаваны маніторынг даступнасці аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры для людзей з інваліднасцю, а таксама маніторынг забеспячэння правоў людзей з інваліднасцю.
На працяг ўсёй кампаніі Нацыянальная Асамблея інвалідаў Украіны праводзіла працоўныя сустрэчы ў профільных камітэтах Вярхоўнай Рады Украіны.

**Вынікі кампаніі:** У кампаніі былі задзейнічаны 27 абласцей Украіны, што дазволіла інфармаваць пра Канвенцыю і неабходнасць яе падпісання не толькі людзей з інваліднасцю і іх блізкіх, але і прадстаўнікоў грамадскасці ды ўлады.
Інфармацыю пра Канвенцыю атрымалі 450 народных дэпутатаў Украіны, што паскорыла працэс ратыфікацыі Канвенцыі.
24 верасня 2008 г. Прэзідэнт Украіны Віктар Юшчанка падпісаў Канвенцыю.
16 снежня 2009 г. Канвенцыя была ратыфікавана Вярхоўнай Радай Украіны.
6 сакавіка 2010 г. Канвенцыя ААН аб правах інвалідаў ўступіла ў дзеянне на тэрыторыі Украіны.

**Дадатковую інфармацыю** пра гэтую грамадскую кампанію можна знайсці тут:
Національна Асамблея інвалідів України
01034, м. Київ, вул. Рейтарська, 8/5а, к. 110
www.naiu.org.ua
office@naiu.org.ua

# 8. Грамадская кампанія па забеспячэнні даступнасці нацыянальных стандартаў якасці і бяспекі прадукцыі і паслуг

**Месца і час правядзення:** Расія, 2006—2007 гг.
**Ініцыятары:** Інстытут развіцця свабоды інфармацыі, Санкт-Пецярбург.
**Апісанне праблемнай сітуацыі:** У Расіі доўгі час існавала практыка, калі тэксты нацыянальных стандартаў якасці і бяспекі прадукцыі і паслуг распаўсюджваліся выключна на камерцыйнай аснове. Замест вольнага доступу да тэкстаў гэтых стандартаў Федэральнае агенцтва па тэхнічным рэгуляванні і метралогіі («Ростехрегулирование») прадавала гэтую інфармацыю. У 2006 г. Інстытут выйграў судовую справу супраць Федэральнага агенцтва па тэхнічным рэгуляванні і метралогіі. Суд абавязаў гэтую арганізацыю забяспечыць публікаванне на сваім сайце нацыянальных стандартаў і агульнарасійскіх класіфікатараў. Гэтая справа выклікала вялікі грамадскі рэзананс, паколькі ўпершыню ў Расіі было абаронена права грамадзян на доступ да спецыфічнай інфармацыі, якая закранае інтарэсы мільёнаў спажыўцоў і вытворцаў.
Тым не менш, Федэральнае агенцтва па тэхнічным рэгуляванні і метралогіі на працягу доўгага часу пасля рашэння суда адмаўлялася публікаваць у адкрытым доступе на сваім сайце патрэбную інфармацыю.
Тады Інстытут развіцця свабоды інфармацыі распачаў грамадскую кампанію ў абарону даступнасці нацыянальных стандартаў.
**Мэта кампаніі:** Забеспячэнне даступнасці нацыянальных стандартаў якасці і бяспекі прадукцыі і паслуг на сайце Федэральнага агенцтва па тэхнічным рэгуляванні і метралогіі.
**Мэтавыя групы кампаніі:**

- структуры выканаўчай улады;
- грамадзяне.

**Кароткае апісанне дзейнасці ў межах кампаніі:** У межах кампаніі быў арганізаваны масавы зварот грамадзян у структуры ўлады з патрабаваннем забяспечыць выкананне судовага рашэння аб змяшчэнні ў вольным доступе нацыянальных стандартаў на сайце Федэральнага агенцтва па тэхнічным рэгуляванні і метралогіі.
**Вынікі кампаніі:** Пасля шматлікіх зваротаў Інстытута і грамадзян Урадавая камісія па правядзенні адміністратыўнай рэформы на пасяджэнні 25 верасня 2007 г. прыняла рашэнне аб мэтазгоднасці змяшчэння нацыянальных стандартаў на сайце Федэральнага агенцтва па тэхнічным рэгуляванні і метралогіі на сталай аснове і забеспячэнні свабоднага і бясплатнага доступу да гэтых стандартаў.
У снежні 2007 г. выйшла пастанова ўраду Расійскай Федэрацыі, згодна з якой Федэральнае агенцтва па тэхнічным рэгуляванні і метралогіі было абавязана апублікаваць у вольным доступе нацыянальныя стандарты якасці і бяспекі прадукцыі і паслуг.
На працягу 2008 г. на афіцыйным сайце Федэральнага агенцтва па тэхнічным рэгуляванні і метралогіі былі змешчаныя тэксты большасці нацыянальных стандартаў.
Разам з тым, на думку супрацоўнікаў Інстытута, Агенцтва штучна ўскладняе працэдуру доступу зацікаўленых асобаў да гэтай інфармацыі.

**Дадатковую інфармацыю** пра гэтую грамадскую кампанію можна знайсці тут:
Институт развития свободы информации
196105, г. Санкт-Петербург, а\я 354
www.svobodainfo.ru/
institute@svobodainfo.org



**Правы чалавека** – асаблівы механізм. Ад актыўнасці грамадзян залежыць тое, як гэты механізм будзе працаваць. Наш дапаможнік прызначаны для ўсіх тых, хто гатовы і хто жадае навучыцца прыводзіць у дзеянне механізм абароны і пашырэння правоў чалавека ў Беларусі.

**Гэты дапаможнік, а таксама іншыя адукацыйныя і прававыя матэрыялы вы можаце знайсці на інтэрнэт-рэсурсе WWW.HRAMADZIANIN.ORG, прызначаным для адукатараў, праваабаронцаў і ўсіх актыўных асоб.**